ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕС[ь]

# САВЕЦКАЯ КРАЇНА





ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Сьнежань
№ 12
(23)
1932



*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

СЬНЕЖАНЬ

№ 12 (26)





МЕНСК — 1932

І. З. Сурта

# За падвышэньне ўраджайнасьці соцыялістычных палёў[1]

У гісторыі разьвіцьця трох Акадэмій Навук СССР скліканьне пленарных паседжаньняў (сэсій) мае вялізарнае навуковае значэньне. Сэсіі звычайна падводзяць вынікі работы Акадэмій за пэўны пэрыод часу, намячаюць пэрспэктывы яе, ставяць на вырашэньне важнейшыя проблемы.

У гэтым яны нават знадворна зусім адрозьніваюцца ад Акадэмій капіталістычных краін. У той час, як Акадэміі Захаду, ахоўваючы сьвятое—сьвятых буржуазнай навукі, абараняючы фашызм, па сутнасьці ліквідуюць навуку, нашы Акадэміі ідуць шляхам *супроцьлеглым*—сваёй навукова-дасьледчай работай уздельнічаючы ў будаўніцтве соцыялізму, разьвіваюць самую навуку на аснове дыялектычнага матар'ялізму. На работах Акадэмій нашага Саюзу, вучоны Захаду ня можа ня бачыць росту нашага Саюзу, узмацненьня яго *дзяржаўнай* сыстэмы (дыктатуры пролетарыяту), яго соцыялістычнай гаспадаркі і яго *навуковай* базы. Ён ня можа ня бачыць таго, чаму *мы расьцем* і чаму яны *коцяцца ў бяздоньне,* чаму мы ня ведаем упынку ў сваім росьце ў той час, калі капіталістычны Захад і Амэрыка конвульсуюць у абоймах крызісу.

Ня трэба быць вялікім вучоным, каб зразумець тое, чаму ў самых багатых капіталістычных краінах *зачыняюцца* старэйшыя навуковыя і культурныя ўстановы і чаму ў СССР, колькі-б мы ні будавалі, мы ніколі ня вычарпаем мажлівасьцяў будаўніцтва навуковых і культурных устаноў. Мы шпарка расьцем, але нас і гэты шпаркі рост навуковых устаноў не задавальняе, ён за-малы, ён адстае ад запатрабаваньняў соцыялістычнага будаўніцтва краіны, якое разгортваецца яшчэ больш шпарка.

Нельга не разумець прычын таго, чаму, напрыклад, фашысцкая Польшча зачыняе ўсе беларускія культурныя ўстановы і школы—*ліквідуе* культуру малых нацыянальнасьцяў, у той час як БССР усямерна яе разьвівае, будуе *нацыянальную* па форме і *соцыялістычную* па зьместу культуру ўсіх нацыянальнасьцяў краіны.

Нельга не разумець, чаму, напрыклад, у Англіі гіне з голаду сусьветны вучоны—Росс, які адкрыў прычыны захворваньня на малярыю (адну з цяжкіх хвароб сучаснага грамадзтва) і чаму ў СССР вучоны абкружаецца ўсё большаю і большаю ўвагаю з боку партыі, ураду і савецкае грамадзкасьці.

[1] Да сэсіі Беларускай Акадэміі Навук.

Нельга не разумець, чаму фашысцкая Польшча над акадэмікам Беларускай Акадэміі Навук тав. Тарашкевічам зьдзекуецца, ладзячы бутафорскі суд, ссылаючы яго на катаргу, у той час як БССР сьвяткуе юбілей Купалы і Коласа. Цяжка не зразумець таго, чаму вучоны буржуазіі церпіць страшэннае беспрацоўе і голад, у той час, калі ў СССР перад вучоным адчынены шырачэйшыя пэрспэктывы для творчай работы. Трэба зразумець, што *саюз інтэлігенцыі* (і вучоных у прыватнасьці) *з буржуазіяй капіталістычных краін* вядзе навуку да краху і асуджае на беспэрспэктыўнасьць і, нярэдка, на сьмерць самога вучонага.

Наадварот, *саюз працоўнай інтэлігенцыі з рабочай клясай, прыводзячы да перамогі дыктатуры рабочай клясы, якая забясьпечвае рост* народнай гаспадаркі, канечна абумаўляе нябачаны ў гісторыі рост навуковых устаноў і разьвіцьцё самой навукі, адкрываючы тым самым шырачэйшыя мажлівасьці для творчасьці вучонага.

Трэба зразумець, што *рост навукі* і саміх *вучоных кадраў* магчымы толькі там, дзе вучоны ператвараецца ў *роўнапраўнага* члена сям'і працоўных, дзе ён робіцца будаўніком соцыялізму.

Словам, у сучасным становішчы навукі, у адносінах да самога вучонага цяжка ня бачыць вострай клясавай барацьбы на фронце навукі.

Сэсіі Акадэмій СССР, дэмонструючы наш гаспадарчы і палітычны рост, паказваюць, які шырокі размах прыняла *навуковая* работа ў нашай краіне. Нядаўняя работа сэсій Саюзнай і Ўсеўкраінскай акадэмій навук, якія падводзілі вынікі 15-гадовай работы, і адчыняемая 20 сьнежня работа *нашай* Акадэміі паказваюць, як далёка пайшла навуковая работа ў СССР, як глыбока яна пранікла ў народна-гаспадарчую проблематыку, проблематыку прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і культуры краіны.

Прадметам сэсій нашых Акадэмій зьяўляюцца не схоластычныя пытаньні, адарваныя ад жыцьця, а актуальнейшыя проблемы *соцыялістычнага будаўніцтва.* Проблемы: геолёгіі, геохэміі, прамысловай неарганічнай і арганічнай хэміі; проблемы экономікі( як промблема Вялікага Дняпра і інш.), проблемы, зьвязаныя з падвышэньнем *ураджайнасьці* сельскае гаспадаркі; проблемы азоту, алюміну, сынтэтычнага каўчуку, жалеза, чорных мэталяў, сельскагаспадарчых машын і зярновая, проблема электрыфікацыі і хэмізацыі краіны—вось проблемы об'ектаў, якія стаяць у парадку дня сэсій. Такава сувязь з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, такава сувязь з сапраўднасьцю, сувязь з жыцьцём краіны. Ясна, што ў такой вялізарнай рабоце ня можа ня быць і буйных недахопаў, і яны сапраўды ёсьць. Зьмест работы сэсіі *нашай* Акадэміі зводзіцца па сутнасьці да прапрацоўкі аднэй асноўнай проблемы, проблемы *падвышэньня ўраджайнасьці* сельскае гаспадаркі БССР. Навакол гэтай асноўнай проблемы організуецца амаль уся работа нашай сэсіі, паколькі *аднэй з важнейшых гаспадарчых палітычных і культурных задач* на даным этапе зьяўляецца іменна *задача падвышэньня ўраджайнасьці.* Ясна, што і навуковыя організацыі

БССР павінны гэтую задачу ставіць, як адну з асноўных, як адну з галоўнейшых ў сваёй рабоце задач.

Партыя і ўрад лічаць, што „надышоў час, калі ад росту гаспадаркі ўшырыню, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна павярнуць да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця“.

Задачай усіх навуковых устаноў краіны зьяўляецца мобілізацыя ўсіх сваіх сіл на дапамогу партыі па вырашэньню гэтай актуальнейшай проблемы ў галіне практыкі і тэорыі, у галіне соцыялістычнага земляробства. *Мэтодолёгічна* задача ставіцца так, каб разьвязаць яе не жонгляваньнем дыялектычнымі фразамі, а здолець даць узоры работ, якія паказваюць правільнае разуменьне *адзінства тэорыі і практыкі* па гэтай конкрэтнай проблеме. Ня можна забывацца на тое, што ў нашых умовах сувязь тэорыі з практыкай, абумаўляючы запладненьне тэорыі практыкай, забясьпечвае далейшае разьвіцьцё тэорыі, што ўплывае на паскарэньне ходу разьвіцьця практыкі соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтым нам зайздросьцяць нават буржуазныя вучоныя Эўропы. „Ні дзе як там, у рабочай дзяржаве, ня зьвязаны так цесна паміж сабою практыка і тэорыя“—пісаў нядаўна германскі проф. Ленц у адным з нямецкіх часопісаў пасьля наведваньня СССР.

Пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў сьнежні мінулага году, адзначыў буйнейшыя посьпехі ў рэконструкцыі сельскае гаспадаркі БССР на аснове ажыцьцяўленьня *ленінскай генэральнай лініі партыі*, паставіў перад намі тую-ж асноўную задачу—*падвышэньне ўраджайнасьці сельскае гаспадаркі*, конкрэтызуючы яе ў наступным выглядзе:

„*Устанавіць наступныя мінімальныя заданьні па падвышэньню ўраджайнасьці ў рэспубліцы на 1933 г.—з га жыта—8,5 ц, бульбы—110 ц, і лёну—3 ц*“. Гэтыя лічбы павінен зразумець ня толькі кожны комуніст і колгасьнік нашай краіны, гэтыя лічбы павінен добра помніць і кожны навуковы працаўнік, бо яны абавязваюць нас да напружанейшай работы па іх рэалізацыі, у барацьбе за іх рэальнае атрыманьне.

Калі капіталізм у параўнаньні з фэўдалізмам, як указалі яшчэ Маркс і Ленін, зрабіў пераварот у сучасным земляробстве, зрушыўшы далёка наперад амаль усё прыродазнаўства, зьвязанае з сельскай гаспадаркай (геолёгія, хэмія, фізыолёгія, тэхніка і інш.) у рамках капіталізму, дык такую-ж *рэволюцыю* павінны і можам зрабіць *мы* ў галіне сельскае гаспадаркі, у яе тэхніцы, яе агрономіі ў рамках *соцыялістычнага* грамадзтва.

У „Тэорыі дадатковай вартасьці“ Маркс піша, што: „навуковую аснову буйной індустрыі складае ўласна мэханіка, да вядомай ступені закончаная ўжо ў XVII стагодзьдзі. І толькі ў XIX ст., галоўным чынам, у больш позьняе 10-годзьдзе, разьвіваюцца навукі, якія ў значна больш высокай ступені зьяўляюцца непасрэднымі асновамі для земляробства, чым для прамысловасьці—хэмія, геолёгія і фізыолёгія“ (том II, ч. 1-я, стар. 191). Такі

вывад па аналізу шляхоў разьвіцьця буржуазнай навукі, які паказвае, па-першае, сувязь навукі ў цэлым з гаспадаркаю (з практыкай капіталістычнага грамадзтва), па-другое, што сама сельская гаспадарка стала шырэй абслугоўвацца навукай, чым на папярэднім этапе, што ў нашых умовах, калі мы разьвіваем мажлівасьці яшчэ большага росту навукі, можа даць і дасьць больш высокую вытворчасьць ня толькі ў параўнаньні з тым, што мы маем цяпер, але і больш высокую вытворчасьць, чым давала капіталістычная гаспадарка. Маючы гэтую мажлівасьць, трэба паставіць сабе задачуператварыць яе ў жывую сапраўднасьць.

Буржуазная навука расла на аснове попыту капіталістычнае сельскае гаспадаркі, гэта бязумоўна. Упяршыню ў гісторыі чалавецтва пры капіталізьме іменна атрымлівае мажлівасьць *зараджэньня і росквіту навуковая агрономія і сельска-гаспадарчая тэхніка.* Укараненьне *тэхнікі* ідзе роўналегла з работай Лібіха ў галіне хэміі, Пастэра, Вінаградзкага, а затым Дарвіна ў галіне біолёгіі. *Хэмізацыя* ня толькі ідзе па лініі глебы, але апаноўвае асновамі самое сельскае гаспадаркі. Шпарка ўзрастаючыя прамысловыя цэнтры ставяць ва ўпор ня толькі *зернавую,* але яшчэ больш рэзка *жывёлаводчую,* кармовую і інш. проблемы. Зьявіўшаяся *новая тэхніка* (плуг), палепшаньне апрацоўкі зямлі, чыстае насеньне і пароды і г. д. *гоняць уверх ураджай.* Разьвіваючаяся, аднак, на ўсіх парах у эпоху росквіту капіталістычная гаспадарка становіцца прэсам, які выціскае ня толькі сілы селяніна, але і самое сялянства з вёскі ў горад, разбураючы сялянскую гаспадарку. Аб росьце капіталістычнай гаспадаркі яшчэ ў 1930 годзе пісаў амэрыканскі проф. Э. Норс: „прогрэс, дасягнуты намі з 1919 г., абяцае ў будучым яшчэ большае падвышэньне вытворчасьці сельскае гаспадаркі, зьніжэньне яе выдаткаў, лепшую экономічную організацыю і агульны ўздым дабрабыту краіны“. Але такі шпаркі тэмп *росту капіталістычнае сельскае гаспадаркі ў нашу* эпоху, у эпоху другога туру войнаў і пролетарскіх рэволюцый, *безнадзейна сябе вычарпаў.* Капіталістычную гаспадарку рад гадоў душыць бязвыхадны *крызіс,* бязьлітасна разбураючы як самую гаспадарку, так і яе навукова-тэхнічныя асновы—агрономію і тэхніку. У параўнаньні з 1929 г. агуловы даход фэрмэра зьніжаецца да 63%! Гаспадарка фэрмэра ідзе на дно! Ужо з 1931 г. амэрыканскі часопіс „Аналіст“ (№ 951), аналізуючы становішча сельскае гаспадаркі ў Злучаных Штатах, прымушаны шукаць *іншых* шляхоў яе разьвіцьця, шляхоў ад *высокай тэхнікі да дапатопнага інвэнтару,* да прадзедаўскіх спосабаў, *ад „трактара да мула ў запражцы“.*

Такі шлях разьвіцьця капіталістычнае сельскае гаспадаркі ў Злучаных Штатах правёў яе да жорсткага крызісу. Такі пачатак канца капіталістычнай сельскае гаспадаркі. Іх крывая дае пагражаючае сьмерцю *спаданьне ўніз.*

Бліскучы аналіз працэсаў зараджэньня капіталізму ў Расіі даў Ленін. У „Разьвіцьцё капіталізму“ ён паказаў малюнак, як на складаўшайся капіталістычнай экономічнай аснове ішло разьвіцьцё клясавай барацьбы ў вёсцы. У вядомай сваёй табліцы Ленін паказвае, як у руках 30.000 памешчыкаў згрупаваўся зямельны

фонд, роўны фонду $10^1/_2$ мільёнаў дробных і драбнюсенькіх сялянскіх гаспадарак, разбураных эксплёатацыяй памешчыкаў. *„Патрыярхальшчына, раздробненасьць, распыленасьць дробнага вытворца, яго галота, някультурнасьць, бездарожжа і няпісьменнасьць“* (Ленін),—вось што характарызавала сельскую гаспадарку царскай Расіі. Дзікасьць, галота, разбурэньне і фізычнае выраджэньне прыводзілі да *выміраньня вёскі*, прымушаючы нават кадэтаў, тыпу Шынгарова, у 1907 годзе пісаць малюнак гэтага выміраньня. Ня гледзячы на пратаптаны капіталізмам у Эўропе і Амэрыцы шлях, расійскі капіталізм, які валтузіўся ў рэштках фэўдальных пут, ня здолеў разьвіць ні сельска-гаспадарчай тэхнікі, ні агрономічнай навукі, ня гледзячы на тое, што меў у сваіх радох такіх буйнейшых вучоных, як Мендзелееў і інш.

Расія мела ў 1895 г. ўсяго 27 сельска-гаспадарчых дасьледчых устаноў, якія дайшлі ў 1912 г. да 212. Маючы ў 1914 г. 140 мільёнаў сельска-гаспадарчага насельніцтва і 170 мільёнаў гектараў ральлі, яна мела ўсяго 7.270 земскіх агрономаў. На агрономію ў 1912 г. яна траціла ўсяго толькі каля 20 мільёнаў руб. Вось усё, што даваў расійскі капіталізм на разьвіцьцё сельска-гаспадарчай тэхнікі і культуры.

Кастрычнікаўская рэволюцыя разьбіла ўсю капіталістычную сыстэму панаваньня ў Расіі. Адабраўшы фабрыкі, заводы і зямлю, адмяніўшы прыватную ўласнасьць на зямлю і ўмацаваўшы сваю дыктатуру, рабочая кляса паклала пачатак новаму социяльнаму ладу, забясьпечыўшы новы зьмест работы прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, тэхнікі і навукі на аснове *саюзу з серадняком* пры апоры на беднату і самай жорсткай барацьбе з кулацтвам.

„Важнейшым ітогам социялістычнага будаўніцтва першай пяцігодкі зьяўляецца канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы, выразшаючы поўную ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў і поўнае зьнішчэньне клясаў. Завяршэньне пабудовы фундаманту социялізму ў СССР азначае, што ленінскае пытаньне „хто каго“ разьвязана супроць капіталізму, на карысьць социялізму поўнасьцю і беспаваротна і ў горадзе і ў вёсцы“ (з рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі).

За мінулыя 15 гадоў Кастрычніка мы, завяршыўшы пабудову фундаманту социялістычнай экономікі і вырашыўшы ленінскае пытаньне „хто каго“ на карысьць социялізму, канчаткова замацаваліся на социялістычным шляху разьвіцьця, атрымаўшы магчымасьць вуснамі XVII конфэрэнцыі партыі паставіць яшчэ больш грандыёзныя гістарычныя задачы, якія забясьпечваюць *„такое разгортваньне вытворчых сіл социялістычнай гаспадаркі ў другой пяцігодцы, на аснове якога будуць канчаткова ліквідаваны капіталістычныя элемэнты ў СССР“*. У выніку жорсткай барацьбы з контррэволюцыяй ад Врангеля, Троцкага, Кандрацьева і Чаянава да нацдэмаў і ім падобных, барацьбы з правым і „левым“ опортунізмам, барацьбы на два фронты ў нацыянальным і іншых пытаньнях, у выніку напружанай вялізарнай работы рабочая кляса нашай краіны пад кіраўніцтвам партыі дабілася ў галіне сельскае гаспадаркі пабудовы самага буйнога ў сьвеце

земляробства, падводзячы пад яго *індустрыяльную* базу, як аснову яго рэконструкцыі, забясьпечваючы яго трактарам і комбайнам, павялічыўшы ў параўнаньні з даваенным часам на 30 мільёнаў га пасеўную плошчу, давёўшы яе да 200 мільёнаў га, мэханізуючы, электрыфікуючы і хэмізуючы яе на аснове апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі.

„Савецкі Саюз з краіны дробнага і драбнейшага земляробства зьмяніўся ў краіну самага буйнога ў сьвеце земляробства на аснове колектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і шырокага ўжываньня машыннай тэхнікі. Гэтая перамога соцыялізму, вырашаючая самую важную і самую цяжкую задачу пролетарскай рэволюцыі, мае сусьветна-гістарычнае значэньне“ (з рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі).

Ад 24 мільёнаў разрозьненых сялянскіх гаспадарак у пачатку пяцігодкі мы прышлі да 220 тысяч буйных колектыўных гаспадарак, да 5 тысяч саўгасаў—моцных фабрык сельскагаспадарчай сыравіны.

Зараз з 134 мільёнаў га пасеўнае плошчы 80% засяе соцыялістычны сэктар—саўгасы і колгасы.

Процант колектывізацыі з 1,7 у 1928 г. узрос да 61,6 да вясны 1932 г. Такім чынам, СССР—краіна самага буйнога ў сьвеце земляробства...

...Да пачатку пяцігодкі мы мелі 7,3 млн. га пасеваў тэхнічных культур. У 1932 годзе плошча тэхнічных культур узрасла да 15,4 млн. га. Заданьне пяцігодкі па пасеўным плошчам перавыканана звыш чым на 30%. У вытворчасьці хлапка і цукровых буракоў на долю аднаасобнага сэктару прыпадае ўсяго толькі 15%, па лёну—36%.

Такім чынам, колгасы асноўныя вытворцы сельска-гаспадарчае сыравіны.

Гэтыя буйнейшыя посьпехі ў галіне рэконструкцыі сельскае гаспадаркі мае і БССР, дзе колгасы і саўгасы засеялі ў 1932 г. 60% усёй пасеўнай плошчы; насычэньне машынамі соцыялістычнага сэктару за апошнія 4 гады павялічана ў 4 разы; організавана 57 МТС; супроць даваеннага—пасеўная плошча павялічылася на 1.240 тысяч га. Такавы посьпехі ў нашай краіне, гаспадарка якой у часы імпэрыялістычнай вайны была зусім зруйнавана.

Усё гэта стала магчымым дзякуючы палітыцы партыі на *ліквідацыю кулацтва як клясы на аснове суцэльнае колектывізацыі*. У гэтым сутнасьць нашай палітыкі ў галіне рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Контррэволюцыянэры Чаянавы прапагандавалі злучэньне дробных гаспадарак селяніна Пятрова і Сідарава з „капіталістычнай біржай Лёндану і Нью-Ёрку“, а мы, праводзячы злучэньне гэтай дробнай гаспадаркі з *соцыялістычнай прамысловасьцю*, злучылі яе з *соцыялізмам*, разьбіўшы тым самым кулацка-чаянаўскую контррэволюцыю, забясьпечыўшы ў далейшым паўнейшую выкарчоўку ўсякіх магчымых яе карэньняў.

Вялікія на вёсцы ня толькі нашы гаспадарчыя, але і культурныя дасягненьні. Калі параўнаць становішча сельска-гаспадарчай

школы царскай Расіі за 15 гадоў з нашаю за 5, дык атрымаем цікавы малюнак.

| Навучальныя ўстановы і вучні | 1895 г. | 1912 г. | 1927/28 | 1932 |
|---|---|---|---|---|
| Сельска-гаспадарчых вузаў . . . . . . | 2 | 8 | 36 | 151 |
| Вучняў у іх . . . . | 75 | 3.922 | 23.000 | 63.000 |
| Сельск.-гаспадарчых тэхнікумаў . . . . . | 9 | 17 | 100 | 981 |
| Вучняў у іх . . . . | 1.306 | 2.697 | 56.000 | 135.000 |

У сучасны момант мы маем каля 32.000 агрономаў і каля 50.000 агротэхнікаў. Пролетарскае ядро ў сельска-гаспадарчых навучальных установах раўняецца 35% колгасьнікаў, беднаты і серадлякоў 50%. Па БССР мы маем рад буйнейшых навучальных і навукова-дасьледчых комбінатаў, як АН БССР, БДУ, Горацкі, Віцебскі інстытуты і інш., якія падрыхтоўваюць тысячы новых спэцыялістаў для вёскі.

Дабіўшыся вялізарных посьпехаў у галіне сельскай гаспадаркі на аснове яе колектывізацыі, росту гігантаў колгасаў, машынізацыі і хэмізацыі і на гэтай аснове *падвысіўшы ўраджайнасьць соцыялістычнага сэктару супроць сэктару аднаасобнага, мы давялі перавагу соцыялістычнае сельскае гаспадаркі.*

Па даным Колгасцэнтру па Саюзу мы маем наступнае павялічэньне проценту ўраджайнасьці па колгасам супроць аднаасобных гаспадарак у цэнтнерах на 1 га.

| | |
|---|---|
| Азімая пшаніца . . . . . . . . | 37,8 |
| „ жыта . . . . . . . . | 19,6 |
| Яравая пшаніца . . . . . . . . | 11,5 |
| Авёс . . . . . . . . . | 12,6 |
| Ячмень . . . . . . . . | 37,1 |
| Сланечнік . . . . . . . . . | 31,7 |

Дамогшыся гэтых посьпехаў, мы, аднак, не скарысталі ўсіх нашых мажлівасьцяў у справе падвышэньня ўраджайнасьці ў соцыялістычным сэктары, маючы рэзкае *адставаньне* ў параўнаньні з капіталістычнымі краінамі. Так, напрыклад, калі ўзяць 1928/29 г., дык ураджай у ц з 1 га складаў:

| | Пшаніца | Жыта | Бульба |
|---|---|---|---|
| Голяндыя . . . | 33,2 | 23,0 | 225 |
| Данія . . . . | 31,7 | 17,0 | 17,5 |
| Бэльгія . . . . | 26,6 | 25,0 | 199,4 |
| Вялікабрытанія і Паўночная Ірляндыя . | 23,6 | — | 181,0 |
| Германія . . . | 21,6 | 17,9 | 143,1 |
| СССР . . . . | 7,0 | 7,6 | 80,0 |

Гэтыя даныя міжнароднага Рымскага аграрнага Ін-ту паказваюць, што найбольш слаба ў нас стаіць справа іменна з ураджайнасьцю, у той час як *патрабаваньні* самой рабочай клясы і колгасьнікаў значна *ўзрасьлі.*

Вось чаму задача *падвышэньня ўраджайнасьці* патрабуе неадкладнага яе вырашэньня, на што і ўказвае рашэньне Савнаркому і ЦК партыі. „Пасеўныя плошчы пашыраны дастаткова і мэта першай стадыі ўздыму сельскай гаспадаркі—найбольшае пашырэньне плошчаў—ужо ажыцьцёўлена“.

„Гэта азначае, што наступіў час, калі ад росту гаспадаркі ўшыркі шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў неабходна павярнуць да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці“ (з пастаноры ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 29 верасьня 1932 г.)

І на *гэтай* стадыі, як галоўная, як цэнтральная задача—паўстае *падвышэньне ўраджайнасьці.* Такім чынам, падвышэньне ўраджайнасьці ёсьць новы, *вышэйшы этап* у разьвіцьці соцыялістычнага земляробства краіны, які забясьпечвае ўздым дабрабыту працоўных гораду і вёскі, забясьпечваючы канчатковую перамогу рабочае клясы над кулацтвам, перамогу соцыялізму.

У барацьбе за падвышэньне ўраджайнасьці і ў далейшым *сельска-гаспадарчая тэхніка* будзе адыграваць вялізарную ролю.

У МТС „...найбольш поўна спалучаецца самадзейнасьць колгасных мас у будаўніцтве сваіх колгасных гаспадарак з організацыйнай і тэхнічнай дапамогаю і кіраўніцтвам пролетарскае дзяржавы“ (з рашэньня ЦК УсеКП(б) ад 29 верасьня 1932 г.)

Пасеўная плошча, абслугоўваемая МТС, узрасла з 1.900 тыс. га ў 1930 г. да 50 млн. га ў 1932 г. МТС зараз уладаюць машынным паркам у 85 тыс. трактараў, 5.420 аўтомашын, 1.910 комбайнаў і дзесяткі тысяч складаных сельска-гаспадарчых машын. МТС узьнялі звыш 3,1 млн. га цаліны.

Такім чынам, колгасная гаспадарка мае буйнейшую сельска-гаспадарчую тэхніку.

На аснове посьпехаў індустрыялізацыі—прамысловасьць дасьць у 1932 г. сельска-гаспадарчых машын на 940 мільёнаў руб. супроць 447 мільёнаў руб. у 1931 г. Гэты рост вялізарны, рост, які дазволіў нам у 1931 г. вызваліцца ад імпорту. Папутна з мэханізацыяй і электрыфікацыяй сельскае гаспадаркі рашаючую таксама ролю адыгрывае і *хэмізацыя* яе. У падвышэньні ўраджайнасьці проблема хэмізацыі паўстае ва ўвесь рост. Вось чаму ў рашэньнях XVII партконфэрэнцыі даецца дырэктыва на разьвіцьцё асноўнай *хэміі ўгнаеньняў.* Германія перад вайной дамаглася *падваеньня ўраджаю,* даючы сваім палём у 4 разы больш мінэральных угнаеньняў, чым гною (на гектар пасеву 28 кг гною).

Малюнак уплыву ўгнаеньняў на ўраджай можна бачыць з наступнай табліцы:

| | Угнаеньня на 1 га ў кг | Ураджай зернавых з 1 га ў ц |
|---|---|---|
| Галяндыя | 700 | 30 |
| Бэльгія | 600 | 30 |
| Германія | 350 | 24 |
| Францыя | 150 | 16 |
| СССР | 5 | 7 |

Але *так было да вайны,* цяпер палі капіталістычных краін пустуюць, *хэмія ўжо робіцца прыладаю сьмерці, выкарыстоўваецца на падрыхтоўку новых імпэрыялістычных войнаў.*

Толькі ў савецкіх краінах хэмія садзейнічае стварэньню матар'яльных каштоўнасьцяў соцыялістычнага грамадзтва. Досьледы навукова-дасьледчых інстытуцый у СССР паказваюць, што зернавыя даюць ад 60—70% прыбаўкі ўраджаю ад угнаеньняў. Па бульбе—ад 40—100%, лёну—30—40%. Але пытаньне ня толькі ў тым, каб даць угнаеньне, а і ў тым, каб даць яго *ўмеючы.*

Пры *падвышэньні ўраджайнасьці БССР* хэмізацыя глебы адыгрывае асабліва важную ролю таму, што тэрыторыя яе ў большай частцы мае *падзолістую глебу,* бедную як на неорганічныя матэрыі, так і на цэлы рад мінэральных матэрый. Разводзячы на гэтых глебах лён, каноплі, бульбу, караньплоды і г. д., узмоцнена патрабуючых іменна гэтых матэрый, мы павінны належным чынам задаволіць патрэбнасьці нашых глеб. З другога боку, маючы вялікую *тарфяную* глебу, мы павінны даць ёй вапну і іншае. Разгортваньне буйнога савгасна-колгаснага будаўніцтва будзе таксама падвышаць попыт на мінэральнае ўгнаеньне.

У нашых умовах асаблівую ролю будуць адыгрываць *комбінаваныя ўгнаеньні. Азотная проблема для* БССР мае тыя ўласьцівасьці, што большая частка нашых мінэральных глеб бедная на азот; тарфяныя-ж глебы багаты на азот; таму пытаньне скарыстаньня самога *торфу* для ўгнаеньня мінэральных глеб палягчае задачу. Пытаньне цікава і з таго боку, што торф можа быць ужыты ў якасьці *абеззаражваючага* сродку пры ачыстцы нячыстот і ў такой комбінаванай з нячыстотамі масе дае ня толькі карысную для *ўгнаеньня* глебы матэрыю, што асабліва важна ў *садова-малочна-гародным раёне*, але нясе і *санітарныя* функцыі, што асабліва важна з пункту погляду барацьбы з рознага роду інфэкцыйнымі захворваньнямі насельніцтва.

Другой крыніцай азоту ў БССР зьяўляеццца *лубінавае* ўгнаеньне.

Усе мінэральныя і органічныя глебы БССР адчуваюць патрэбу таксама ў *фосфарных* угнаеньнях.

*Калійныя* ўгнаеньні патрэбны асабліва тарфяным глебам БССР і апрача іншых угнаеньняў у выглядзе, напрыклад, *попелу* з гноем, атрымліваюць добрую комбінацыю.

Ва ўсіх *спэцыялізаваных раёнах* БССР набываюць вялікае значэньне мінэральныя і органічныя ўгнаеньні.

*У ільно-малочным раёне*—большае значэньне чым у іншых раёнах маюць пераважна *мінэральныя* ўгнаеньні, асабліва пад лён.

*У жывёлаводча-бульбяным*—комбінаванае ўгнаеньне (мінэральнае і гной) асабліва пад бульбу—калійныя ўгнаеньні, а таксама і лубін.

У *жывёлаводча-канопляводным* раёне—сумеснае ў розных дозах ужываньне мінэральных і гнойных угнаеньняў. Акад. Кедраў-Зіхман правільна думае, што бяз шырокага ўжываньня мінэральных угнаеньняў пад *каноплі,* іх нельга будзе перанесьці з канаплянікаў на *поле* буйных соцыялістычных гаспадарак. Апрача

проблемы комбінаваньня ўгнаеньняў і ўзалежнасьці ад глеб вялікае значэньне набывае *дозіроўка* кожнага з угнаеньняў як для глеб кожнага раёну, так і кожнага колгасу.

У справе барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці *хэмізацыя* мае значэньне і як *крыніца барацьбы з хваробамі* сельска-гаспадарчых культур. *Барацьба з шкоднікамі сельскай гаспадаркі* мае актуальнейшае значэньне ў падвышэньні ўраджайнасьці. Па падлікам НК РСІ па Саюзу мы маем страты па паляводзтву ад шкоднікаў—900 мільёнаў руб.; ад шкоднікаў сьвірнаў—500 мільёнаў руб.; у садова-гародным—106 мільёнаў руб. Па падлікам тав. Дарожкіна ў БССР мы маем страты ад хвароб і шкоднікаў звыш як на 100 мільёнаў руб. штогодна. Адсюль—важнейшае значэньне для нас маюць усе мерапрыемствы, якія зьвязаны з барацьбой як з бачнымі, так і мікроскопічнымі шкоднікамі, асабліва хэмічнымі спосабамі барацьбы: мінэральныя ўгнаеньні, пратручваньне насеньня, апырскваньне атрутаю і г. д., апрача фізычных, як, напрыклад, добрая апрацоўка глебы *сэлекцыйных,* адбор гатункаў і г. д.

Важнейшае значэньне ў гэтай сувязі мае проблема выпрацоўкі ўжо вядомых і вынаходзтва новых хэмічных *атрут* для барацьбы з шкоднікамі сельскае гаспадаркі.

Словам, пытаньне заключаецца ў тым, *каб у БССР мець сваю моцную хэмічную прамысловую базу* для далейшага ўзмоцненага разьвіцьця соцыялістычнай сельскае гаспадаркі, выходзячы таксама з неабходнасьці *абароны краіны*.

У сувязі з проблемай ураджайнасьці мае вялізарнае значэньне вывучэньне ўплыву *кліматычных умоў* у БССР у гэтых адносінах. Трэба проста сказаць, што гэтая справа ў нас у Саюзе пастаўлена надзвычайна слаба; да гэтага часу кліматолёгі бадай былі проста статыстыкамі. Як відаць і сама гэта навука, пакуль яна толькі зьбірае факты і іх рэгіструе, ня будзе разьвівацца да тых часоў, пакуль ня стане досьледнай *экспэрымэнтальнай*, пакуль ня зьвяжацца апрача матэматыкі і статыстыкі з іншымі навукамі — як, напрыклад, з *экспэрымэнтальнай* фізыкай, хэміяй, біолёгіяй і г. д. Трэба ня толькі ўлічваць факты, констатаваць іх, але і вучыцца кіраваць імі.

*Кліматолёгі* павінны даць адказ, як лепш разьмясьціць па-раённа сельска-гаспадарчыя культуры, якія выгады дае нам клімат у справе ўвядзеньня новых культур, даць тэрміны сяўбы і ўборкі кожнай культуры ў кожным раёне БССР, павінны вызначыць уплыў клімату на вэгетацыю, азімізацыю і яравізацыю сельска-гаспадарчых культур, навучыць нас *мяняць* рэжым рэк, паветра, глебы і г. д.

Кліматолёгіі павінны разам з іншымі навучыць нас змагацца з засухай, бо—„Задачы далейшага разьвіцьця гаспадаркі патрабуюць далейшага і яшчэ больш шпаркага ўздыму зернавое гаспадаркі. Таму цэнтральнай задачай другой пяцігодкі павінна стаць рашучае падвышэньне ўраджайнасьці колгасных і савгасных палёў і бальшавіцкае вырашэньне пытаньня аб барацьбе з засухай“ (з рэзолюцыі XVII конфэрэнцыі ЎсеКП(б)).

Пастаноўка дакладу на сэсіі проф. Кайгарадава па кліматычным мажлівасьцям БССР у сувязі з падвышэньнем ураджайнасьці павінна паказаць шляхі, па якім павінна ісьці работа ў гэтым кірунку.

Да ліку важнейшых пытаньняў, зьвязаных з проблемай ураджайнасьці, належыць таксама *проблема вывучэньня саміх глеб*, іх фізыкі, хэміі і біолёгіі і проблема *новых культур*.

Задача падвышэньня ўраджайнасьці ня можа быць вырашана па-за сувязьзю з вывучэньнем *фізычных асаблівасьцяў* глебы. БССР па гэтай лініі пайшла далёка наперад у параўнаньні з іншымі рэспублікамі. У выніках работ нашых глебаведаў, у прыватнасьці акад. Афанасьева, мы орыентуемся ў асноўным правільна ў галіне рэльефу глеб як у цэлым, так і параённа. Тут, аднак-жа, калі працягваць наш рух *ушыркі*, застаецца яшчэ многа работы глебаведу-паляводу, бо трэба ўзброіць ня толькі раён у цэлым, але і кожны *савгас і колгас* картай яго глеб, даць яму адказ па сутнасьці *мажлівасьцяў* яго глебаў, зьместу (складу) яе запатрабаваньняў, яе ўраджайнасьці.

Але гэтым справа ня можа абмежавацца. Справа заключаецца ў тым, што глеба ня мёртвая, не мэтафізычна ня зьменная і ня так простая, як прынята думаць. Справа ў тым, каб ня толькі констатаваць, апісаць фізычныя ўласьцівасьці глеб, але ў тым, каб іх адвольна *зьмяняць*.

Тое, што робіць агроглебавая навука зараз, гэта яшчэ прымітыў, рэшткі ад мэтафізычнага мінулага нашай навукі. Ад апісаньняў і простага фізыка-хэмічнага аналізу трэба пераходзіць да *шырэйшага экспэрымэнту* на аснове сучасных дасягненьняў фізыкі (электрафізыкі), хэміі і біолёгіі. Трэба зразумець, што *глеба* ня ёсьць простае злучэньне, як у скрынцы, асобных слаёў, якія мэханічна падзяляюцца, расчляняюцца і амаль паміж сабой ня зьвязаны.

Глеба, маючы асаблівасьці разгранічальнага парадку, зьяўляецца, аднак, тым *адзінствам*, якое забясьпечвае ня толькі разьвіцьцё яе самой, але і магчымасьці разьвіцьця жывой прыроды ў цэлым. Гэтае адзінства забясьпечвае, напрыклад, пераход ад неорганічных да органічных форм прыроды. Адзінства органічнага і неорганічнага самой прыроды, яе цэласнасьць заключаецца ў яе *матар'яльнасьці*. Зразумала, гэтае адзінства рухома, рэлятыўна, умоўна, але гэта ўсё-ж такі такое адзінства, якое забясьпечвае пераход ад аднэй формы да другой, абумаўляе *разьвіцьцё прыроды ў цэлым*. Перад агрономічнай навукай ставіцца задача *аўладаць процэсам зьмены глебы, прыстасоўваючыся да нашых запросаў*—у гэтым вялізарны тэорытычны інтарэс проблемы ўраджайнасьці, у гэтым яе мэтодолёгічнае значэньне. Поўнасьцю аўладаць імі бяз фізыкі, хэміі, тэхнікі, біолёгіі немагчыма. Цяжкасьць заключаецца ў тым, што агро-навука яшчэ ня мае агро-фізыкі, як адзінай навукі, агро-біолёгіі і такой агро-хэміі, якія-б разам забясьпечвалі нам магчымасьць правесьці *рэволюцыю глебы*. На сёньня мы маем упяршыню спробу ў Ін-це акад. Іофэ стварыць *агрофізыку*, якая мае на нашу думку вялізарныя пэрспэктывы ў сваім разьвіцьці. Што тычыцца агро-біолёгіі, дык яна таксама ня існуе,

бо мікробіолёгія, з аднаго боку, фізыолёгія расьлін і біолёгія ў прыватнасьці—гэта яшчэ не агро-біолёгія, а тыя часткі, якія могуць паслужыць некаторай выходнай для разьвіцьця гэтай новай *дысцыпліны.*

Сыстэматыка навукі паказвае, што ў разьвіцьці саміх навук мы ідзем звычайна *аналітычным шляхам,* стараючыся адну частку якой-небудзь навукі так разьвіць, каб яе ператварыць у самастойную навуку. У гэтым руху мы часта па інэрцыі парушаем яе сувязь з мацярынскай навукай, так што сама маладая навука перастае затым разьвівацца. Так, напрыклад, атрымалася ў гістолёгаў з цытолёгіяй. Трэба ствараць (разьвіваць) новую навуку ня толькі дзяленьнем старой, але і шляхам злучэньня існуючых двух, *сынтэзаваць новую.* Мы зачапляем самую *проблему разьвіцьця навукі* таму, што *нашы новыя запросы,* якія ідуць па лініі соцыялістычнага будаўніцтва, далёка не ўкладаюцца ў рамкі старых навуковых схэм і клясыфікацый. Маладое так бурна расьце, пераходзячы ў новыя нябачаныя да гэтага часу навукай формы, што старыя навуковыя вопраткі рвуцца ў шматкі. Гэтым мы не адмаўляем значэньня мінулага навукі, наадварот, заклікаючы да яго дэтальнага вывучэньня і выкарыстаньня, лічым, аднак-жа, патрэбным *перарабляць,* перабудоўваць старую навуку на наш новы марксысцка-ленінскі лад. Некаторыя старыя вучоныя, якія цягнуцца да *дыялектычнага матар'ялізму,* часамі да старой навукі прыладжваюць тую ці другую „дыялектычную“ мову, а справа не ў наклейцы, а ў *пераапрацоўцы* старога на новай дыялектыка-матар'ялістычнай аснове, як стрыжані, як усеагульнай мэтодолёгіі навукі, не вульгарызуючы, а разьвіваючы пры гэтым самую матар'ялістычную дыялектыку. Словам, пытаньне ідзе аб *рэконструкцыі самой агрономічнай навукі ў цэлым.* Задача рэконструкцыі глеб патрабуе рэконструкці і навукі аб глебах. Гэта будзе яшчэ больш зразумела, калі ўзяць проблему *новых культур.* Па старынцы ўвайшоўшая ў прывычку тэорыя і практыка сельскагаспадарчых культур такая, што грамадзтва многа вякоў кружыцца навакол адных і тых-жа культур, мэтафізычна разарваўшы іх на *„дзікія“*, г. зн. нібы не падлягаючыя культываваньню, і „культурныя“, асвоеныя, якія яшчэ па „вучэньню айцоў цэрквы ад бога даны“. Ясна, што тут пахне сярэднявечнай схолястыкай, *папоўскім ідэалізмам* і г. д. Наша *боязьнь жывой прыроды,* консэрватызм у галіне шырокага *экспэрымэнтаваньня*—ёсьць рэшткі сярэднявечнага вяковага ўплыву на навуку. Пытаньне стаіць ня толькі ў тым, каб вывучыць добра, напрыклад, старыя *віды* жывёл і расьлін і кіраваць законамі іх разьвіцьця, пытаньне ідзе аб тым, каб, кіруючы законнасьцямі разьвіцьця вядомых ужо відаў, умець ствараць *новыя.* Калі стары вучоны чытае аб гэтым, ён скептычна ўхмыляецца таму, што яго старая навука такой мажлівасьці яму не дала. Гутарка ідзе, стала быць, аб стварэньні такой *новай навукі,* якая будзе абасноўваць новыя *зьявішчы* сапраўднасьці.

Работы раду нашых вучоных на балотных глебах БССР, якія займаюць звыш 21,10% усёй тэрыторыі рэспублікі, цікавы тым, што яны з посьпехам культывуюць рад *новых* для *нас* культур,

радзінай якіх зьяўляюцца: Японія, Кітай, Зах. Эўропа, культуры, якія ў лепшым выпадку выраcталі на Каўказе, Украіне, Ніжнім Паваложжы. Тут і цыкоры, і рапс, і цукровыя буракі і г. д. Тут алейныя расьліны—эфіраносы, тут нават рыс, тут цэлая сэрыя новых сілосных культур, сланечнік, соя, сарго і многія другія. Адзін з энтузыястаў увядзеньня новых культур у БССР, Рагачэўскі краявед тав. Руткоўскі, культывуючы на працягу цэлага раду гадоў, атрымаў некалькі гатункаў *вінаграду,* які дасьпявае ў нашых умовах.

Мы ня можам прайсьці міма такіх новых для БССР культур, як *топінамбур,* які дае багатую масу для корму жывёлы, мае ў сабе фруктозу (цукар), як *ватачнік,* які дае валакно і каўчук; як *сарго,* годны на сілос, даючы цукар; як *таў-сагіз,* які зьяўляецца каўчуканосам і г. д. Усё гэта павінна зьяўляцца прадметам шырокага абмеркаваньня, усё гэта патрабуе вялізарнай навукова-дасьледчай работы і абавязковага перанясеньня яе вынікаў у савгасы і колгасы нашай рэспублікі.

Малады вучоны Акадэміі Навук БССР тав. Ганчарык, працуючы ў галіне новых культур, сабраў вялікі экспэрымэнтальны матар'ял па *соі* і ў бліжэйшы час дасьць дакладны адказ, якія гатункі і з якою мэтаю мы можам разводзіць у БССР бяз колькі-небудзь вялікай рызыкі. Словам, задача *акліматызацыі* вялікай колькасьці карысных відаў вырашаецца *станоўча* ў нашу карысьць, а гэта павялічвае нашы сыравінныя і харчовыя рэсурсы, садзейнічае пашырэньню самой базы нашага социялістычнага будаўніцтва. Пераносячы многае з таго, што да гэтага часу расло на глебах поўдню і ў чужаземных краінах, трэба зьвярнуць увагу на культуру тых жывёл і расьлін, якія ў мінулыя часы заганяліся ў падпольле, якім прышывалася клічка *„дзікіх“* і г. д. Трэба зразумець, што не яны дзікія, а *нашы веды* аб іх настолькі сапраўды *дзікія,* што становіцца крыўдна за навуку. Мы павінны знайсьці спосаб выкарыстаньня ўсяго таго, чым багата прырода, *кіруючы яе разьвіцьцём у інтарэсах социялізму.*

Прыкладам таго, як трэба любую з гэтых проблем ставіць, зьяўляецца *дырэктыва партыі аб трусу.* Многа вякоў прайшло з таго часу, як гэтая жывёліна была абернута чалавекам для забавы—у хатнюю. У быту яна не адыгрывала амаль ніякае ролі аж да апошняга часу. Але вось па волі партыі гэты закінуты паўдзікі від жывёліны, ня гледзячы на забабоны, заваяваў сабе такое месца ў сьвеце, аб якім да гэтага часу ён „ня сьмеў і марыць“, вырашаючы разам з іншымі жывёльнымі відамі адну з буйнейшых проблем нашага будаўніцтва. Ці ня ясна, што „стары“ трус не патрабаваў асаблівай навукі і яе сапраўды ня было. Наш трус патрабуе сваёй асаблівай, трусовай навукі, вывучаючай яго біолёгію, экономіку, тэхнолёгію і інш. бакі. Тут перад жывёлаводам—біолёгам, фізыолёгам, эндокрынолёгам, зоотэхнікам, а роўна і тэхнолёгам і экономістам вялізарнае поле работы. *Словам, проблема ўраджайнасьці становіцца сынтэтычнай проблемай,* якая ахоплівае ўсю сельскую гаспадарку ў цэлым, усе яе рознастайныя бакі.

Ва ўсёй гэтай сувязі перад савецкімі навуковымі арганізацыямі паўстае пытаньне *рэгуляваньня процэсаў прыроды,* а з гэтага і пытаньне плянаваньня самой навукі аб прыродзе, як і навукі ў цэлым. Гэта пытаньне ёсьць пытаньне арганізаванага *наступленьня навукі на прыроду, паскараючага процэсы яе разьвіцьця.* У нашых умовах таму здымаюцца тыя *супярэчнасьці,* якія існуюць пры капіталізьме паміж навукай і практыкай, грамадой і прыродай і г. д., што вельмі ярка выражаў яшчэ Энгельс: „І чым у большай меры стане фактам наша здольнасьць прадбачыць, а дзякуючы гэгаму і рэгуляваць найбольш аддаленыя вынікі па крайняй меры нашых найбольш вытворчых процэсаў, тым у большай меры людзі будуць ня толькі адчуваць, але і адзнаваць сваё адзінства з прыродай і тым немагчымым стане тое бяссэнсавае і супроцьнатуральнае ўяўленьне аб якойсьці супроцьлегласьці паміж духам і матэрыяй, чалавекам і прыродай, душой і целам“ (Арх., т. 2, стар. 103).

Мы наўмысьля папрабавалі тут паказаць, што проблема падвышэньня ўраджайнасьці, зьяўляючыся аднэй з галоўнейшых проблем будаўніцтва соцыялізму, тым самым зьяўляецца аднэй з цікавых тэорытычных проблем, якія зачапляюць асновы прыродазнаўства і навукі ў цэлым.

Вось чаму работа ў гэтай галіне прыродазнаўства зьяўляецца аднэй з удзячных у галіне навуковага дасьледваньня.

„Асноўнай політычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, параджаючых клясавыя адрозьненьні і эксплёатацыю, і перамаганьне перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва (XVII партконфэрэнцыя).

Партыя ў другую пяцігодку, паставіўшы задачу *пераапрацоўкі псыхолёгіі працоўнага селяніна, тым самым прад'явіла рахунак і прыродазнаўча-навуковаму фронту.* Чаму? *Таму што вялічайшую ролю ў справе пераапрацаўкі псыхолёгіі селяніна будзе адыгрываць перабудаваная яго матар'яльная база, перабудаваная на соцыялістычных пачатках савецкая гаспадарка.*

Перабудоўваючы гаспадарку, мы павінны папутна разьвіваць самым упартым чынам нашую *пропаганду* гэтай перабудовы, дабіваючыся патрэбнага нам псыхолёгічнага пералому ў масах, падымаючы вялічайшы энтузыязм колгаснай вёскі на ровень энтузыязму будаўнікоў Магнітабуду і Днепрабуду, на ровень энтузыястаў Вялікай Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Справа заключаецца ў тым, каб дапамагчы партыі організаваць *вытворчы процэс* соцыялістычнай сельскай гаспадаркі як аднэй з галін соцыялістычнай прамысловасьці, як часткі адзінай соцыялістычнай сыстэмы, памятаючы аб яе сваеасаблівасьці на даным этапе.

„Посьпехі барацьбы за выкананьне пяцігодкі за 4 гады знайшлі свой адбітак у пераможным будаўніцтве соцыялізму ў СССР. Асновай гэтых посьпехаў соцыялізму зьяўляецца: політыка індустрыялізацыі, уздым цяжкой індустрыі, разгортваньне вытвор-

часьці сродкаў вытворчасьці. За мінулы пэрыод наша цяжкая прамысловасьць пастаўлена цьвёрда на ногі і тым самым створана ўласная база для завяршэньня рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, база социялістычнай буйной машыннай індустрыі" (з рэзолюцыі XVII конфэр. УсеКП(б).

Без далейшай лініі на *індустрыялізацыю,* як аснову колектывізацыі, без *організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў,* без канчатковай ліквідацыі кулацтва як клясы, гэтага дамагчыся нельга. Справіцца з гэтымі задачамі мы можам толькі ідучы ў ногу з *рабочай клясай* пад кіраўніцтвам нашай *бальшавіцкай партыі* і яе рулявога, апрабаванага ў клясавых бойках, вялічайшага стратэга, кіраўніка социялістычнага будаўніцтва, *правадыра і тэорэтыка* партыі міжнароднага бальшавізму т. *Сталіна.*

Залогам нашай перамогі зьяўляецца правільна правадзімая ленінская *гэнэральная лінія партыі* і той энтузыязм, які разьвіваюць *ударнікі* социялістычнай прамысловасьці, социялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі і фронту савецкай навукі ў барацьбе на два фронты за яе рэалізацыю.

„Толькі ў рашучай барацьбе як з „левым", так і з правым опортунізмам і з прымірэнцтвам да іх, за генэральную лінію нашай партыі ЎсеКП(б) забясьпечыла стварэньне прадпасылак для выкананьня першай пяцігодкі за чатыры гады, разгром клясавага ворага і перамогу социялізму ў СССР" (з пастаноў XVII партконфэрэнцыі).

---

# Аб перабудове структуры органаў краязнаўства

Пастановамі партыі і ўраду перад краязнаўчымі організацыямі пастаўлены надзвычайна вялікія і адказныя задачы ў справе „завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэньня новай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнае гаспадаркі“, як базы для вырашэньня асноўнай палітычнай задачы II-й пяцігодкі—пабудовы бясклясавага грамадзтва. Выяўленьне і вывучэньне энэргетычных і сыравінных рэсурсаў для прамысловасьці — ударная задача ў рабоце ўсіх краязнаўчых організацый. Вырашэньне проблемы павялічэньня ўраджайнасьці нашых соцыялістычных палёў, культываваньня новых сельска-гаспадарчых культур, вывучэньне экономікі раёнаў і іх спэцыялізацыі, культурнага будаўніцтва і г. д. зьяўляюцца актуальнейшымі задачамі ў краязнаўчай рабоце. Аднак, з усёй рашучасьцю трэба прызнаць, што краязнаўчыя організацыі ў БССР ня справіліся з тымі задачамі, якія перад імі былі пастаўлены. Гэта адзначана ў пастанове СНК БССР 1/VI-г/г. „Пра мерапрыемствы для разгортваньня краязнаўчага руху“. Краязнаўчыя організацыі яшчэ не перабудаваліся належным чынам для актыўнай і сыстэматычнай барацьбы за другую пяцігодку. Краязнаўчы рух яшчэ вельмі адстае ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Прычыны гэтага адставаньня заключаюцца ў існуючай яшчэ недаацэнцы ролі і значэньня савецкага краязнаўства з боку некаторых гаспадарчых і навукова-дасьледчых устаноў і організацый, РВК, органаў народнай асьветы, а таксама і ў рабоце саміх краязнаўчых організацый: у старых формах і мэтодах работы, у адсутнасьці выразнай організацыйнай структуры краязнаўчых організацый, у недастатковасьці належнага конкрэтнага опэрацыйнага кіраўніцтва нізавымі краязнаўчымі організацыямі. Ні ў апараце ЦБК, ні ў раённых бюро краязнаўства да гэтага часу ня было належнага разьмежаваньня ў рабоце, а значыць і ня было належнай адказнасьці за пэўныя ўчасткі работы з боку работнікаў краязнаўчых організацый. Сэкцыі ў складзе ЦБК і РБК існавалі больш формальна, сыстэматычнай і плянавай конкрэтнай работы не праводзілі.

У мэтах забесьпячэньня выкананьня адказьнейшых задач, пастаўленых перад краязнаўчымі організацыямі, Прэзыдыўм ЦБК пастанавіў правесьці карэнную перабудову структуры ЦБК і РБК, якая ўжо даўно насьпела і якая ўжо праведзена ў РСФСР [1]. Старшыня ЦБК зьяўляецца адказным за фармаваньне апарату ЦБК

[1] Протокол пасяджэньня Прэзыдыўму ЦБК ад 5/X-1932.

і агульнае кіраўніцтва работай Прэзыдыуму і апарату, ён-жа зьяўляецца і непасрэдным распарадчыкам крэдытамі. Бягучая опэрацыйная работа апарату ЦБК праводзіцца пад кіраўніцтвам навуковага сакратара ў вызначаных для яго межах. Усю бягучую работу ў цэлым яднае рабочы прэзыдыўм, які складаецца з членаў прэзыдыўму—штатных работнікаў ЦБК.

Асноўнымі задачамі, якія пакладзены ў аснову перабудовы структуры ІЦБК і РБК, зьяўляюцца: а) забесьпячэньне сыстэматычнай масавай популярызацыйнай і організацыйнай работы; б) організацыя плянавай навукова-мэтодычнай работы; в) організацыя сыстэматычнага ўчоту і плянаваньня; г) організацыя сыстэматычнай работы па падрыхтоўцы кадраў і д) разгортваньне выдавецкай справы. У адпаведнасьці з гэтым у складзе ЦБК і РБК організуюцца сэктары: організацыйна-інструктарскі, навукова-мэтодычны, вучотна-плянавы, кадраў і выдавецкі. Зусім зразумела, што організацыя гэтых сэктароў павінна праводзіцца не мэханічна, а ў залежнасьці ад становішча, характару, шырыні і глыбіні работы таго ці іншага бюро краязнаўства. Канечне патрэбнай зьяўляецца неадкладная організацыя організацыйна-інструктарскага і навукова-мэтодычнага сэктароў. Іншыя сэктары ўтвараюцца і разгортваюць сваю работу ўмеру ўмацаваньня работы першых двух сэктароў. У складзе ЦБК, напрыклад, выходзячы з наяўнасьці работнікаў, пакуль організаваны організацыйна-інструктарскі, навукова-мэтодычны і выдавецкі сэктары. Учот і плянаваньне ў галіне масавай і організацыйнай работы праводзіцца організацыйна-інструктарскім сэктарам, а ў галіне навукова-мэтодычнай учот і плянаваньне вядзе сэктар навукова-мэтодычны. Організацыя падрыхтоўкі, учот і плянаваньне кадраў праводзіцца організацыйна-інтруктарскім сэктарам, распрацоўка-ж плянаў і програм—навукова-мэтодычным сэктарам. У бліжэйшым-жа часе, пры ўзмацненьні апарату ЦБК, будзе організаваны самастойны сэктар кадраў, а потым і ўчотна-плянавы. Прыкладна ў такім-жа кірунку павінна разгортвацца перабудова і структуры РБК.

Ніжэй прыводзіцца пералік асноўных задач, якія стаяць перад кожным сэктарам ЦБК.

## І. Організацыйна-інструктарскі сэктар

1. Шляхам організацыі дакладаў, лекцый, выставак, праз друк, скліканьне нарад, конфэрэнцый і г. д. організуе шырокую пропаганду ідэй і задач савецкага краязнаўства.

2. Організуе і кіруе разгортаваньнем краязнаўчай сеткі (ячэек, музэяў, дасьледчых станцый, участкаў і інш.).

3. Кіруе організацыйна-інструктарскімі сэктарамі РБК.

4. Організуе і праводзіць масавыя політычна-гаспадарчыя кампаніі, краязнаўчыя месячнікі, дасьледчыя паходы.

5. Шляхам выездаў на месцы сэктар ЦБК вядзе інструктаваньне РБК па ўсім галінам работы, а таксама праверку выкананьня дырэктыў ЦБК і кіруючых органаў.

6. Распрацоўвае плян популярызацыйнай і організацыйна-інструктарскай работы па краязнаўчай сетцы.

7. Распрацоўвае і заключае генэральныя і спэцыяльныя дагаворы з установамі, прадпрыемствамі і організацыямі і забясьпечвае іх выкананьне.

8. Наладжвае і праводзіць нарады і конфэрэнцыі па організацыйным пытаньням краязнаўчай работы; падрыхтоўвае склíканьне конфэрэнцый, паседжаньняў прэзыдыўму ЦБК і яго пленумаў.

## II. Навукова-мэтодычны сэктар

Навукова-мэтодычны сэктар організуе навукова-дасьледчую і програмна-мэтодычную краязнаўчую работу ў галінах вывучэньня: а) прыродна-вытворчых сіл; б) прамысловасьці; в) сельскай гаспадаркі; г) транспорту; д) гарадзкога будаўніцтва; е) культуры і быту; ж) школьна-краязнаўчай работы; з) музэябудаўніцтва; і) абароны краіны. Работа сэктару праводзіцца праз спэцыяльныя сэкцыі, якія складаюцца з штатных работнікаў сэктару і грамадзкага актыву. Адказнасьць за работу кожнай сэкцыі нясе кіраўнік сэкцыі.

Задачамі сэктару зьяўляецца.

1. Караўніцтва навукова-мэтодычнымі сэктарамі РБК шляхам організацыі консультацыі, парапіскі і выездаў.

2. Распрацоўка і складаньне краязнаўчых дапаможнікаў, інструкцый і програм.

3. Організацыя нарад і конфэрэнцый па пытаньням навукова-дасьледчай і мэтодычнай работы.

4. Кіраўніцтва і мэтодычная дапамога па навукова-дасьледчай рабоце мясцом.

5. Падагульненьне і прапрацоўка матар'ялаў навукова-дасьледчай работы месц, вызначанай плянамі ЦБК.

6. Вызначэньне тэматыкі програма-мэтодычнай работы і падрыхтоўка матар'ялаў для друку.

7. Організацыя рэцэнзаваньня выданьняў ЦКБ і РБК.

8. Распрацоўка мэтодыкі правядзеньня гаспадарча-палітычных кампаній.

## III. Учотна-плянавы сэктар

Работа ўчотна-плянавага сэктару праводзіцца пры ўдзеле іншых сэктароў ЦБК (у адпаведных галінах работы). Задачай сэктару зьяўляецца:

1. Распрацоўка дырэктыў па складаньню пяцігадовага і гадовых плянаў краязнаўчай работы ў БССР і складаньне квартальных плянаў ЦБК па ўсім галінам работы.

2. Разгляд плянаў РБК і дача заключэньняў па ім.

3. Сыстэматычны ўчот раённых краязнаўчых організацый, музэяў, ячэек, іх складу і работы.

4. Учот работы сэктароў ЦБК і РБК, краязнаўчых конфэрэнцый і масавых кампаній.

5. Сыстэматычны ўчот пастаноў партыйных, урадавых і прафсаюзных органаў у галіне краязнаўства і праверка іх рэалізацыі.
6. Складаньне справаздач, зводак, інформацый.
7. Інструктаваньне РБК у справе плянаваньня і ўчоту краязнаўчай работы ў раёнах.

## IV. Сэктар кадраў

У задачу сэктару ўваходзіць:

1. Забесьпячэньне краязнаўчага руху новымі кадрамі і організацыя падвышэньня кваліфікацыі існуючых краязнаўчых кадраў.
2. Распрацоўка сыстэмы падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў рознай кваліфікацыі.
3. Організацыя і правядзеньне цэнтральных стацыянарных і завочных краязнаўчых курсаў і дапамога ў організацыі і правядзеньні раённых курсаў, сэмінараў і інш.
4. Распрацоўка і складаньне плянаў і програм для краязнаўчых курсаў, сэмінараў і краязнаўчых курсаў у ВНУ і тэхнікумах.
5. Кіраўніцтва сэктарамі кадраў РБК.

## V. Выдавецкі сэктар

1. Падрыхтоўвае да друку, рэдагуе і забясьпечвае выхад з друку і рассылку друкаванай продукцыі ЦБК.
2. Распрацоўвае мерапрыемствы і організуе популярызацыю краязнаўчай літаратуры сярод шырокіх працоўных мас.
3. Дапамагае ў організацыі выдавецкай справы на мясцох.

Работа РБК у самым бліжэйшым часе павінна быць перабудавана на тых-жа падставах, што і работа ЦБК. Структура РБК будуецца наступным чынам: прэзыдыўм РБК, старшыня і адказны сакратар, сэктары (адпаведныя сактаром ЦБК.) Гэта перабудова павінна ўнесьці большую выразнасьць, плянавасьць у краязнаўчую работу па ўсёй сыстэме і забясьпечыць выкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб ўзьняцьці краязнаўчай работы на ровень тых задач, якія вымагаюцца тэмпамі нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Апарат РБК павінен быць асабліва гібкім: яго структура павінна абумаўляцца тымі конкрэтнымі задачамі, якія стаяць перад раённай краязнаўчай організацыяй. У адных раёнах (Віцебск і інш.) магчыма існаваньне ўсіх вышэйпамянёных сэктароў, у другіх, дзе краязнаўчы рух толькі пачынае разгортвацца, магчыма організацыя толькі організацыйна-інструктарскага і навукова-мэтодычнага сэктароў, іншыя-ж сэктары могуць утварацца ў меру разгортваньня работы. Тое-ж самае трэба сказаць і адносна організацыі сэкцый у складзе навукова-мэтодычных сэктароў. Тут на першых часох можна абмежавацца толькі сэкцыямі па вывучэньню прыродных вытворчых сіл, прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, культуры і быту і школьна-краязнаўчай работы. Для распрацоўкі кожнай конкрэтнай тэмы дасьледчай работы організуюцца брыгады (напр.: брыгада па вывучэньню жалезнай руды ў раёне, па вывучэньню пэўнага прадпрыемства, колгасу і г. д.).

Яшчэ больш гібкай павінна быць структура краязнаўчай ячэйкі, каб забясьпечыць сыстэматычную і плянавую дасьледчую работу членаў ячэйкі. Для выкананьня featureнага віду работ (арганізацыйнай, масавай, дасьледчай), бюро арганізуе сталыя і часовыя брыгады на чале з членамі бюро, якія і зьяўляюцца адказнымі за своечасовае выкананьне тых ці іншых заданьняў. Старшыня бюро зьяўляецца адказным за работу бюро ў цэлым і ўсёй краязнаўчай ячэйкі; сакратар працуе пад кіраўніцтвам старшыні бюро і выконвае вызначаныя для яго абавязкі.

Брыгада для распрацоўкі паасобных тэм ў рабоце краязнаўчай ячэйкі мае вялікае значэньне і таму трэба зьвярнуць увагу на тое, каб ўсе брыгады працавалі з найбольшаю продукцыйнасьцю. Аднак, разам з брыгадным мэтодам работы зусім не выключаецца і індывідуальны мэтод (распрацоўка розных тэм, заданьняў). Наогул, формы і мэтоды работы ячэйкі могуць быць вельмі featureнастайнымі.

Структурная перабудова краязнаўчай арганізацыі дасьць належныя вынікі, калі соцыялістычныя мэтоды работы—соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва—будуць пакладзены ў аснову ўсёй краязнаўчай работы.

*ЦБК.*

В. Самцэвіч

# За рэалізацыю пастановы ЦК УсеКП(б) аб вучэбных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе

На аснове вялізарнейшых посьпехаў гаспадарчага социялістычнага будаўніцтва рабочая кляса і ўсе працоўныя масы БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК дабіліся надзвычайна вялікіх посьпехаў на фронце культурнага будаўніцтва. Нацыянальна прыгнечаная і культурна адсталая акраіна былой царскай імпэрыі, з 70% няпісьменнага насельніцтва, БССР к 15-ай гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі ператварылася ў перадавую культурную краіну суцэльнай пісьменнасьці. У БССР праведзена ўсеагульнае навучаньне дзяцей у пачатковай школе і ў гэтым годзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне ў аб'ёме сямігадовай школы, пасьпяхова ліквідавана няпісьменнасьць дарослага насельніцтва і ўведзена ўсеагульнае навучаньне малапісьменных. Гэтыя посьпехі на культурным фронце ў БССР, дасягнутыя ў жорсткай клясавай барацьбе, зьяўляюцца найлепшымі паказчыкамі правільнасьці правадзімай партыяй ленінскай нацыянальнай політыкі. Да Кастрычнікаўскай рэволюцыі ў Беларусі зусім адсутнічалі нацыянальныя школы, а цяпер ў БССР, апрача беларускіх, існуюць школы яўрэйскія (232), польскія (258), рускія (85), украінскія (23), латыскія (24), літоўскія (18), нямецкія (9) і інш. У БССР, як і ва ўсім СССР, маюцца вялізарнейшыя посьпехі ў разгортваньні сеткі дашкольных установаў (3770), тэхнікумаў (130), рабфакаў (51), ВНУ (32), культасьветных установаў (дамы соцкультуры, клюбы, кіно, тэатры і г. д.).[1]

Гэта вялізарная культурная рэволюцыя ў нашай краіне адбываецца ў той час, калі ў краінах капіталу пад моцнымі ўдарамі ўсеагульнага крызісу сьледам за фабрыкамі, заводамі і домнамі зачыняюцца і школы, тэатры, дасьледчыя ўстановы.

Нашы посьпехі па фронце культурнага будаўніцтва характарызуюцца ня толькі колькаснымі, але і якаснымі паказальнікамі. Праводзіцца рашучая барацьба за павышэньне якасьці вучобы,

---

[1] Лічбавыя даныя з рапорту НКА і ЦП Саюзу працасьветы ЦК КП(б)Б, СНК БССР і „Зьвязьдзе“ аб ператварэньні БССР к XV гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі ў краіну суцэльнай пісьменнасьці („Савецкая Беларусь“, №. 251, 14/XI-1932).

за ліквідацыю „карэннага недахопу школы“, які заключаецца ў тым, што „навучаньне ў школе не дае выстарчальнага аб'ёму агульна-адукацыйных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навук“ (з пастановы ЦК партыі ад 5/IX-31 г.).

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня 1932 г., адзначаючы значныя зрухі ў рабоце пачатковай і сярэдняй школы, разам з тым падкрэсьлівае, што „яшчэ ня зьнішчаны да канца „карэнны недахоп школы“, што школа яшчэ не дае вучням выстарчальнага аб'ёму ведаў. Пастановы ЦК УсеКП(б) і IV Пленуму ЦК КП(б)Б (1—5 сьнежня 1932 г.) патрабуюць далейшага перагляду і пераапрацоўкі школьных праграм, ліквідацыі мэтодычнага „пражэкцёрства“, правільнай організацыі вучэбнай работы і ўстанаўленьня цьвёрдага школьнага рэжыму. Асабліва вялікае значэньне пастанова ЦК мае для школьнага краязнаўства, вызначаючы яго ролю ў політэхнічнай школе. Даючы практычныя ўказаньні аб перабудове праграм школьнага курсу, пастанова ЦК адзначае: „Прызнаць неабходным у вучэбныя праграмы па грамадазнаўству, літаратуры, мовах, геаграфіі і гісторыі ўвесьці важнейшыя веды, якія датычаць нацыянальных культур народаў СССР, іх літаратуры, мастацтва, гістарычнага разьвіцьця, а таксама элемэнты краязнаўства СССР *(прыродныя асаблівасьці, прамысловасьць, сельская гаспадарка, соцыяльна-экономічнае разьвіцьцё і г. д.)*. Тут дакладна вызначаецца конкрэтны зьмест савецкага краязнаўства, якое заключаецца ў вывучэньні прыродных асаблівасьцяў, прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, соц-экономічнага разьвіцьця краю, раёну. Пры пераапрацоўцы праграм пастанова ЦК партыі патрабуе „ўлічыць неабходнасць выкарыстаньня ў вучэбных занятках... матар'ялу соцыялістычнага будаўніцтва, забясьпечыўшы дакладна падбор даступнага дзецям матар'ялу“ (Разьдзел I, п. в.). Гэта азначае, што ў мэтах політэхнічнага навучаньня і цьвёрдага набыцьця ведаў вучнямі школа павінна організаваць вывучэньне свайго вытворчага і соцыяльнага акружэньня і выкарыстаць даступны і блізкі дзецям матар'ял соцыялістычнага будаўніцтва свайго раёну, краю і ўсяго СССР.

Організацыя краязнаўчых экскурсій на завод, у музэй, у поле, лес і г. д., зьбіраньне колекцый і гербарыяў, выкарыстаньне прышкольных участкаў у вучэбных мэтах павінны заняць віднае месца ў рабоце школ побач з асноўнымі формамі і мэтодамі выкладаньня ў пачатковай і сярэдняй школе (Разьдзел II, п. б.).

З усёй рашучасьцю трэба падкрэсьліць, што школьнае краязнаўства ў БССР знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы. Ня гледзячы на рад дырэктыў і ўказаньняў Наркамасьветы і Цэнтральнага бюро краязнаўства, раённыя аддзелы народнае асьветы, краязнаўчыя бюро і школы яшчэ не зрабілі рашучага пералому ў галіне школьнага краязнаўства. У радзе раёнаў наглядаецца поўная недаацэнка школьнага краязнаўства з боку загадчыкаў РАНА і раённай інспэктуры, а таксама і з боку некаторых загадчыкаў школ. У выніку такой недаацэнкі ролі і значэньня школьнага краязнаўства ў пабудове сапраўды політэх-

нічнай школы, настаўнікамі часта зусім не выкарыстоўваюцца ў вучэбных мэтах багацейшыя матар'ялы мясцовай прыроды, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, вучні не набываюць навыкаў самастойнай дасьледчай работы і не навучаюцца выкарыстоўваць мясцовыя багацьці на службу соцыялістычнага будаўніцтва. Лёкалізацыя школьных програм зьяўляецца далёка нездавальняючай. Амаль зусім адсутнічае мэтодычная дапамога настаўніку з боку раймэтбюро і раённых бюро краязнаўства ў справе насычэньня школьных програм адпаведным краязнаўчым матар'ялам, організацыі дасьледчай работы з вучнямі, правядзеньня краязнаўчых экскурсій, стацыянарных досьледаў і сыстэматычных нагляданьняў над зьявамі прыроды і грамадзкага жыцьця. Яшчэ няма патрэбных для школы і настаўнікаў мэтодычных дапаможнікаў, лістоў, інструкцый па школьнай краязнаўчай рабоце.

Пастанова ЦК УсеКП(б) павінна зрабіць рашучы пералом ў галіне школьнага краязнаўства. Краязнаўчая работа ў школе павінна быць пастаўлена на належную вышыню, як магутны сродак політэхнічнага навучаньня, грунтоўнага засваеньня ведаў і разьвіцьця навыкаў дасьледваньня ў вучняў. Дырэктывы ЦК УсеКП(б), пастанова СНК БССР ад 1 чэрвеня 1932 г., Комакадэміі СССР і ўрэшце пастанова ЦК УсеКП(б) ад 25 жніўня патрабуюць шырокага разгортваньня савецкага краязнаўства, організацыі шырокіх працоўных мас для вывучэньня прыродных багацьцяў краіны, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва для выкарыстаньня вынікаў дасьледваньня ў мэтах соцыялістычнага будаўніцтва.

Перад краязнаўчымі організацыямі і органамі народнай асьветы стаіць задача організаваць мэтодычную дапамогу настаўніцтву ў справе разгортваньня школьнага краязнаўства. Па лініі ЦБК і НКА ў бліжэйшым часе павінны быць распрацаваны мэтодычныя лісты аб зьмесьце і задачах краязнаўчай работы ў пачатковай і сярэдняй школе, аб выкарыстаньні краязнаўчага матар'ялу пры выкладаньні прадметаў школьнага курсу (прыродазнаўства, гісторыя, географія і інш.), аб організацыі работы школьных краязнаўчых ячэек і г. д. Раённыя бюро краязнаўства сумесна з раймэтбюро павінны аказаць патрэбную дапамогу настаўніцтву ў выкарыстаньні мясцовага матар'ялу пры выкладаньні розных прадметаў (насычэньне програм краязнаўчым матар'ялам, організацыя консультацыі па пытаньням краязнаўчага вывучэньня прыроды, экономікі раёну, прадпрыемства, савгасу, колгасу і інш.), організаваць вывучэньне і абмен практыкаю лепшых школ у раёне ў справе пастаноўкі школьнага краязнаўства і г. д. Часопісы „Комуністычнае выхаваньне“ і „Савецкая Краіна“ павінны популярызаваць сярод настаўніцтва значэньне і месца савецкага краязнаўства ў школе, зьмяшчаць програмна-інструкцыйны і мэтодычны матар'ял па школьна-краязнаўчай рабоце, высьвятляць практыку лепшых школ і работу практычных работнікаў у галіне школьнага краязнаўства. У сыстэме падрыхтоўкі і падвышэньня кваліфікацыі настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы належнае месца павінна быць адведзена і падрыхтоўцы настаўніцтва ў галіне краязнаўства.

У нас маюцца ўсе магчымасьці для разгортваньня школьнага краязнаўства і ўзьняцьця яго на належную вышыню. Але гэтага мы яшчэ ня маем. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб вучэбных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе ад настаўніцтва, органаў народнае асьветы і краязнаўчых організацый з усёй катэгорычнасьцю патрабуе шырокага разьвіцьця і належнай пастаноўкі школьнага краязнаўства, як аднаго з магутных сродкаў у барацьбе за політэхнізацыю школы, за якасьць работы, за паглыбленьне ведаў вучняў.

Н. Е. Кавалёў

# Аб геолёгічнай пабудове БССР

## I. Уступ

У некаторай ступені штуршком для паступовага разьвіцьця гэтай працы да яе сучаснага выгляду можна лічыць вывучэньне мною проблемы паходжаньня кембра-сылюрыйскіх адкладаў каля в. Раванічы Чэрвенскага раёну.

Як непасрэднае вывучэньне гэтых адкладаў (12), так і папярэдняе знаёмства з некаторымі з падобных ізоляваных астравоў карэнных парод, толькі іншых узростаў (дэвонскі і крэйдавы) у сувязі з геолёгічнымі маршрутамі па навакольным раёнам далі мне повад усумніцца ў карэнным іх заляганьні. Гэтыя ізоляваныя выхады карэнных парод, аб якіх у далейшым прыдзецца памінаць, знаходзяцца ў наступных мясцох (гл. карту, дадатак № 4):

1. Раванічы Чэрвенскага раёну — 2 выхады кембра-сылюрыйскіх парод.
2. Дараганава Асіпавіцкага раёну—4 выхады дэвонскіх парод.
3. Г. Крычаў—выхад дэвонскіх парод.
4. Гор. Прапойск—„ „ „
5. Савгас „Вязынь“ Дзяржынскага раёну (б. Койданаўскага)—выхад крэйдавых парод.
6. В. Дзягільна Дзяржынскага раёну (б. Койданаўскага)—3 выхады і 2 пласты, дасягнутыя сьвідраной прабоінай крэйдавых парод.
7. Хут. Отрач—пласт крэйды, дасягнуты сьвідраной прабоінай.
8. Вёска Баравое—выхад крэйдавых парод.
9. Хут. Бакінава— „ „ „
10. Вёска Крамянец Лагойскага раёну—5 выхадаў тых-жа парод.
11. В. Рудня таго-ж раёну—крэйдавы пласт, дасягнуты сьвідраной прабоінай.
12. В. Быкава і Пагост Слуцкага раёну — выхад крэйдавых парод.

Як-мага хутчэйшае выкрыцьцё некарэннага паходжаньня некаторых такіх выхадаў тым больш трэба лічыць пажаданым, што вельмі часта ў справе высьвятленьня сапраўднай геолёгічнай пабудовы БССР яны адыгрывалі адмоўную ролю з тэй прычыны, што некаторымі дасьледчыкамі пры ўтварэньні імі тых ці іншых гіпотэз адносна тэктонікі БССР, апошнія заўсёды браліся як апорныя пункты. Спыненьне далейшых досьледаў як з боку

Геолёгічнага інстытуту БАН, так і Белгеолёгаразьведкі, для кан-чатковага высьвятленьня генэзісу Раваніцкіх адкладаў, якія маглі-б ужо абмежавацца толькі аднэй глыбокай сьвідраной прабоінай (для праходжаньня гэтых камлыг да падсьцілаючых іншых па ўзросту парод) і адсутнасьць пагэтаму магчымасьці вырашыць гэтую проблему, так сказаць непасрэдна, прымусіла мяне шукаць іншых шляхоў для набыцьця дадатковага матар'ялу супроць карэннага заляганьня як гэтых, так і вышэй пералічаных адкладаў. Трэба адзначыць, што адсутнасьць часу і абмежаваныя разьмеры артыкулу ў даным выданьні ня спрыялі больш падрабязнаму разьвіцьцю некаторых палажэньняў. Апрача літаратурных даных і некаторых матар'ялаў Геолёгічнага інстытуту, пры складаньні прыкладзенага да гэтага артыкулу картаграфічнага матар'ялу ў значнай меры былі скарыстаны папярэдне прагледжаныя мною матар'ялы больш глыбокіх сьвідраных прабоін Белводтрэсту. З жалем прыходзіцца констатаваць, што дзякуючы неналаджанасьці па БССР горнага нагляду, і да гэтага часу многа матар'ялаў часта досыць глыбокіх сьвідраных прабоін як гэтай, так і іншых гаспадарчых установ дарэмна гінуць без навуковай іх апрацоўкі. З тэй прычыны, што ў апошні час (пасьля таго як пачата была гэта праца) Геолёгічным інстытутам АН БССР, пад кіраўніцтвам проф. М. Т. Бліодухо, па дагавору з Гідромэтэоролёгічным інстытутам прыступлена да складаньня даведніку па падземным водам БССР, дзе павінны быць апублікаваны і самыя разрэзы сьвідраных прабоін Белводтрэсту, я абмежаваўся тут прывядзеньнем толькі сьпісу да 90 прабоін з паказаньнем глыбіні іх, а таксама прыблізных даных аб абсолютнай вышыні заляганьня як вусьцяў гэтых прабоін, так і паверхні карэнных парод дэвонскіх, крэйдавых і траццёвых (D. Cr і Pg, гл. карту сьвідр. прабоін, дадатак № 1).

Апошнія даныя мною браліся: 1) часткова з літаратуры, 2) у выпадку, калі прабоіны разьмешчаны паблізу чыгуначных станцый, азнакі апошніх па каталёгу абсолютных вышынь (15) і нарэшце 3) для рэшты прабоін, якія разьмешчаны ў розных частках тэрыторыі БССР, прыблізна па гіпсомэтрычнай карце А. Тылё. Прынятае там сячэньне горызанталяў прыблізна праз 20 мэтраў (10 саж.) не дало мне магчымасьці ўзяць меншае сячэньне для выведзеных мною ізогіпсаў падземнага рэльефу парод паказаных узростаў, а таму яно пакуль што, да набыцьця больш дасканалых даных, таксама прынята ў 20 мэтраў.

Неабходна адзначыць яшчэ як значную недастатковасьць у многіх мясцох сьвідраных прабоін, так і недастатковую якасьць набытых матар'ялаў.

З гэтай прычыны пакуль што ня выключна магчымасьць (судзячы па агульнаму характару праведзеных ізогіпсаў і адзначанай ніжэй недастатковай выразнасьці контакту карэнных парод у сярэдняй частцы тэрыторыі БССР) нечаканага знаходжаньня, але ўжо ў абмежаванай колькасьці, сапраўдных падземных пад'ёмаў карэнных парод, асабліва на ўсход ад мэрыдыяну станцыі Асіпавічы (сярэдняе цячэньня р. Бярозы, Дняпра і Сожу). Прыкладам можа служыць факт ня зусім добрай увязкі даных аб

падземным рэльефе зробленых карт з няглыбокім заляганьнем, магчыма, карэнных плястычных чырвоных глін у раёне г. Бабруйску (вуснае паведамленьне мяне аб гэтым супрацоўнікамі керамічнай ляборато+ы). Праверыць гэтыя факты на месцы мне, на жаль, не прадставіліся магчымасьці.

Трэба спадзявацца, што далейшы рост соцыялістычнай прамысловасьці (які і зьявіўся ў пасьлярэволюцыйны час галоўным стымулем для сьвідраваньня новых прабоін) дасьць магчымасьць паступова запоўніць адзначаныя прабелы.

Гэтыя вельмі спрыяючыя абставіны, у сувязі з агульным узмацненьнем геолёгаразьведачных работ, нарэшце, дадуць мгчымасьць расшыфраваць тую значную шэрую пляму, якой раней старыя геолёгі, за адсутнасьцю матар'ялаў, прымушаны былі адзначаць на геолёгічных картах амаль усю сучасную тэрыторыю БССР.

## Аб падземным рэльефе карэнных адкладаў, яго суадносінах з адзначанымі вышэй „выхадамі" карэнных парод і ўплыве на разьвіцьцё сучаснага рэльефу

### 1. Дэвонскія адклады

Грунтуючыся на адзначаных вышэй матар'ялах, мною была зроблена проба выяўленьня паасобна, з пэўным набліжэньнем (сячэньне 20 мэтраў), агульнага выгляду падземнага рельефу дэвонскіх, крэйдавых і трацьцёвых адкладаў. Пачнем з самых старадаўніх і разам з тым маючых суцэльнае пашырэньне на тэрыторыі БССР дэвонскіх адкладаў. [1]

На аснове набытых даных, агульны выгляд падземнага рельефу дэвону (не падзяляючы яго на ярусы) прадстаўляецца наступным (гл. дадатак № 2, карта ізогіпсаў падземнай паверхні дэвонскіх адкладаў на тэрыторыі БССР).

Пры знаёмстве з характарам падземнай паверхні дэвону на гэтай карце ў асноўным можна выдзеліць 5 наступных складаных частак:

1. Дзьвінска-Полацкая ўпадзіна з магчымым працягам яе на г. Лепель (да мінэральных крыніц каля в. Баркаўшчызны) з нахілам яе ў NW кірунку ўніз па даліне сучаснай р. Заходняй Дзьвіны; прыблізна пачынаючы ад г. Полацку намячаецца яе пераход у форму блізкую да жолабу з пакуль што невядомым характарам раптоўнага зьніжэньня яго берагоў.

2. Жлобін-Гомельская ўпадзіна з даволі стромкім нахілам у кірунку Жлобін—Гомель—Бахмач; такім чынам, відавочна, яна зьяўляецца паўночна-заходнім краем украінскай мульды.

3. Смаленска-Аршанскае ўзвышша, якое зьніжаецца ў бок Полацку, Менску і Гомелю.

4. Узвышша ў раёне м. Глыбокае [2] з некаторым пашырэньнем у бок Польшчы; і нарэшце—

[1] Пытаньне стратыграфічных суадносін мною ў гэтым артыкуле не закранаецца.

[2] Калі пэўны даныя аб сьвідраной прабоіне м. Глыбокае.

5. Менска-Бабруйскае плято. Закранаючы пытаньне аб суадносінах паміж сабой абсолютных вышынь заляганьня атрыманай паверхні карэннага ложа дэвонскіх парод з данымі і аб вышыні заляганьня адзначаных „выхадаў“ парод палеазойскага ўзросту (Раванічы, Дараганава, Крычаў і Прапойск) можа прысьці да вываду, што простае параўнаньне абсолютных вышынь заляганьня гаворыць супроць карэннага паходжаньня апошніх.

На месцы Раваніч паверхня карэнных дэвонскіх адкладаў залягае на вышыні прыблізна каля 60 мэтраў; калі лічыць, згодна літаратурным даным (7), абсолютную вышыню заляганьня тут выхаду кембра-сылюрыйскіх адкладаў каля 206 мэтраў, то розьніца ў заляганьні перавышае 140 мэтраў.[1] Яшчэ больш яскравым доказам, што намі адзначалася ўжо раней у літаратуры (12), можа зьяўляцца параўнаньне даных аб абсолютнай вышыні заляганьня паверхні гэтага выхаду і нізу малодшых за іх дэвонскіх адкладаў у гор. Менску (10) на адлегласьці адсюль каля 75 клм. Розьніца на такой параўнаўча нязначнай адлегласьці верху Раваніцкага выхаду і нізу, яшчэ ня пройдзенага прабоінай дэвону, дасягае да 365 мэтраў. Але судзячы па таму, што ў Менску дэвонскія адклады на такой значнай глыбіні ня былі яшчэ пройдзены, гэтая розьніца дасягае яшчэ большай (немагчымай пры нормальных умовах) велічыні. Апрача таго, раней таксама мною адзначаліся вельмі ненормальныя ўмовы заляганьня гэтых парод сярод чацьвярцёвых адкладаў, з таксама іх моцнае парушэньне. Асабліва моцныя доказы супроць карэннага заляганьня, як адзначалася мною там-жа, далі матар'ялы сьвідраной прабоіны № 36 уроч. Бяздоньніца (12) (дадатак № 36).[2] Набытыя новыя матар'ялы ў раёне гэтых выхадаў у выглядзе сьвідраной прабоіны на ваду Белводтрэсту ў кілёмэтрах 3-х адгэтуль, у саўгасе Раванічы, якой (прабоінай) на глыбіні 60,95 мэтраў былі пройдзены толькі чацьвярцёвыя адклады, і прабоіны, зробленыя мінулым летам Белгеолёгаразьведкай, глыб. 48,50 мэтра, ужо зусім амаль што паміж існуючымі тут двума выхадамі,[3] амаль цалкам пацьверджаюць другараднае іх заляганьне.

Можна меркаваць, што ў выпадку сьвідраваньня тут глыбокай прабоіны для канчатковай праверкі, яна павінна прарэзаць гэтыя камлыгі і падсьцілаючыя іх чацьвярцёвыя і магчыма яшчэ іншыя адклады, і прыблізна на глыбіні 120 мэтраў дабрацца да сапраўднага карэннага ложа дэвонскіх адкладаў. Зьвернемся далей да наступнага выхаду дэвонскіх адкладаў каля вёскі Дараганава, якія паводле літаратурных даных (8) цалкам, а па пазьнейшым даным (11) за выключэньнем уроч. Вапельня, лічацца карэннымі. Калі зробім такое-ж параўнаньне абсолютных вышынь заляганьня, як і вышэй, для Раваніч, то атрымаем наступнае: згодна прыведзенай мною карце прыблізнай паверхні дэвонскіх адкладаў,

[1] Перавышае таму, што пры нормальным заляганьні тут палеазойскіх адкладаў, гэтыя адклады павінны залягаць пад дэвонскімі і, значыцца, нават на меншай чым 60 мэтраў вышыні.

[2] Якой таксама пройдзены толькі чацьвярцёвыя адклады.

[3] Паміма ў поўнай меры правільнай заўвагі па гэтаму поваду, выказанай у літаратуры адносна конусу раструскі гэтых парод (19).

тут яны ў карэнным стане павінны знаходзіцца на абсолютнай вышыні заляганьня, прыблізна каля 50 мэтраў, вышыня-ж заляганьня ізоляваных тут некалькіх астравоў, па літаратурным даным (8) дасягяе да 151 мэтра; такім чынам, значная розьніца (да 100 мэтраў) таксама ня ўвязваецца з карэнным іх заляганьнем. Да таго-ж, дасьледчыкамі ў літаратуры (8) і асабліва (11) самімі падкрэсьліваецца моцная іх перабітасьць,—парушэньне і наогул ненормальнасьць заляганьня. Асабліва цікавыя ў гэтых адносінах даныя апошняга дасьледчыка (11) па шурфу № 5 на адлегласьці каля 140 мэтраў на поўнач ад в. Глінішча, дзе ім адзначана заляганьне пластоў з моцным парушэньнем аж да пастаноўкі іх на галаву (старчаком) і, што асабліва цікава, адзначаны ім факт заляганьня вапнякоў у ўроч. Вапельня (шурф № 7) проста непасрэдна на морэне. Пасьля прыведзенага вышэй параўнаньня абсолютных вышынь магчымасьць тут зруху ледавіком толькі шапкі выступу дэвонскіх адкладаў, на мой погляд, ня мае падстаў. Тлумачэньне факту зусім няглыбокага заляганьня тут дэвонскіх адкладаў, з прычыны няроўнасьці паверхні да кембрыйскага фундаманту (11), таксама мала верагодна.

У адносінах выхаду дэвонскіх парод каля гор. Крычаву можна адзначыць, што пасьля досьледаў там фосфарытнай партыі Маскоўскага Геолёга-разьведчага Упраўленьня другараднае іх заляганьне трэба лічыць канчаткова даведзеным. Нарэшце, толькі аб выхаду адкладаў таго-ж узросту каля г. Прапойску да гэтага часу амаль няма, пасьля проф. Армашэўскага, ніякіх пэўных даных. Ня гледзячы на тое, што прывадзімае ў пазьнейшай літаратуры (11) у зносцы на старонцы 78 меркаваньне без належных досьледаў зьяўляецца мала пераканальным, усё-ж, магчыма, як і каля гор. Крычава, яны залягаюць не ў карэнным стане.

Адносна абодвух выхадаў у літаратуры (4) таксама маецца меркаваньне аб іх некарэнным заляганьні.

Заслугоўвае яшчэ ўвагі той факт, што мінэральныя крыніцы каля Баркаўшчызны прыпадаюць на раён пашырэньня Дзьвінска-Полацкай катліны, якая яшчэ раней была адзначана ў літаратуры (4 і 13). На жаль, да гэтага часу няма даных аб самым характары зьніжэньня гэтага раёну. Таксама зварочвае на сябе ўвагу надта хуткая зьмена абсолютных вышынь заляганьня дэвонскіх адкладаў на мяжы з Латвіяй, пры няглыбокім заляганьні дэвону, нядаўна выяўленага геолёгічнымі досьледамі (9) па р. Сар'янцы і раптоўным зьнікненьнем іх на значную глыбіню на малой адлегласьці на поўдні ў мястэчку Дрысе. Такія абставіны (мінэральныя крыніцы Баркаўшчызны і адзначаныя ўмовы заляганьня паміж Сар'янкай і Дрысай і м. Глыбокае) даюць падставу меркаваць побач з прыведзеным меркаваньнем у літаратуры (9) і толькі для гэтага месца і, магчыма, яшчэ на контакту з Украінскім крышталёвым масывам—аб магчымасьці зьмяшчэньня парод збросавага тыпу. З падобных ня высьветленых месц у адносінах да характару заляганьня дэвонскіх адкладаў трэба яшчэ адзначыць раён выхаду іх па р. Дняпро вышэй г. Воршы. Пры выхадзе іх на дзенную паверхню ў самай Воршы і крыху вышэй па р. Дняпро, каля в. Кабылякі з аднаго боку

г. Дуброўны і няглыбокім заляганьні іх вышэй таго-ж гораду, у уроч. Барадзінцы (дзе гэтыя адклады залягаюць ніжэй роўню р. Дняпро каля 6 мэтраў), а яшчэ крыху вышэй каля в. Іванаўшчыны і зусім іх заляганьні над роўнем той-жа ракі, у самым гэтым горадзе, пры сьвідраваньні тут ў мінулым годзе Белводтрэстам на Бярозкаўскай вул. прабоіны на ваду на глыбіню да 84 мэтраў гэтыя пароды ня былі чамусьці спатканы. [1]

Некаторую цікавасьць прадстаўляе сабой параўнаньне атрыманых даных аб падземным рэльефе дэвонскіх адкладаў з меркаваным так званым Палескім мэрыядыянальным дэвонскім валам Апокава—Жырмунскага (гл. карту, дадатак № 2).

Як відаць з прыведзеных даных, констатаваньне паказанымі дасьледчыкамі гэтага падняцьця палеазою ў параўнаньні з зьніжэньнем яго, асабліва ў яго паўднёвай частцы ў абодва бакі (на ўсход—у бок Украінскае мульды і на захад ў бок Польскае ўпадзіны), пры сярэдняй вышыні заляганьня каля 60 мэтраў, мае ў сапраўднасьці месца ў асноўным з такой-жа конфігурацыяй; але гэтага цалкам нельга сказаць у адносінах да яго паўночнае часткі, дзе, як відаць на карце, да таго характару ўзвышэньня дэвонскіх адкладаў, якое тут назіраецца, падняцьце валу можна прыняць з некаторай нацяжкай. Прыблізна на поўнач ад гор. Слуцку гэтае падняцьце складаецца тут з так званага Менска-Бабруйскага плято з далейшым паваротам, пад'ёмам і пераходам яго ў Смаленска-Аршанскае ўзвышша (у бок так званага валу Мурчысону) з намечаным адгаліненьнем яго ў паўночна-заходнім кірунку на м. Глыбокае, якое аддзяляецца намячаемай так званай Дзьвінска-Полацкай упадзінай. Як відаць з праведзенай тэктонічнай схэмы проф. А. М. Жырмунскага, выдзеленая ім Сярэдня-Дняпроўская ўпадзіна, таксама мае месца толькі для дэвонскіх адкладаў і яна, як відаць далей, у крэйдавы час кардынальна зьмяніла сваё аблічча,—а яшчэ пазьней, на працягу трацьцёвага часу, і зусім страціла сваё значэньне. Такім чынам, калі выдзеліць плошчу з абсолютнай вышынёй заляганьня дэвону ня менш як 60 мэтраў (орыентуючыся на цэнтральнае Менска-Бабруйскае плято), то прыблізныя контуры гэтага дэвонскага ўзьняцьця можна прадставіць у наступным выглядзе (гл. карту, дадатак № 2). Трэба, да рэчы, адзначыць поўную адсутнасьць даных і да гэтага часу аб характары прыслону дэвонскіх адкладаў да ўкраінскага масыўна-крышталёвага горсту, дзе значнай доляй верагоднасьці, разам з думкай, выказанай у літаратуры (17 і 9), можна дапускаць прысутнасьць значнай дысьлёкацыі і, вярней усяго, збросавага характару. [2]

Нарэшце, у некалькіх словах трэба спыніцца на тым уплыве, які зрабілі дэвонскія адклады на разьвіцьцё рэльефу да яго сучаснага стану. Пры параўнаньні гэтых даных можна дапускаць, што ложа дэвонскіх адкладаў наклала на яго свой адбітак у такой меры, што ён ня мог быць страчаны нават на працягу

[1] Праўда, трэба адзначыць, што пры сьвідраваньні гэтай прабоіны бурмайстрам ўзоры адбіраліся ня зусім добрасумленна.

[2] Падобна да таго, як гэта адзначана проф. Ласкаровым для яго контакту з заходняга боку.

усёй далейшай доўгай геолёгічнай гісторыі тэрыторыі БССР ад руйнуючай і акумуляцыйнай дзейнасьці наступаўшых і адступаўшых мораў крэйдавага і трацьцёвага часу (а на ўсходзе часткай і юрскага) і ў дадатак да таго яшчэ ад дзейнасьці раду зьледзяненьняў, якія адбыліся ў чацьвярцёвы час. Я маю пры гэтым на ўвазе: 1) Дзьвінска-Полацкую ўпадзіну па р. Зах. Дзьвіне; 2) Сярэдня-Дняпроўскую ўпадзіну, якая зьяўляецца паўночна-заходнім краем Украінскай мульды ў раёне Ўсходняга Палесься; і нарэшце,— 3) падземнае падняцьце ў раёне Смаленск—Ворша, адбіткам чаго можна лічыць сучаснае так званае Сярэдня-Рускае ўзвышша (гл. дадатак № 6).

## 2. Крэйдавыя адклады

Як вядома, крэйдавыя адклады маюць пашырэньне толькі на сярэдняй і паўднёвай частцы БССР. Трэба адзначыць, што для ўтварэньня карты падземнага рэльефу паверхні крэйдавых адкладаў, ня гледзячы на значнае павялічэньне даных у апошнія гады, усё-ж іх яшчэ маецца не ў дастатковай ступені. Але і набытыя матар'ялы дазваляюць мець хоць прыблізнае ўяўленьне аб характары заляганьня іх паверхні ( гл. карту, дадатак № 3).

У агульным характары паверхні крэйдавых адкладаў, які нам прадстаўляецца на прыкладзенай карце, зварачае ўвагу некаторы нахіл яе ад NO-га боку на S і SW, прычым чамусьці асабліва стромкі спад назіраецца ўздоўж р. Дняпро ў раёне гг. Рагачэва і Жлобіна.

Дзеля таго, што я пакуль што ня меў у сваім распараджэньні больш дасканалых матар'ялаў аб абсолютнай вышыні заляганьня вусьцяў сьвідраных прабоін гэтага раёну (як і для большасьці прабоін наогул), мне прышлося правесьці ізогіпсу перарывіста. Трэба яшчэ зьвярнуць увагу на характар паверхні крэйды ў кірунку ўздоўж Палескай чыгункі ад гор. Клінцы на станцыю Лунінец, што мною ўжо адзначалася раней у папярэдняй справаздачы (14—рукапіс фонду Геолёгічнага інстытуту АН). Складзены мною ў гэтым кірунку геолёгічны профіль [1] (пры гэтым скарыстаны былі абсолютныя адзнакі станцый названай чыгункі (15) паказаў надта цікавы характар заляганьня яе паверхні, а іменна: пры паступовым схіле гэтай паверхні ад усходу (г. Клінцы) на захад гэтая паверхня паміж гор. Гомлем і Рэчыцай мае даволі рэзкае зьніжэньне з амплітудай да 60 мэтраў (абсолютная адзнака крэйды ў раёне гор. Гомлю каля 90 мэтраў, а ў раёне Рэчыцы (в. Заспа) 30 мэтраў). Пачынаючы ад гэтага месца паверхня крэйды захоўвае тую-ж велічыню і далей на захад, прыблізна аж да станцыі Пціч (сьвідраная прабоіна в. Чалюшчавічы ў раёне ўтоку р. Пціч), дзе абсолютная паверхня крэйды прыблізна дасягае да 29 мэтраў. Вельмі цікавым зьяўляецца той факт, што яшчэ далей на захад, пры набліжэньні да раёну максымальнага ўзьняцьця дэвонскіх адкладаў (глядзі карту, дадатак № 2), заўважаецца паступовае іх выклінваньне; так, напрыклад, ужо ў раёне ст. Жыткавічы

[1] На жаль, у гэтым выданьні я ня маю магчымасьці яго дадаць.

сьвідраной прабоінай № 189 у вёсцы Юркевічы (прыблізна на сярэдзіне дэвонскага падземнага ўзвышша) яны ўжо ня былі спатканы, і тут трацьцёвыя адклады, перакрытыя чацьвярцёвымі, налягаюць, відавочна,[1] непасрэдна на дэвонскія адклады; апошнія прадстаўлены тут (што таксама мае значную цікавасьць) ня верхнім вапняковым ярусам, а магчыма фацыяй пярэстых і, пераважна, чырвоных, то плястычных глін, то суглінкаў, а то нават і супесямі. Адклады адзначанай фацыі, на маю думку, можна аднесьці да адкладаў ніжняга ярусу дэвонскай сыстэмы і прыраўняць да блізкіх па характары матар'ялаў сьвідраной прабоіны на ст. Немавічы, вывучаных проф. Войславам (Труды бюро исследования почв, стар. 35) і акад. Карпінскім (17); зварачае толькі тут увагу надзвычайнае разьвіцьцё адкладаў гліністай фацыі, што, паміж іншым, няпрыемна адбілася на яе ваданоснасьці. Можна меркаваць, што пазьнейшымі трансгрэсіямі мораў крэйдавага і трацьцёвага часу быў абрадыраваны ня толькі вапняковы ярус, але, судзячы па сьлядам некаторай перамытасьці, і адклады ніжэйшага пескавіковага. Відавочна, што калі крэйда і спаткана сьвідраной прабоінай на ст. Лунінец,[2] то павінна быць нязначнай таўшыні, як усходні прыслон, таксама магутнай крэйдавай тоўшчы Польска-Германскай упадзіны. Як відаць, у адзначаным раёне падняцьця дэвонскіх адкладаў крэйдавыя адклады або зусім адсутнічалі, або, пасьля адкладу, былі абрадыраваны трансгрэсіямі мора трацьцёвага часу (аб чым можна меркаваць і па значнай перамытасьці крэйдавых адкладаў у праб. в. Чалюшчавічы).

Нарэшце, застановімся некалькі на адзначаных вышэй выхадах на паверхню крэйдавых парод. Пры параўнаньні даных абсолютных вышынь іх заляганьняў з данымі заляганьнямі ў тых-жа раёнах карэннага ложа крэйды па ізогіпсам атрымаем наступнае:

| Абсолютная вышыня крэйдавых адкладаў у выглядзе: | |
|---|---|
| а) Паасобных выхадаў | б) Карэннага ложа па даным карты ізогіпсаў |
| 1. Савгас „Вязынь“ каля станцыі Фаніпаль. Абсолютная вышыня невядома; другараднае заляганьне ўжо даведзена проф. Б. К. Тэрлецкім. | Па бліжэйшаму пэўнаму пункту (г. Менск) 59,12 м |
| 2. Хутар Отрач . . . . прыб. 152 м | |
| 3. В. Дзягільня (Дзяржынск. р.) 3 паклады . . . . . . у сяр. 211 м | |
| 4. В. Дзягільня па глыбокай сьвідраной прабоіне: | |
| 1-га праслойку крэйды . . прыб. 190 м | |
| 2-га „ „ . . . „ 146 м | |

[1] Матар'ялы гэтай прабоіны дасканала яшчэ не прапрацаваны.
[2] Аб гэтым маюцца ня зусім пэўныя даныя.

| Абсолютная вышыня крэйдавых адкладаў у выглядзе | | |
|---|---|---|
| а. Паасобных выхадаў | | б) Карэннага ложа па даным карты ізогіпсаў |
| 5. На в. Баравое. . . . | прыб. 215 м | Па бліжэйшаму пэўнаму пункту (г. Менск) 59,12 м |
| 6. Каля хутару Бакінава (па проф. Тэрлецкаму карэннае заляганьне пад пытаньнем; на маю думку—другараднае). | | |
| 7. в. Крамянец (на мяжы з Польшчай) у басэйне р. Гайны . . (з 5-ці выхадаў карэнныя, па проф. Тэрлецкаму, толькі 2). | у сяр. 204 м | |
| 8. в. Рудня на левым беразе р. Гайны, каля м. Лагойску . . | прыб. 180 м | |
| Усіх сярэдняя вышыня каля | 188 м | |

Як відаць, абсолютныя вышыні ўсіх пералічаных выхадаў і заляганьні крэйды ў бясспрэчна карэнным стане паказваюць значную розьніцу, якая даходзіць у сярэднім да 129 мэтраў. Пры падобнай значнай розьніцы цяжка ўявіць сабе такую зьмену ад тэктонічных прычын. Пры знаёмстве з імі ў натуры ўсе яны зварочваюць на сябе ўвагу сваім ненормальным заляганьнем, асабліва ў іх контакце з чацьвярцёвымі адкладамі. Гэтага ня мог, бязумоўна, не заўважыць і проф. Б. К. Тэрлецкі пры іх дасьледваньні, аб чым сьведчыць тое, што за часткаю іх (савгас Вязынь каля ст. Фаніпаль і тры ізоляваных выхады ў раёне в. Крамянец) ён прызнаў другараднае заляганьне. У адносінах да хутару Бакінава ў яго засталася нявыразная думка, але аднясеньню да тэй-жа катэгорыі і рэшты выхадаў, магчыма, перашкаджалі некаторыя прадпалажэньні наконт працягу з боку Віленшчыны на тэрыторыю БССР крэйдавых антыклінальных складак.[1] Да таго-ж яшчэ трэба адзначыць, што ў той час у яго ня было ў руках, на нашу думку, самай моцнай зброі супроць карэннага іх заляганьня, якой цяпер уладаем мы ў выглядзе не выклікаючых ніякага сумненьня матар'ялаў сьвідраной прабоіны на ваду глыб. 99 мэтраў, зробленай Белводтрэстам летам 1932 г. на тэрыторыі былога маёнтку Дзягільня, абсолютную вышыню вусьця якой можа лічыць прыблізна ў 201 мэтр.

У мінулае лета мною, па даручэньню Прэзыдыуму АН БССР, былі пачаты (а затым пакуль што спынены) гіолёгічныя досьледы

[1] Праўда, пры адсутнасьці ў нас ведаў аб характары заляганьня крэйдавых адкладаў у раёне Заходняй часткі БССР гэтага нельга цалкам не дапускаць.

тэрыторыі Дзяржынскага раёну (б. Койданаўскага). Гэтыя абставіны, хоць і на працягу кароткага часу, далі мне магчымасьць азнаёміцца амаль з усімі ізоляванымі астравамі крэйды за выключэньнем выхадаў у раёне в. Крамянец, Рудня басэйну р. Гайны і в. Быкава і Пагост Слуцкага раёну.[1] У сувязі з гэтым мне давялося там-жа на месцы азнаёміцца з узорамі глыбокай сьвідраной прабоіны № 136 в. Дзягільня. З прычыны важнасьці даных гэтай прабоіны я лічу неабходным прывесьці тут яе геолёгічны разрэз:

| №№ п/п. | Геолёг. узрост глеб | Якая парода | Таўшчыня слою | Глыбіня заляганьня |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | Глебавы слой | 0,3 | 0,3 |
| 2 | | Пясок гліністы жоўты | 2,7 | 3,0 |
| 3 | Чацьвярцёвыя адклады | Пясок буйны з жвірам і галькай | 1,0 | 4,0 |
| 4 | | Пясок буйна-зярнёвы з менш. кольк. галек | 3,0 | 7,0 |
| 5 | | Пясок рознастайны шэры з галькай | 2,0 | 9,0 |
| 6 | | Суглінак чырвона-буры з валунамі з кулак велічынёй | 2,0 | 11,0 |
| 7 | | Крэйда з галькай і жарствой з масыўна-крышталёвых парод | 1,0 | 12,0 |
| 8 | | Гліна цёмна-шэрая, арэхаватай пабудовы з уключэньнем кварцытавых слаба абкатаных галек з курынае яйцо велічынёю | 2,0 | 14,0 |
| 9 | | Суглінак зеленавата-шэры з іржавымі праслоямі | 5,0 | 19,0 |
| 10 | | Супесь зеленавата-шэрая з валунамі пескавіку | 3,0 | 22,0 |
| 11 | | Супесь жоўта-бурая з буйнымі валунамі | 2,0 | 24,0 |
| 12 | | Супесь шызавата-шэрая з валунчыкамі | 3,0 | 27,0 |
| 13 | | Пясок рознастайны грубы, гліністы, з дробнай вапняковай галькай | 5,0 | 32,0 |
| 14 | | Супесь шызавата-шэрая з дробнай жарствой | 7,0(?) | 39,0 |
| 15 | | Супесь брудна-шэрая з жарствой і чорнымі плямамі | 4,0 | 43,0 |
| 16 | | Гліна мулаватая, тонка-слаістая попельнага колеру, з буйной галькай | 7,0 | 50,0 |
| 17 | | Супесь як № 15 | 4,0 | 54,0 |
| 18 | | Крэйда з рэдкай дамешкай жарствы | 1,0 | 55,0 |
| 19 | | Сугліна-супесь, шызавата-шэрая з абкатанай галькай, цёмнага кварцыту | 9,0 | 64,0 |
| 20 | | Супесь пяшчаная з жарствой | 4,0 | 68,0 |

[1] Адносна Слуцкага раёну—вуснае паведамленьне супрацоўніка Геолёгічнага інстытуту С. М. Булыгі.

| №№ п/п. | Геолёг. узрост глеб | Якая парода | Таўшчыня слою | Глыбіня заляганьня |
|---|---|---|---|---|
| 21 | Чацьвярцёвыя адклады | Пясок шэры ў аснове дробна-зярнёвы гліністы . | 3,0 | 71,0 |
| 22 | | Суглінак шызавата-шэры, шчыльны з валунамі вапняковымі і ружовага граніту . . . | 5,0 | 76,0 |
| 23 | | Супесь у вільготным стане мышынага колеру, вязкая; кнізу паступова пераходзіць у суглінак з валунамі з граніту . . . . | 12,0 | 88,0 |
| 24 | | Тая-ж супесь, але паступова кнізу робіцца пяшчанай . . . . . . . . | 2,0 | 90,0 |
| 25 | | Пясок бруднавата-шэры сцэментаваны, карбонатны, гліністы, у аснове тонка і дробназярнёвы, з рэдкай дамешкай больш буйных зерняў . . . . . . . . | 0,70 | 90,70 |
| 26 | | Суглінак лёсаваты, палавога колеру, далікатны на вобмацак, пройдзены да глыбіні больш . . | 8,30 | 99,0 |

Надзвычайна цікавым зьяўляецца тут той факт, што ў сярэдзіне тоўшчы няпройдзеных цалкам чацьвярцёвых адкладаў да 100 м, спаткана было выразнае заляганьне двух праслойкаў крэйды таўшчынёй па 1 мэтру, прычым верхняга—на глыбіні 12 мэтраў і прыблізна на абсолютнай вышыні каля 190 м, а ніжняга на глыбіні 55 мэтраў з прыблізнай вышынёй заляганьня да 146 мэтраў.

Прабоіна гэта знаходзіцца ад апісаных ў літаратуры (7) выхадаў крэйды толькі на адлегласьці каля 250-400 мэтраў, прычым розьніца заляганьня крэйды гэтых выхадаў і верхняга праслою той-жа пароды сьвідраной прабоіны дасягае да 21 мэтра, а ў адносінах да ніжняга—нават да 64 мэтраў. Пасьля ўсяго гэтага для нас з усёй выразнасьцю становіцца ясным, што думка адносна карэннага заляганьня выхадаў крэйды каля в. Дзягільня, якая прыведзена ў літаратуры (7), а разам з тым і адносна прысутнасьці тут крэйдавых складак антыклінальнага характару—зьяўляецца памылковай. Памылка гэтая заключаецца ў тым, што гэтым дасьледчыкам пласт крэйды, праўда, ужо даволі значнай таўшчыні ( да 15 мэтраў) і залягаючай на пяску спатканай калісьці сьвідраной прабоінай бурмайстра Рагуновіча на хутары Отрач, прыблізна на той-жа глыбіні, як ніжні слой крэйды, прабоіны в. Дзягільня (хутар Отрач—глыб. 58 м, в. Дзягільня—на глыбіні 54 мэтраў), амаль на той-жа абсолютнай вышыні (каля 152 мэтраў) ён палічыў за карэнныя выхады і ў выніку параўнаньня даных памянутых пунктаў было зроблена памылковае дапушчэньне аб існаваньні тут аднэй з крэйдавых антыклінальных складак.

Рэшту пакладаў крэйды каля в. Крамянец і Рудні ў бас. р. Гайны на поўнач ад г. Менску, як ужо адзначалася, мне агле-

дзецЬ не давялося, але грунтуючыся на: 1) даных сьвідраной прабоіны в. Дзягільня; 2) відавочна другарадным заляганьні там-жа на полі рэшты выхадаў; 3) значнай розьніцы ў вышыні заляганьня гэтых ізоляваных выхадаў з заляганьнем крэйдавых адкладаў глыбокай сьвідраной прабоіны г. Менску (якая дасягае аж да 145 мэтраў) і, нарэшце, 4) па прызнаньню за большасьцю з іх самім іх дасьледчыкам (7) другараднага заляганьня—для мяне зьяўляецца відавочным іх некарэнны характар заляганьня.

### 3. Трацьцёвыя адклады

Што датычыцца самых маладых карэнных адкладаў, трацьцёвых, то набытыя таксама яшчэ далёка не ў дастатковай колькасьці матар'ялы дазволілі ўявіць прыблізны падземны рэльеф іх у наступным выглядзе (гл. карту, дадатак № 4).

Як і ў рэльефе крэйдавых адкладаў, тут таксама назіраецца некалькі нечаканы даволі стромкі схіл іх у тым-жа раёне Рагачэў—Жлобін. Трэба адзначыць вялікую нівэлюючую ролю адкладаў мора трацьцёвага часу (асабліва Харкаўскай яго фазы), якія ў значнай меры запоўнілі шырокую лагчыну Ўсходняга Палесься ў бок ад дэвонскага ўзвышша. Судзячы па карце, амаль на ўсёй тэрыторыі Савецкага Палесься яны пад чацьвярцёвым насьцілам залягаюць у выглядзе даволі роўнага плято. Як відаць з зробленага мною ўжо вышэй памянутага геолёгічнага профілю ўздоўж Палескай чыгункі, асабліва значную ролю адыгралі і ў гэтай справе адклады аднаго з ярусаў ніжняга аддзелу трацьцёвай сыстэмы—Харкаўскага.

## II. Аб таўшчыні заляганьня чацьвярцёвых адкладаў на тэрыторыі БССР

Нарэшце, даволі значным падсобным довадам супроць карэннага заляганьня адзначаных ізоляваных выхадаў могуць быць і даныя аб таўшчыні разьвіцьця на тэрыторыі БССР чацьвярцёвых адкладаў (гл. карту, дадатак № 5). Пры агульнай яшчэ слабай вывучанасьці тэрыторыі БССР у геолёгічных адносінах усё-ж па навейшым набытым даным можна ўжо мець хоць і прыблізнае ўяўленьне аб разьвіцьці на тэрыторыі рэспублікі гэтых адкладаў. Усе даныя аб гэтым мною падзелены на 4 групы:

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| I | Таўшчыня | чацьвярцёвых | адкладаў | ад | 0 | да | 25 | мэтраў. |
| II | " | " | " | " | 25 | | 50 | " |
| III | " | " | " | " | 50 | | 100 | " |
| IV | " | " | " | звыш | | | 100 | " |

Нанесеныя такім чынам даныя аб таўшчыні заляганьня чацьвярцёвых адкладаў даюць даволі цікавы і выразны малюнак рознай ступені разьвіцьця гэтых адкладаў на тэрыторыі БССР (гл. карту, дадатак № 5).

У агульным выглядзе зварачае на сябе ўвагу моцнае іх разьвіцьцё на паўночна-заходняй частцы рэспублікі і асабліва ў раёне г. Менску, дзе таўшчыня іх, згодна матар'ялаў глыбокіх сьвідраных прабоін на вадападзелах, набліжаецца да 200 мэтраў (10). Адсюль заўважаецца паступовае зьмяншэньне іх таўшчыні ў паў-

днёва-ўсходнім кірунку з агульным кірункам ад г. Менску на горад Гомель. Прычыны такога моцнага разьвіцьця чацьвярцёвых адкладаў у адзначанай частці БССР трэба лічыць награмаджэньне ў гэтым раёне продуктаў дзейнасьці трох аледзяненьняў, уключаючы, магчыма, і дзейнасьць Бюльскай стадыі адступу ледавіка.

У агульных рысах гэта адпавядае і межам аледзяненьня, намечаным у літаратуры (18). Толькі, на мой погляд, больш адпавядала-б сапраўднасьці, калі-б межы Міндэлькага і Вюрмскага аледзяненьняў на тэрыторыі БССР лічыць больш зблiжанымі за кошт некаторага падняцьця мяжы Міндэльскага аледзяненьня крыху на поўнач (прыблізна паміж гор. Рэчыцай і Жлобінам), а мяжу Вюрмскага некалькі адсунуць на поўдзень.

Зварачае на сябе ўвагу яшчэ і той факт, што ўсе пералічаныя вышэй „падазроныя“ ізоляваныя выхады, за выключэньнем толькі гораду Крычава і Прапойску, *разьмешчаны іменна ў зоне магутнага разьвіцьця чацьвярцёвых адкладаў*.

У геоморфолёгічных адносінах чацьвярцёвыя адклады, а з іх асабліва адклады розных зьледзяненьняў зьявіліся апошнімі як-бы гіганцкімі мазкамі ў справе ўтварэньня сучаснага фізыка-географічнага аблічча тэрыторыі БССР. Для таго, каб чытач сам мог уявіць сабе паступовае стварэньне сучаснага рэльефу тэрыторыі рэспублікі, пачынаючы ад самых старадаўніх часоў геолёгічнай гісторыі, я лічу ня лішнім для параўнаньня дадаць гіпсомэтрычную карту БССР па А. Тыльлё з сячэньнем ізогіпсаў таксама да 20 мэтраў (10 саж.) (гл. карту, дадатак № 6).

## III. Некалькі слоў аб геолёгічнай карце карэнных парод БССР

На ранейшых геолёгічных картах эўропейскай часткі Саюзу амаль уся сучасная тэрыторыя БССР была зафарбавана колерам чацьвярцёвых адкладаў, таму што ў той час амаль зусім адсутнічалі матар'ялы для ўкладаньня той геолёгічнай карты карэнных парод, якую, хоць таксама яшчэ ня зусім дасканала, але ўжо маглі скласьці розныя досьледчыкі БССР.

У самай большай меры недахоп матар'ялаў адчуваецца пры складаньні сярэдняй паласы тэрыторыі БССР, дзе яшчэ і да гэтага часу дасканала нявыразны контакты адкладаў дэвонскага, крэйдавага і трацьцёвага часу.

Грунтуючыся на літаратурных даных і даных Геолёгічнага інстытуту БАН, а таксама на навейшых, у выглядзе матар'ялаў больш глыбокіх сьвідраных прабоін, мною складзена геолёгічная карта, якая ў асноўным, на мой погляд, найбольш адпавядае сапраўднасьці (гл. карту, дадатак № 7).

У гэтай карце прышлося зрабіць некаторыя корэктывы, як напрыклад: 1) правядзеньне мяжы дэвонскіх і крэйдавых адкладаў паміж гор. Горкі і м. Дрыбін (правільная думка аб чым была выказана ў літаратуры ўжо даўно (16), яна-ж нядаўна была пацьверджана данымі зробленай для вадазабесьпячэньня на тэрыторыі б. Беларускай сельска-гаспадарчай акадэміі *глыбокай сьвідраной* прабоіны); [1] 2) ненанясеньне на карту выхадаў крэйды

[1] Матар'ялы тэтай прабоіны апрацаваны проф Ф. Л. Люнгерсгаўзэнам.

ў раёне г. Рэчыцы, якія, як адзначалася вышэй, памылкова былі ўнесены ў літататуру і ва ўсе геолёгічныя карты, здаецца, па пачыну А. Гедройца. Матар'ялямі маіх геолёгічных дольледаў на ўсходняй частцы Палесься ў 1930 годзе (14) прысутнасьць іх не пацьвердзілася, і самая прычына гэтай памылкі, відавочна, заключалася ў тым, што тут за выхады крэйды былі палічаны наяўныя ў ваколіцах г. Рэчыцы (в. Заспа, Ямпаль і Роўнае) нязначныя паклады лугавога мэргелю.

Паміма адзначаных корэктываў, пры складаньні карты мною былі апушчаны ўсе пералічаныя раней паасобныя ізоляваныя астравы карэнных парод па адзначаным вышэй прычынам.

На асноўных рысах тэктонікі БССР, за недахопам часу і месца, я маю на ўвазе затрымацца больш падрабязна некалькі пазьней, да якога часу, трэба спадзявацца, павялічыцца колькасьць матар'ялаў па глыбокім сьвідраным прабоінам (патрэбнасьць у якіх, як апорных пунктах, адчуваецца і цяпер яшчэ вялікая), а таксама і большая дасканаласьць гіпсомэтрычных матар'ялаў.

Да гэтай працы дадаецца сьпіс сьвідраных прабоін, матар'ялы якіх былі ўжо ў ёй скарыстаны, а таксама 7 карт з рознымі вызначэньнямі.

## СЬПІС
### сьвідраных прабоін, матарялы якіх былі скарыстаны ў працы *)

| №№ п./ч. | Ст. №№ | Месцазнаходжаньне | Агульная глыб. праб. | Абсол. адз. вусьця праб. | Таўшч. чацьвярц. адкл. | Абс. кар. D | Адзн. адкл. Cr | Па-верх. у м Pg | Адкуль узята |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 4 | г. Полацак . . . . | 183,36 | 131 | 99,84 | м 47,0 | — | — | Ж+В |
| 2 | | м. Глыбокае (Польшча) | — | — | — | 117,0 | — | — | Ж |
| 3 | | Дрэтунь . . . . . | 6.60,0 | 157,0 | 60 | 96п. | — | — | Бв |
| 4 | | м. Дрыса . . . . | 106 | 116 | б 106 | м 10 | — | — | Ж |
| 5 | 1 | г. Дзьвінск (Латвія) . | 88,75 | 98 | б 89 | м 9 | — | — | „ |
| 6 | | г. Лепель . . . . | 59,74 | 155 | б 59,7 | м 95 | — | — | „ |
| 7 | 142 | м. Варонеч (Полацкі р.) | 78,70 | 160п | б 79 | — | — | — | Бв |
| 8 | 2 | г. Рэжыца (Латвія) . | 29,57 | 139п | 27,74 | 111,3 | — | — | Ж |
| 9 | | г. Люцын (Латвія) . | 85,04 | 149п | 37,80 | 111 | — | — | „ |
| 10 | | г. Віцебск . . . . | 130 | 149 | (15—60) 38 | 105—117 108 | — | — | Ж+Бв |
| 11 | 2 | г. Сянно . . . . | 85,34 | 202 п | б 85,34 | м117 | — | — | Ж |
| 12 | | м. Усьвята (РСФСР) . | 62,34 | 160 | 36,27 | 124 | — | — | „ |
| 13 | | воз. Ашо (РСФСР) . | 21,77 | 169 | 21,75 | 147 | — | — | „ |
| 14 | | м. Бешанковічы . . | 99,06 | 138,7 | б99.06 | м 40 | — | — | „ |
| 15 | 186 | Лосьвіда . . . . | 55 | 167,3 | б.55 | б112 | — | — | Бв |
| 16 | | Нова-Сакольн. (РСФСР) | 22,40 | 114,2 | 20,27 | 93,88 | — | — | Ж |

*) Групаваньне сьвідраных прабоін зроблена па ранейшаму акруговаму падзелу тэрыторыі БССР.

| №№ п./ч. | Ст. №№ | Месцазнаходжаньне | Агульная глыб. праб. | Абсол. адз. глыб. праб. | Таўшч. чацьвярц. адкл. | Абс. кар. | Адзн. адкл. | Паверх у м | Адкуль узята |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | D | Cr | Pg | |
| 17 | | г. Ворша . . . . | 94 | 173п | 28 | 133 | — | — | Ж |
| 18 | | г. Горкі . . . . . | 119,9 | 186п | 36 | 150 | — | — | В-Л |
| 19 | | м. Ляды . . . . . | 72,85 | 201 | 66,76 | 133 | — | — | Ж |
| 20 | 61 | Талачын . . . . . | 135,2 | 204 | б81,5 | 123п | — | — | Бв-К |
| 21 | 94 | Выдрыца . . . . | 41,15 | 161,6 | 37,0 | 121,0 | — | — | Ж |
| 22 | 222 | Асінбуд . . . . . | 41,5 | 172,0 | 26 | 146 | — | — | Бв-К |
| 23 | 4 | г. Мсьціслаў . . . | 70,11 | 206п | 43 | ? | ? | 163п | Ж |
| 24 | 107 | Колгас Ларынава (каля Воршы) . . . . | 46 | — | 45 | — | — | — | Бв-К |
| 25 | — | Шугайлава (паміж Воршай і Дуброўнай) . | 63,10 | — | 54,20 | — | — | — | Бв-К |
| 26 | 207 | ст. Багушэўская . . | б60 | 167,8 | — | 110п | — | — | Бв-К |
| 27 | 6 | в. Іванаўшчына на р. Дняпро (вышэй г. Дуброўны) . . | — | — | — | Выхад дэвону | — | — | К |
| 28 | 18 | г. Смаленск (РСФСР). | 134 | 245 | 100 | 149 | — | — | Ж |
| 29 | 2 | Пляцф. на 401 вярсьце пад Смаленскам . . | 86 | 186 | 109 | 109 | — | — | Ж |
| 30 | 4 | г. Менск . . . . | 353,8 | 194,7 | б127,5 | 48 | 59,12 | 67,25 | Б |
| 31 | — | м. Бабоўня . . . . | 122 | 180п | б100 | 76п | — | 80п | Ж |
| 32 | 55 | Цімкавічы . . . . | 61,60 | 160п | 47,45 | ? | ? | 113ц | Бв-К |
| 33 | 109 | ст. Калодзішчы . . | 63,90 | 222,1 | б64 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 34 | — | „ Смалявічы . . . | — | 190 | — | ? | ? | ? | Бв-К |
| 35 | — | г. Барысаў . . . . | 70 | 160п | б70 | м90п | ? | ? | Бв-К |
| 36 | — | г. Вільня (Польшча) . | 117,6 | 185п | 76 | — | ? | ? | Г |
| 37 | — | м. Заслаўе . . . . | — | 220п | б100п | — | — | — | Бв-К |
| 38 | — | г. Чэрвень . . . . | 49,08 | — | б50 | ? | ? | ? | Бв-жк |
| 39 | 141 | в. Раванічы . . . . | 60,95 | 180п | б61 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 40 | 92 | Плешчаніцы . . . | 107,1 | — | б107,1 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 41 | 54 | м. Лагойск . . . . | 66,35 | — | б66 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 42 | 130 | Савгас Вілень Пухавіцкага раёну . . | 94 | — | б94п | ? | ? | ? | Бв-К |
| 43 | 108 | Савгас ім. Сталіна Дзяржынскага раёну. | 84,40 | — | б84,40 | ? | ? | ? | Бв-К |

| №№ п./ч. | Ст. №№ | Месцазнаходжаньне | Агульная глыб. праб. | Абсол. адз. глыб. праб. | Таўшч. чацьвярц. адкл. | Абс. кар. D | Адзн. адкл. Cr | Паверх. у м Pg | Адкуль узята |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 44 | 178 | Савгас „Вызваленьне" Грабёнкаўскага с/с Смалявіцкага раёну. | 64,85 | — | б65 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 45 | 163 | в. Дзягільня Дзяржынскага раёну . . . | 99 | 201п | б99 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 46 | — | г. Магілеў . . . . | 168 | 165п | 45п | 91 | 111 | — | Ж |
| 47 | — | м. Бялынічы . . . | 44,81 | 195 | б45 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 48 | — | ст. Латва . . . . | 107,5 | 202 | 27,74 | 111,3 | — | — | Бв-К |
| 49 | — | „ Доўск . . . . | 51,82 | 181,0 | 35,97 | ? | 140п | 145п | Ж |
| 50 | — | г. Рослаў *) (РСФСР). | 128 | 212 | 60,4 | 92п | 158 | ? | Ж |
| 51 | — | г. Быхаў . . . . | 108,1 | 158 | 51п | ? | 105 | 107 | Бв-Ж |
| 52 | — | г. Чэрыкаў . . . . | 68,28 | 203п | 39 | ? | 180п | ? | Ж |
| 53 | — | г. Чаўск. . . . . | 44,81 | 202п | 44,81 | ? | 157п | ? | Ж |
| 54 | — | Касьцюковічы . . . | 60,56 | 160п | 14,68 | ? | 146п | ? | Бв-К |
| 55 | — | г. Крычаў . . . . | — | 185п | 0 | ? | Выхад крэйды | ? | Б-МР |
| 56 | 1 | г. Бабруйск . . . | 289,9 | 152,5 | 49,85 | 44 | 88,5 | 102,6 | Бв-В |
| 57 | 40 | Асіпавічы . . . . | 108 | 159п | 84п | 54п | — | — | Бв-К |
| 58 | 61 | в. Кісялевічы . . . | 101,4 | 165п | 79п | ? | 82п | 86п | Бв-К |
| 59 | — | г. Жлобін . . . . | 70 | 141п | 23 | ? | 99п | 100п | Ж-Бв |
| 60 | — | г. Рагачэў . . . . | 61,58 | 140 | 37п | ? | 90п | 100п | Ж |
| 61 | — | м. Любань . . . . | 75 | 139 | 72,12 | ? | ? | 67п | Бв-К |
| 62 | — | ст. Красны Бераг . . | 91,25 | 142 | 44п | ? | 90п | 98п | Бв-К |
| 63 | — | „ Урэчча . . . . | 82,02 | 160п | 60п | ? | ? | 100п | Бв-К |
| 64 | 116 | „ Дараганава . . . | 37,25 | 151 | б37 | ? | ? | ? | Тр |
| 65 | — | г. Слуцак . . . . | 58,80 | — | б58,8п | ? | ? | ? | Бв-К |
| 66 | — | Колгас Іваншчавічы Парыцкага раёну . | — | 139п | — | ? | ? | 131п | Бв-К |
| 67 | — | м. Гарадзец . . . | 112,5 | 160п | б28,95 | ? | 115п | — | Бв-К |
| 68 | — | в. Быкава і в. Пагост. | — | 150п | 0 | ? | Выхад крэйды | ? | БАН |
| 69 | — | в. Жырхаўка . . . . | 20 | 120п | . | . | . | 112п | БАН |

*) Абсол. адзнака паверхні юрскіх адкладаў 131,0.

| №№ п./ч. | Ст. №№ | Месцазнаходжаньне | Агульная глыб. праб. | Абсол. аддз. вусьця праб. | Таўшч. чацьвярц. адкл. | Абс. кар. D | Адзн. адкл. Gr | Паверх. у м Pg | Адкуль узята |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 70 | 6 | г. Гомель. . . . . . | 216,1 | 135,7 | 24,10 | б80 | 96,8 | 124 | ж |
| 71 | 60 | в. Заспа . . . . . . | 124 | 127 | 18п | 63 | 32 | 100 | Бв-К |
| 72 | 84 | Васілевічы . . . . | 81,80 | 133 | 32,80 | м51 | | 100 | Бв-К |
| 73 | | г. Клінцы (РСФСР) . | 155,5 | 174п | 32 | м19 | 130 | 140 | Бв-К |
| 74 | | Буда-Кашалёўская . . | 37,19 | 156,5 | 25,30 | ? | ? | 131,2п | Бв-К |
| 75 | | Савгас „Перамога сацыялізму" Хойніцкага раёну . . . . | 52,88 | . | 21 | ? | ? | ? | Бв-К |
| 76 | | в. Вузнаж Горвальскага сельсавету. . . | 54 | 149 | 50,5 | ? | ? | 88,5 | БАН |
| 77 | | м. Брагін. . . . . | 34,14 | 111 | 20п | ? | ? | 91 | Т |
| 78 | | г. Рэчыца . . . . | 19,50 | 130,3 | . | . | . | 113п | Г |
| 79 | | м. Горваль . . . . | 27,0 | | | | | 115п | БАН |
| 80 | | г. Мозыр . . . . . . | 161,2 | 166,4 | 85 | ? | ? | 81 | Т |
| 81 | | ст. Астанковічы . . . | 196,6 | 151п | 64п | ? | 30п | 86п | В-К |
| 82 | | „ Калінкавічы . . . | 150 | 125 | 25 | м-25 | 25 | 100 | Бв-КР |
| 83 | | „ Старушкі. . . . | 88,76 | 134,7 | 24 | ? | 48? | 90п | Т |
| 84 | | Чалюшчавічы (ст. Пціч). | 145 | 121 | 22 | м-24 | 28 | 100 | Бв-К |
| 85 | | в. Дарашэвічы . . . | 64,35 | 120п | 11п | ? | 30п | 109п | Т |
| 86 | | ст. Жыткавічы . . . | 25,56 | 136п | 25п | ? | ? | 111п | Бв-К |
| 87 | | в. Юркевічы. . . . | б122 | 136п | 41п | 59п | — | 95п | Бв-К |
| 88 | | ст. Лунінец (Польшча). | 142,8 | 134 | 27 | 73п | 91п | 107п | ТЖ |
| 89 | | в. Ліпава . . . . . . | 46 | 139п | 45,5 | ? | ? | 93п | Бв-К |
| 90 | | в. Славунь . . . . | 51 | 135 | 43 | ? | ? | 92 | БАН-к |

## Тлумачэньне скарочаных слоў

1. Бв — Белводтрэст.
2. В — Вадаканалстрой.
3. МРГРУ — Маскоўскае геолёга-разьведачкае ўпраўленьне.
4. БАН — Беларуская Акадэмія Навук.
5. Ж — Жырмунскі А. М.
6. Т — Тутковскі П. А.
7. Б — Бліодухо М. Т.
8. Г — Гедройц А.
9. Тр — Тэрлецкі Б. К.
10. Л — Лунгерсгаўзэн Ф. В.
11. Кр — Красоўскі А. У.
12. К — Кавалёў Н. Е.
13. п — прыблізна.
14. б47 — больш 47 мэтраў.
15. м38 — менш 38 мэтраў.

## Літаратура


1. Проф. Оппоков Е. В. Глубокое бурение 1914-15 г. в г. Минске в сопоставлении с другими глубокими буровыми скважинами в районе Полесья (стар. 100-101). Материалы по исследованию рек и речных долин Полесья. вып. Министерства Земледелия, Отдел Зем. улучшений. 1916 г.
2. Гедройц А. А. Геологические исследования в губерниях Виленской, Гродненской, Минской, Волынской і сев. губ. Ц. Польского. Записки Минералогического общества.
M. Проф. Жирмунский А. М. Основные черты тектоники Западного края. Известия Московского отделения Геологического Комитета. 1919 г., т. 1.
4. Проф. Жирмунский А. М. Подземные воды Западного края. Издание Геологического Комитета. 1927 г.
4а. Проф. Жирмунский А. М. Геологический очерк БССР и Западной области РСФСР. Геологическое издательство ГГРУ. 1930 г.
5. Проф. Жирмунский А. И. Главный девонский вал Северо-Западного края. Известия ГГРУ. XIX. 1930 г. № 4.
6. Проф. Тутковский П. А. Геологические исследования на территории быв. Минской губ., ч. 1, Госплан БССР.
7. Проф. Тэрлецкі Б. К. Апісаньне адкладаў крэйдавае сыстэмы ў Менскай акрузе. Запіскі аддзелу прыроды і гаспадаркі БАН, т. I, 1928 г., г. Менск.
8. Проф. Терлецкий Б. К. О находке девонских отложений в Бобруйском округе БССР. Известия Геологического Комитета. 1928 г.
9. Проф Люнгерсгаўзэн Ф. В. Уступ у геолёгію Беларусі. Горкі. БССР. Бел. сел.-гасп. акадэмія. 1930 г.
10. Проф. Бліодухо М. Т. Сьвідраная прабоіна № 4 Эльводу г. Менску (Рукапіс фонду Геол. інстытуту БАН, г. Менск).
11. Малярэвіч С. С. Новыя даныя аб выхадах парод дэвонскага ўзросту каля ст. Дараганава чыгункі Асіпавічы—Слуцак у Бабруйшчыне. Матар'ялы па вывучэньню геолёгіі і карысных выкапняў Берлаусі, т. V. Менск, БАН. 1932 г.
12. Кавалёў Н. Е. Некалькі новых даных аб кембра-сылюрыйскіх адкладах каля в. Раванічы. Там-жа.
13. Кавалёў Н. Е. Справаздача аб геолёгічных досьледах у ваколіцах Полацку і па праваму берагу Заходняй Дзьвіны ў межах Полацкай акругі. Матар'ялы да геолёгічнага і глебазнаўчага вывучэньня Беларусі, т. II. Менск. БАН. 1931 г.
14. Кавалёў Н. Е. Геолёгічныя і гідрагеолёгічныя досьледы на ўсходняй частцы Палесься (папярэдняя справаздача аб досьледах 1930 г.). Рукапіс фонду Геолёгічнага інстытуту БАН. 1932 г.
15. Свод нивеллировак железных дорог Европейской части СССР и каталог высот над уровнем моря железнодорожных станций. Средний район. Материалы па гипсометрии, вып. № 39.
16. Проф. Можаровский Б. А. Послетретические отложения и водоносные горизонты в верховьях реки Прони. Материалы Запомо, вып. II, 1923 г. Горки.
17. Акад. Карпинский А. П. О результатах некоторых буровых работ в бассейне Припети. Известия Императорской Академии Наук. 1907 г.
18. Проф. Мирчинк Г. Ф. О количестве оледенений русской равнины. ж. Природа. 1928 г. № 7-8
19. Проф. Мирчинк Г. Ф. и Микулина Т. М. Предварительный отчет о геологических исследованиях правобережья р. Березины в пределах северо-западной четверти 29-го листа. Известия Геологического Комитета. 1929 г., т. 48, № 10.

## Тлумачэньні да карт-дадаткаў

1. Дадатак № 1. Карта сьвідраных прабоін, матар'ялы якіх скарыстаны ў працы.
2. Дадатак № 2. Карта ізогіпсаў падземнага рэльефу паверхні дэвонскіх адкладаў
--- азначаюць контуры Палескага мэрыдыянальнага дэвонскага валу (па Апокаву—Жырмунскаму) ... кропкі азначаюць контуры ўзвышэньня дэвонскіх адкладаў, згодна навейшым даным.
3. Дадатак № 3. Карта ізогіпсаў падземнага рэльефу паверхні крэйдавых адкладаў.
4. Дадатак № 4. Карта ізогіпсаў падземнага рэльефу паверхні трацьцёвых адкладаў.
Чорнымі плямамі нанесены выхады карэнных парод рознага ўзросту, заляганьне якіх аўтар лічыць другарадным; першым нумарам (1) вызначаны выхады кембра-сылюрыйскіх парод; другім нумарам (2)—выхады дэвонскіх парод; трэцім (3) — выхады крэйдавых парод.
5. Дадатак № 5. Карта разьвіцьця чацьвярцёвых адкладаў на тэрыторыі БССР.
6. Дадатак № 6. Гіпсомэтрычная карта па А. Тыльлё. З прычыны адсутнасьці на карце ўмоўных знакаў на ёй прадстаўлены для орыентоўкі лічбы, якім адпавядаюць наступныя абсолютныя вышыні заляганьня над роўнем мора (акругла ў мэтрах).

1. Абсолютная вышыня ад 85 да 107 мэтраў.
2. " " " 107 — 128 "
3. " " " 128 — 149 "
4. " " " 149 — 171 "
5. " " " 171 — 192 "
6. " " " 192 — 213 "
7. " " " 213 — 235 "
8. " " " 235 — 256 "
9. " " " 256 — 277 "
10. " " " 277 — 298 "
11. " " " 298 — 320 "
12. " " " 320 — 341 "
13. " " " 341 — 363 "

Дадатак № 7. Геолёгічная карта карэнных адкладаў БССР (укладзена па літаратурным даным Геолёгічнага інстытуту АН БССР).


Полацак
Віцебск
Ворша
Магілеў
Менск
Бабруйск
Гомель
Мазыр
8
9
13
16
5
4
3
12
15
7
2
10
14
6
11
26
22
21
27
19
25
17
29
28
36
40
20
18
35
41
34
37
33
30
39
43
44
45
38
48
47
46
53
23
50
55
52
51
42
31
57
54
64
58
56
49
32
65
60
67
63
62
68
59
61
66
74
69
73
81
76
79
87
90
89
78
70
88
86
83
84
82
72
71
85
80
75
77
20
0
20
40
60

Дадатак № 1.




Дадатак № 2.




Дадатак № 3.




Дадатак № 6.




Дадатак № 7.

П. В. Астапеня і Ц. А. Каган

# Да пытаньня аб гідрахэмічным рэжыме р. Сьвіслачы

Адным з буйных комунальных захадаў па ўпарадкаваньню нашых гарадоў, якія патрабуюць значных капіталаўкладаньняў, зьяўляецца аздараўленьне і прывядзеньне ў належны від адкрытых вадазбораў у нашых гарадох. Да гэтага часу такія рэчкі як Сьвіслач у Менску, Дубровенка ў Магілеве, Віцьба ў Віцебску і да т. п. замест таго, каб упрыгожваць горад і служыць тым ці іншым культурна-спортыўным запатрабаваньням, ператвораны як-бы ў „агульнасплаўныя каналізацыйныя колектары". Бязумоўна, яны адыгрываюць не апошнюю ролю ў пашырэньні цэлага раду эпідэмічных захворваньняў, асабліва страўна-кішэчных. Без упарадкаваньня падобных вадазбораў немагчыма рацыянальнае плянаваньне і аздараўленьне гораду. З прычыны таго, што для складаньня проектаў упарадкаваньня падобных вадазбораў патрэбны папярэднія гідралёгічныя і гідрахэмічныя дасьледваньні, зразумела, што да збору гэтых матар'ялаў трэба прыступіць загадзя. Ніжэй мы падаем матар'ялы нашых дасьледваньняў р. Сьвіслачы з тым, каб пры вывучэньні аналёгічных вадазбораў прытрымлівацца падобнага парадку дасьледваньня.

Р. Сьвіслач, правая прытока р. Бярэзіны, пачынаецца ў вёсцы Шапавалы ў 40 клм ад Менску на ўзвышшы вадападзелу Чорнага і Балтыцкага мораў. Яе даўжыня 300 клм. Яна мае добра распрацаваную даліну, у якой адлажыла даволі магутную тоўшчу алювіяльных адкладаў. У сучасны момант рэчышча ракі надта зьвілістае і рака, працякаючы па гэтым зьвілінам, энэргічна размывае карэнны бераг, які ў мясцох найбольшага выгіну набывае выгляд вэртыкальных абрываў. Апошнія могуць служыць выгодным матар'ялам для вывучэньня геолёгічнай будовы мясцовасьці.Ноймавая тэраса ракі складаецца з алювіяльных пяшчанамулаватых адкладаў і таму ў многіх мясцох аказваецца забалочанай у розных ступенях.

Паводле даных Бюро падземных вод ВСНГ, рака у межах гораду і ніжэй яго ў значнай меры жывіцца за кошт павярхоўных глебавых і грунтовых міжморэнных вод. Надта яскрава гэта пацьвярджаецца вялікай колькасьцю крыніц, якія выступаюць на беразе ракі. Таксама яскравым пацьвярджэньнем інтэнсыўнага жыўленьня ракі падземнымі стокамі могуць служыць гідрамэт-

рычныя даныя адначасовага замеру вады ў паста ў г. Менску і Зацітаўскай Слабадзе (каля 8 клм ніжэй гораду).

Пост у Менску даў расход 3.800 м$^3$, а ў Зацітаўскай Слабадзе 9,300 м$^3$.

У сувязі з тым, што рака працякае ў міжморэнных пясках, узаемнае перамешваньне рэчнай вады з вадой гэтых пяскоў, пранікненьне гэтай вады ў міжморэнныя пяскі на некаторую адлегласьць ад рэчышча зусім магчыма, але гэтае пранікненьне ня можа боць значным з прычыны рэзка выражанай дрэнуючай здольнасьці ракі.

Для больш поўнага высьвятленьня дынамікі руху і ўзаемасувязі паміж глебавымі і грунтовымі водамі і ракой, намі на адлегласьці каля 50 м ад берагу ракі былі вырыты 5 шурфаў, з якіх 4 распаложаны ў кутох 4-кутніку, а 5 у цэнтры на адлегласьці адзін ад другога ў 20 м і зроблена некалькі аналізаў вады з гэтых шурфаў і з ракі (гл. табліца №1).

Для выяўленьня кірунку цячэньня глебавых вод намі былі пастаўлены наступныя досьледы: у шурф № 5, які знаходзіўся ў цэнтры ўсіх вырытых шурфоў—была насыпана значная колькасьць NaCl, які праз 19 дзён даў павялічэньне на Cl ў шурфох, распаложаных бліжэй да Сьвіслачы (гл. табл. № 2), не зьмяніўшы колькасьці хлёрыдаў у процілеглых шурфох.

Досьледы з вырытымі шурфамі паказалі яўна выражаны кірунак руху ў бок Сьвіслачы.

У схэме можна дапусьціць, што кірунак руху глебавых вод амаль пэрпэндыкулярны восі ракі. Аднак, пры павышэньні роўню стаяньня вады ў рацэ (у часе павадак) хуткасьць руху глебавых і грунтовых вод у даліне ракі можа або практычна набліжацца да нуля, або вада рухаецца ў процілеглым кірунку.

Назіраньне за фізыка-хэмічным і бактэрыяльным складам вады з ракі вялося на працягу з 1928 да апошняга году.

Для нагляданьня было вызначана 20 наступных пунктаў:

1 і 2—Крупкі, 3—Людамант, 4—Дрожджавы завод „Пролетары" 5—Татарскі мост, 6—Н. Рынак, правы бераг ракі, 7—Н. Рынак, левы бераг, 8—Лазьня на Пролетарскай вул., 9—Эльвод, левы бераг, 10—Эльвод, правы бераг, 11—Лазьня на вул. Лекерта, 12—Скураны завод, 13 Скатабойня, левы бераг, 14—Скатабойня, правы бераг, 15—Лошыца, 16—Казюры, 17—Н. Двор, 18—Каралішчавічы, 19—Зазер'е, 20—Міхановічы.

Гідрахэмічнае і бактэрыолёгічнае дасьледваньне вады р. Сьвіслачы вялося паводле „Штандартные методы исследования воды". Изд. постоян. бюро водопров. и санитарно-техническ. с'ездов.

Хэмічным дасьледваньнем апрача вывучэньня мінэральнага складу вады часткова быў ахоплены і кіслародны рэжым ракі Сьвіслачы.

Бактэрыолёгічны аналіз вывучаў лік колёній у 1 к. см і таксама колі-тітр.

Пераходзячы да характарыстыкі фізыка-хэмічнага і біолёгічнага рэжыму р. Сьвіслачы, трэба падкрэсьліць, што апошні ў рацэ залежыць ад дзьвюх галоўных асноўных прычын.

1. Ад мэтэоролёгічных фактараў, прычым пад імі разумеюцца як сэзонныя зьмены, так і стан пагоды ў кожным сэзоне году.

2. Ад санітарнага становішча ракі.

## Фізычныя ўласьцівасьці

*1. Каляровасьць* вады, якая вызначалася ў градусах амэрыканскай плятына-кобальтавай шкалы каляровасьці, ня зусім высокая, яна хістаецца ў сярэднім у межах ад 10°—25° (гл. табл. № 3), прычым у часе асеньніх павадак, як гэта мы бачым па табл. № 4, яна дасягае велічыні да 40—65°. Аднак, нарастаньне каляровасьці ня ідзе заўсёды проста-пропорцыянальна павярхоўнаму стоку. Вясновыя павадкі на каляровасьць мала ўплываюць, таму што павярхоўны сток, які зьбіраецца з прамерзлае глебы, слаба насычаецца гумінавымі злучэньнямі. У мяжы гораду каляровасьць паступова нарастае. У той час калі ў Крупках яна роўна 10°, на Н. Рынку, дзе ў раку ўпадаюць воды з Нямігскага колектару, які нясе стокі з Шпалернай ф-кі, каляровасьць вады з ракі ў гэтым месцы выражаецца лічбай 25°. Ніжэй па цячэньню каляровасьць вады з ракі амаль не зьмяняецца і нават у ст. Міхановічы, дзе ўжо наглядаецца паляпшэньне якасьці вады, *каляровасьць таксама застаецца роўнай 20°*. Апошняе тлумачыцца наяўнасьцю гумінавых матэрый, якія вызначаюцца сваёй адноснай стабільнасьцю і цяжка-ўсваяльнасьцю, гэта значыць, слаба падлягаюць фотосынтэзу і асыміляцыі. Аднэй з крыніц трапляньня ў раку гэтых гумінавых аснаваньняў зьяўляецца р. Сьлепня, якая перасякае, так званае камароўскае балота, прыносіць у раку значную колькасьць гумінавых злучэньняў.

Р. Сьлепня трапляе ў Сьвіслач ніжэй гарадзкой мяжы.

*2. Празрыстасьць* вады, якая цесна зьвязана з колькасьцю ўзважаных матэрый, вагаецца па ўсёй даўжыні ракі ў залежнасьці ад агульнага стану вады ў даны пэрыод. У раёне Людаманту празрыстасьць ракі даходзіць да 90° па Snellen'у, каля Н. Рынку мы ўжо маем асадак вады, дзе яе празрыстасьць можа быць выражана ў 60° па Snellen'у, а каля Скатабойні—43° (гл. табл. № 5). Гэтыя лічбы характарызуюць ваду ў пэрыод летнята межаннага роўню вады. У часы-ж вялікіх дажджоў празрыстасьць значна зьніжаецца і даходзіць іншы раз да 3—5° па Snellen'у (табл. № 7).

*3. Колькасьць узважаных матэрый* надта невялікая ў верхняй частцы ракі на Старажоўцы (10 мг на літр), паступова нарастае ў горадзе, даходзячы ля заводу „Бальшавік“ да 30 мг на літар (гл. табл. № 6). Добрай ілюстрацыяй уплыву мэтэоролёгічных зьмен на колькасьць узважаных матэрый можа служыць табліца № 7, па якой мы бачым, што ў пэрыод доўгіх дажджоў колькасьць узважаных матэрый у вадзе каля Эльводу даходзіць да 190 мг, а ў сухую пагоду да 15 мг на літар.

4. Трэба адзначыць, што вада Сьвіслачы ніжэй Эльводу мае значна выражаную ірызацыю за кошт мінэральных алеяў, якія ўносяцца ў раку вадой, ахалоджваючай турбіны.

Колькасьць цяпла, якое прымаецца ракой ад турбін Эльводу і сточных вод кожзаводу і скатабойні, дастаткова для таго, каб

папярэдзіць замярзаньне ракі да Аранскага маста ў самыя моцныя марозы.

5. Пры ўважлівым праглядзе наяўнага аналітычнага матар'ялу мы адразу можам сказаць, што вада р. Сьвіслачы адносіцца да вод адносна мала мінэралізаваных. Сярэдняя лічба з шчыльных астач у незабруджанай частцы ракі выражаецца ў 217 мг, у найбольш забрудненай частцы каля скатабойні 281.

Дынаміку шчыльнай астачы ў меру дрэнаваньня ракой глебавых і грунтовых вод у межах гораду і таксама ў меру траплянья ў яе сточных вод прамысловых прадпрыемстваў мы бачым з табл. № 6 за 20/X, дзе шчыльная астача на Старажоўцы роўна 220 мгр, а ў кожзавода „Бальшавік" 320 мгр. У пэрыоды доўгіх дажджоў, у часе сьнегараставаньня, асеньніх і вясновых павадак, шчыльная астача значна памяншаецца, як вынік разьвядзеньня мэтэорнымі водамі (гл. табл. № 4).

6. Актыўная рэакцыя вады (PH) хістаецца ў межах 4,97—7,7, нязначна перавышаючы нэўтральную рэакцыю. Нават у летні пэрыод, калі энэргічна працякае асыміляцыя і фотосынтэз вуглякіслароду, PH вады р. Сьвіслачы не падымаецца вышэй 7,9. Гэта тлумачыцца тым, што глебавыя воды, якія, як ужо адзначалася вышэй, у значнай ступені жывяць раку, нясуць вялікую колькасьць вуглякіслаты і тым самым уплываюць на рэакцыю вады у бок павялічэньня яе кіслотнасьці (паніжэньне PH).

Сточныя воды Н. Рынку, Эльводу і лазьняў прыметна ня ўплываюць на актыўную рэакцыю ракі.

Рэзкае павышэньне кіслотнасьці мы наглядаем у месцы спуску ў раку адработаных вод кожзаводу (—4,97), але ніжэй па цячэньню рэакцыя вады хутка выпроставаецца зноў (табл. № 3).

Буфэрнасьць вады р. Сьвіслачы паступова ўзрастае ў меру працяканьня па гораду, што тлумачыцца намнажэньнем у рацэ моно і бікарбонатаў лугавых мэталаў.

## Хэмічныя ўласьцівасьці

1. Р. Сьвіслач у меру забрудненьня ў межах гораду, папаўняецца пераважна продуктамі органічнага распаду, што, галоўным чынам, адбіваецца на рэзкім павялічэньні колькасьці соляў вытворных азоту. З прыкладзенай табл. № 3 ясна відна зьменнасьць $NH_3$ на дасьледваным участку ракі: у Крупках колькасьць $NH_3$ роўна 0,01 мг. Ужо ў пачатку гарадзкой мяжы ля дражджавога заводу, яго колькасьць роўна 0,3 і ля Н. Рынку дасягае свайго максымуму, роўнага 1,8 мг. Ніжэй па цячэньню колькасьць амонійных соляў некалькі зьмяншаецца і знаходзіцца ўмежах 0,8—1,3 мг на літар. Пасьля гораду, Лошыца, Казюры—$NH_3$ трымаецца яшчэ ў значнай колькасьці і толькі, пачынаючы з Н. Двара, $NH_3$ пачынае ўбываць і ля ст. Міхановічы даходзіць да 0,01 мг, значыць да тэй лічбы, якую мы мелі ў Крупках.

Адпаведна дынаміцы $NH_3$ і праходзяць зьмены ў колькасьці нітрытаў і нітратаў.

2. Колькасьць серна-кіслых соляў у сярэднім, як мы бачым па зводнай табл. № 3, хістаецца ў межах 0,58—0,98 мг, прычым максымум іх прыходзіцца на адрэзак ракі каля скатабойні.

Табл. № 4 і 6 даюць нам лічбы $SO_3$ за адзін адрэзак часу з розных месц ракі, пачынаючы з Старажоўкі і канчаючы пунктам ніжэй Аранскага маста.

3. Хлёрыды, пералічаныя на іоны хлёру (Cl′), якія зьяўляюцца надта паказальнымі індыкатарамі забрудненьня таксама, як і папярэднія інгрыдыенты, нарастаюць у межах гораду.

Пры праглядзе нашых табліц, асабліва калі будзем разглядаць зводную табліцу, мы бачым дынаміку руху колькасьці хлёрыдаў.

Пачынаючы з Крупак да Татарскага маста, уключаючы сюды і дражджавы завод, колькасьць хлёрыдаў застаецца сталай, гэта тлумачыцца тым, што сточныя воды дражджавога заводу, які зьяўляецца галоўным вінавайцам забрудненьня ў гэтай частцы ракі, уносяць у раку мінімальную колькасьць хлёрыдаў. Значнае павялічэньне Cl′ маем ля Н. Рынку (32 мг), потым яго колькасьць пачынае памяншацца і даходзіць да 13—15 мг каля Эльводу. Ніжэй, ля скуранага заводу і скатабойні наглядаецца зноў павялічэньне Cl′, колькасьць якога за горадам уніз па цячэньню памяншаецца і ля Міхановіч роўна 13 мг.

Па ўсім іншым табліцам мы таксама бачым, што хлёрыды дасягаюць свайго максымуму каля скатабойні і скурзаводу.

4. Жорсткасьць вады, на якую пры вывучэньні рэжыму р. Сьвіслачы зьвярталася вялікая ўвага ў сувязі з даручэньнем гаспадарчых установ, як аб гэтым паміналася вышэй, зусім нявысокая. У сярэднім яе велічыня па ўсёй даўжыні ракі выражаецца лічбамі 10,8—11 нямецкіх градусаў жорсткасьці, прычым у часы павадак, як гэта мы бачым з табл. № 4, яна не перавышала $6^0$, а ў межанны час яна не падымалася вышэй $12^0$.

Большая частка жорсткасьці прыходзіцца на долю бікарбонатаў ($Ca\,H_2\,(CO_3)_2$).

5. З палутарных вокіслаў большая колькасьць прыходзіцца на долю соляў алюмінія.

6. Колькасьць раствораных соляў жалеза хістаецца ў межах дробных лічбаў міліграма.

7. Акісьляльнасьць ракі, якая залежыць у значнай ступені ад раствораных гумінавых матэрый, адносна нявысокая. Гэта тлумачыцца дрэнаваньнем падморэнных і міжморэнных грунтовых вод, небагатых на арганічныя злучэньні, але яе велічыня ў меру пагоршаньня санітарнага становішча ракі таксама зьмяняецца ў бок павялічэньня. Акісьляльнасьць у Крупках роўна 2,5 мг, а ля дражджовага заводу „Пролетары“—7 мг, ля скатабойні ўжо 8 мг, а па-за межамі гораду, уніз па цячэньню, яна паступова пачынае зьмяншацца, дасягаючы ў Міхановічах 5 мг (гл. зводную табл. № 3); такі-ж самы малюнак даюць і іншыя табліцы.

8. Кіслародны рэжым ракі Сьвіслачы таксама адбівае сабою біо-хэмічны процэс ракі ў дасьледваных намі пунктах.

Па табл. № 4 мы бачым, што колькасьць кісларода паступова зьмяншаецца ў межах гораду: з 11,16 мг на літар ля Старажоўкі яна ля Аранскага маста роўна 8,76. Той-жа самы малюнак адбівае сабой і табл. № 5.

9. Апрача ўсяго гэтага намі спэцыяльна па заданьню ЦЭЦ было праведзена дасьледваньне на прысутнасьць тлушчу ў рацэ каля скатабойні.

Ня гледзячы на тое, што адработаныя воды бойні маюць 0,02% тлушчу, апошні ў рачной вадзе ня быў знойдзены.

Трэба адзначыць, што даны тлушч знаходзіцца ня ў відзе вольнага тлушчу, які лёгка ўсплывае наверх, а разам з плеўкамі, сэрознымі абалонкамі, кавалкамі цягліц і да т. п., якія асядаюць у выглядзе мулаватых адкладаў на дно ракі ў месцы ўпаду стокаў і там гніюць.

## Бактэрыолёгічны склад

Бактэрыолёгічны склад ракі рэзка зьмяняецца ў процэсе траплянья ў раку бруду з розных прадпрыемстваў.

Сапраўды, калі мы прагледзім наяўныя ў нас матар'ялы, адразу кідаецца ў вочы рэзкае павялічэньне колькасьці колёній у горадзе, таксама і b. coli пры пасеве 5 к. см вады знаходзяцца толькі ў адрэзку ракі, пачынаючы з Н. Рынку да Лошыцы.

## Гідрабіолёгічны склад вады р. Сьвіслачы

Па даным працы В. Акімавай (першыя гідробіолёгічныя дасьледы мікрафлёры р. Сьвіслачы за V—IX месяцы 1928 г., выд. БАН) у 16 вывучаемых пунктах ракі, пачынаючы з Крупак і канчаючы Міхановічамі, было знойдзена 101 паказал. організмаў: P.—4α-m—11 β-m—45,0—41 і іншыя 123.

Па вывучаемым пунктам яны разьмяркоўваліся наступным чынам:

*Крупкі.* Тут наглядаецца найбольшая колькасьць оліґасапробаў, агульная лічба якіх 82 экзэмпляры; мэзасапробаў—74, сярод якіх знаходзяцца Scenadesmus quadricauda, Merismopedia glauca ў такой нязначнай колькасьці, што іх можна залічыць да оліґасапробаў. α-мэзасапробаў—14, значная колькасьць якіх знаходзілася амаль што толькі ў бэнтасе.

Ваду ў р. Крупкі можна ахарактарызаваць, як практычна чыстую.

*Дражджавы завод.* Дно і ўсе прадметы на дне пакрыты брудна-шэрым налётам, які ўтвораны полісапробамі: Sphaerotilis natans, Beggiatoa і Zooglea ramigera. Побач з полісапробамі тут пышна разьвіваюцца α-мэзасапробы: Oscillatoria tenuis, Os. limosa. Колькасьць оліґасапробаў значна памяншаецца.

Мікрофлёра ракі ў горадзе паступова траціць сваю оліґасапробнасьць, пераходзячы ў тып β-мэзасапробаў, прадстаўнікамі якога мы маем: Closterium parvulum, Clost. acerosum, Cl. moniliferum, Cladothrix dichotoma і цэлы рад дыятомэй.

*Няміга*—полісапробаў—12, αm 18, βm—35 і оліґаспробаў усяго 4, крывая апошніх дае яскравае зьніжэньне; у той-жа час маецца значнае павышэньне полісапробаў і α-мэзасапробаў.

*Эльвод*—якасьць вады паляпшаецца і гэта, бязумоўна, адбіваецца на мікрафлёры. Наглядаецца значнае павялічэньне оліга-

сапробаў—41 і βm—43. Пераважна Vaucheria sessilis і рад дыятомэй. α-мэзісапробы і полісапробы яшчэ тут ня зьнішчаюцца. У дастатковай колькасьці сустракаюцца Sphaerotilis natans, Tiothrix tenuis, Beggiatoa.

*Скураны завод* (пробы браліся ніжэй стоку заводу). Дно пакрыта Oscillatoria princeps, Os. limosa, Os. tenuis; кавалкі гэтых згуртаваньняў адрываюцца і плывуць па паверхні вады. Добра прадстаўлены полісапробы: Zooglea ramigera, Sphaerotilis natans, Beggiatoa Euglena voridis, якія сустракаюцца ў вялікай колькасьці. Рознастайнасьць вадаростаў зьнішчаецца. З дыятомэй пераважаюць Diatoma vulgare, Sinedra ulna. У значнай колькасьці Closterium acerosum, Stegioclonium tenue, Scenedesmus abliguus. Ня гледзячы на забрудненьне тут сустракаецца каля берагу асоцыяцыя гідрахарытаў—цінаўтваральнікаў: Spirogyr'ы і Cladofora glomerata.

*Лазьня на Ляхаўцы*—маецца сталае забрудненьне: згуртаваньні осцыляторый плылі па паверхні ракі ў значнай колькасьці больш чым у папярэдняй станцыі.

*Скатабойня* пераважна полі і α-мэзасапробы ў колькасьці падобнай да ст. Нямігі. Колькасьць олігасапробаў і β-мэзасапробаў рэзка зьмяншалася. Гэты пункт можна лічыць адным з самых забрудненых месц па ўсёй Сьвіслачы.

*Н. Двор.* Тут яшчэ сустракаюцца плывучыя згуртаваньні осцыляторый. Дно было пакрыта сьлізкай плеўкай зялёнага колеру, у склад якой уваходзілі Oscillatoria princeps, Os. limosa, Os. tenuis. Ясны зялёны колер іх сьведчыць аб тым, што адкладаў серкавага жалеза ў іх абалонках ня было, як у знойдзеных у горадзе, але ўсё-ж яны паказвалі на прысутнасьць значнай колькасьці органічнай матэрыі.

*Міхановічы*—дае адсутнасьць полісапробаў і павялічэньне олігасапробаў. Біолёгічны аналіз дае ўсе прыкметы чыстай вады. Тут сустракаецца вялікая колькасьць дыятомэй вадаростаў і пры гэтым большая рознастайнасьць відаў, чым у іншых станцыях.

З усіх даных фізыка-хэмічных і біолёгічных дасьледваньняў можна зрабіць наступныя вывады:

1. Забрудненьне ракі пачынаецца з месца ўпаданьня сточных вод дражджавога заводу.

2. Найбольш моцнымі крыніцамі забрудненьня ракі трэба лічыць: Нямігу, скурзавод і скатабойню.

3. Палепшаньне якасьці вады ўжо наглядаюцца ў 18 пункце ў Каралішчавічах.

4. Самаачышчэньне ракі можна лічыць скончаным у раёне Зазер'е—Міхановічы.

---

Табліца № 1.

**Параўнаньне к-ці хлёрыдаў у шурфох і рацэ.**

| М-ц і числo | К-ць у шурфох | К-ць у рацэ |
|---|---|---|
| 12/X | 36 мг. | 8,9 мг. |
| 20/X | 28 мг. | 11,9 „ |

Табліца № 2.

**К-ць хлёрыдаў у шурфох да і пасьля ўвядзеньня NaCl.**

| Да ўвядзеньня | Праз 19 дзён пасьля ўвядзеньня |
|---|---|
| 36 мг. | 204 мг. |

Табліца № 3.

**Сярэднія лічбы фізыка-хэмічнага складу р. Сьвіслачы за 4 сэзоны 1928 г.**

| №№ п. ч. | АДКУЛЬ УЗЯТА | Каляров. | Сухая фільт-рацыя | Астача вады | Ph | $NH_3$ | $N_2O_3$ | $N_2O_5$ | $SO_3$ | Жорстк. агульная | Cl′ | Акісьляльнасьць у мгр кісьлароду на літр вады | Бактэр. досьл. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пры 110° | Пасьля прак. | | | | | | | | | Лікколёній у 1 кб. см | B. coli |
| 1 | Крупкі № 1 . . . . | 10° | 217,6 | 132 | 7,5 | 0,01 | няма | 0,15 | 0,58 | 10,8° | 8 | 2,5 | 5600 | У 5 к. см ня знойдз. |
| 2 | Крупкі № 2 . . . . | 10° | — | — | 7,16 | 0,01 | „ | няма | — | 10,82° | 8 | 2,5 | — | — |
| 3 | Людамант . . . . . | 15° | — | — | 7,64 | 0,01 | „ | 0,25 | — | 10,8° | 6 | 2,2 | 2800 | У 5 к. см ня знойдз. |
| 4 | Дражджавы завод „Пролетары" . . . . | 20° | — | — | 6,8 | 0,3 | 0,1 | 0,15 | — | 10,8° | 6 | 7 | — | — |
| 5 | Татарскі мост . . . . | 20° | — | — | 7,1 | 0,2 | 0,01 | 0,15 | — | 10,8° | 7 | 4,2 | 9690 | У 5 к. см ня знойдз. |
| 6 | Н. Рынак, правы бераг . | 25° | — | — | 7,52 | 1,8 | 0,02 | 0,18 | — | 10,92° | 32 | 9,5 | — | У 5 к. см ня знойдз. |
| 7 | Н. Рынак, левы бераг . | 15° | — | — | 7,84 | 0,9 | няма | 0,25 | — | 10,8° | 13 | 7,8 | — | — |
| | Лазьня на Пролет. . . | 20° | — | — | 7,52 | 0,8 | 0,025 | 0,25 | — | 10,8° | 16 | 6,5 | — | — |

*Табліца № 3 (працяг).*

| №№ п. ч. | АДКУЛЬ УЗЯТА | Каляров. | Сухая фільтрацыя | Астача вады | Ph | $NH_3$ | $N_2O_3$ | $N_2O_5$ | $SO_3$ | Жорстк. агульная | Cl′ | Акісьляльнасьць у мгр. кісларату на літр вады | Бактэр. досьл. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пры 110° | Пасьля прак. | | | | | | | | | Лік колёній у 1 кб. см | B. coli |
| 9 | Эльвод, левы бераг . . | 20° | — | — | 7,62 | 0,65 | 0,02 | — | — | 10,64° | 15 | 5,5 | 60640 | У 5 к. см ня зн. |
| 10 | Эльвод, правы бераг . | 20° | 225,6 | 133,4 | 7,62 | 0,85 | 0,02 | — | 1,068 | 10,8° | 13 | 6 | — | — |
| 11 | Лазьня на в. Лекерта . | 20° | — | — | 7,42 | 0,9 | — | 1,35 | — | 10,64° | 23 | 8,2 | — | — |
| 12 | Скураны завод . . . | 20° | — | — | 4,97 | 1,3 | — | 1,35 | 1,78 | 10,64° | 32 | 7,8 | 33288 | У 5 к. см ня зн. |
| 13 | Скатабойня, левы бераг . | 20° | 281,2 | 177,2 | 6,9 | 1,1 | — | 1,65 | — | 10,64° | 30 | 8 | 94,350 | „ |
| 14 | Скатабойня, правы бераг | 15° | — | — | 7,52 | 1,0 | — | — | 1,98 | 10,64° | 35 | 7,5 | — | „ |
| 15 | Лошыца . . . . . | 20° | — | — | 7,42 | 0,8 | 0,35 | — | — | 10,64° | — | — | 5000 | У 5 к. см ня зн. |
| 16 | Казюры . . . . . | 20° | 255,2 | 168,8 | 7,57 | 0,75 | 0,4 | 1,35 | — | 11,2° | 21 | 5,7 | 5276 | „ |
| 17 | Н. Двор . . . . . | 20° | — | — | 7,74 | 0,3 | 0,27 | 1,35 | 1,028 | 10,64° | 14 | 5,3 | — | „ |
| 18 | Каралішчавічы . . . | 20° | 272,8 | 173,6 | 7,54 | 0,18 | 0,2 | — | — | 10,64° | 17 | 6,0 | 1560 | „ |
| 19 | Зазер'е . . . . . | 20° | — | — | 7,74 | 0,09 | няма | — | — | 11,12° | 14 | 5,7 | 580 | „ |
| 20 | Міхановічы . . . . | 20° | — | — | 7,56 | 0,01 | няма | 1,25 | 1,028 | 10,64° | 13 | 5 | 1110 | „ |

**У часе васеньняе паводкі**

Табліца № 4

| Час узяцьця | АДКУЛЬ УЗЯТА | Колер | Празрыст. | Пах | Сухая астача | | Ph | $NH_3$ | $N_2O_3$ | $N_2O_5$ | $SO_3$ | Жорсткасьць | | Fe | Cl′ | Акісьляльнасьць у мг кіслар. | Кіслярод. раствор у мг |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Пры 110° | Пасьля прак. | | | | | | Агульная | Зьнік. | | | | |
| 30 XI-30 г. | Старажоўка . . . . | 40° | 70 | Пабоч. паху няма | 126 | 84 | 6.4 | 0,5 | няма | няма | 4,8 | 5,16° | 4,76° | 0,25 | 4 | 10 | 11,6 |
| „ | Ля Татарскага маста . | 50° | 60 | „ | 146 | 84 | 6,4 | 0,6 | сьляды | „ | — | 5,8° | 2,8° | 0,3 | 6 | 6,5 | 11,6 |
| „ | Ля Эльводу . . . . | 60° | 55 | „ | 158 | 112 | 6,4 | 0,4 | „ | „ | 4,2 | 5,36° | 2,8° | 0,5 | 5 | 6,5 | 10,44 |
| „ | Ля садаводзтва Годаш . | 50° | 35 | „ | 156 | 78 | 6,2 | 0,6 | „ | 0,6 | 6,0 | 5,6° | 1,6° | 0,5 | 10 | 6,3 | 9,48 |
| „ | Ля Аранскага маста. . | 65° | 24 | „ | 166 | 100 | 6,2 | 1 | „ | 0,8 | 8,3 | 6,6° | 5,04° | 0,3 | 13 | 11,8 | 8,76 |
| „ | Ля млына . . . . | 50° | 55 | „ | 170 | 106 | 6,2 | 0,7 | „ | няма | 4,8 | 5,88° | 5,6° | 0,48 | 8 | 11 | 10,08 |

Табліца № 5.

| Адкуль узята | Колер | Празрыст. | Ph | $NH_3$ | $N_2O_3$ | $N_2O_5$ | $SO_3$ | Жорсткасьць агульная | Fe | Cl′ | Акісьляльнасьць ў мгр. кіслароду на літр | Раствор кіслароду ў мг на літр |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Людамант | 15° | 90 | 7,9 | 0,16 | — | — | 10 | 10,8° | 0,4 | 5 | 4,3 | 7,06 |
| Дражджавы завод „Пролетары" | 15° | 90 | 7,8 | 0,2 | 0,01 | — | 6 | 10,8° | — | 6 | 4 | 7,73 |
| Татарскі мост | 20° | 85 | 7,8 | 0,3 | 0,05 | 0,8 | 14 | 10,8° | 0,3 | 6 | 4,1 | 7,81 |
| Н. Рынак, левы бераг | 30° | 60 | 7,2 | 0,5 | 0,3 | 1,0 | 14 | 10,8° | 0,3 | 8 | 5,5 | 7,32 |
| Н. Рынак, правы бераг | 35° | 60 | 7,4 | 0,8 | 0,2 | 1,0 | 14 | 10,3° | — | 10 | 12,4 | 6,23 |
| Лазьня па Пролет. вул. | 30° | 75 | 7,3 | 0,2 | 0,3 | 1,0 | — | 10,8° | — | 9,5 | 5 | 5,9 |
| Эльвод, левы бераг | 30° | 70 | 7,5 | 0,1 | 0,2 | 1,0 | 14 | 9,5° | — | 9 | 5,2 | 6,66 |
| Эльвод, правы бераг | 30° | 70 | 7,5 | 0,4 | 0,3 | 1,0 | 10 | 10,6° | — | 14 | 4,7 | 7,27 |
| Вул. Лекерта | 25° | 60 | 7,4 | 0,7 | 0,8 | 1,0 | 8 | 11,2° | — | 15 | 5 | 6,0 |
| Скурзавод „Бальшавік", левы бераг | 30° | 50 | 5,3 | 0,9 | 0,4 | 2,1 | 15 | 10,6° | 0,4 | 25 | 6,3 | 6,47 |
| " " правы бераг | 30° | 50 | 5,1 | 0,8 | 0,4 | 2,1 | — | 13,4° | — | 48 | 5,8 | 6,76 |
| " " сярэдзіна ракі | 30° | 50 | 5,1 | 0,5 | 1 | 2,0 | 17 | 12,8° | 0,6 | 35 | 4,8 | 6,34 |
| Скатабойня, левы бераг | 30° | 45 | 6,8 | 0,5 | 1 | 1,5 | 14 | 11,2° | 0,3 | 19 | 6 | 4,46 |
| " правы бераг | 30° | 43 | 6,7 | 0,9 | 1 | 1,5 | 25 | 10,8° | 0,3 | 25 | 10,3 | 4,8 |
| " сярэдзіна ракі | 25° | 45 | 6,8 | 0,8 | 1 | 1,4 | 20 | 10,5 | 0,2 | 19 | 8,2 | 4,85 |
| Лошыца | 25° | 65 | 6,9 | 0,7 | 1,0 | 1,0 | 27 | 118° | — | 16 | 5,5 | 6,13 |

*За 20/X-31 г.* *Табліца № 6.*

| АДКУЛЬ УЗЯТА | Колер | Празрыстасьць | Пах | Сухая астача: Пры 110° | Сухая астача: Пасьля прак. | Узваж. матэр.: Пры 105° | Узваж. матэр.: Пасьля прак. | Ph | $NH_3$ | $N_2O_3$ | $N_2O_5$ | $SO_3$ | Жорстк.: Агульн. | Жорстк.: Зьнік. | CaO | MgO | Fe | Cl′ | Акісьляльнасьць у мг кіслар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Старажоўка. . . . . | 20° | 70° | Пабоч. паху няма | 220 | 160 | 10 | 2 | 7,5 | 0,08 | няма | 0,5 | 4 | 10,4° | 7,3° | 76 | 20 | Сьляды | 1,0 | 4,1 |
| Н. Рынак . . . . . | 30° | 50° | „ | 260 | 120 | 15 | 10 | 6,2 | 0,12 | „ | 0,72 | 3,5 | 7,7° | 6,44° | 72 | 3,6 | „ | 2,4 | 4,9 |
| Ля Эльводу. . . . . | 25° | 60° | „ | 260 | 152 | 15 | 10 | 6,5 | 0,13 | „ | 0,912 | — | 7,4° | 6,44° | 62 | 8,6 | „ | 3,2 | 6,1 |
| Ля заводу „Бальшавік“ . | 30° | 50° | „ | 320 | 134 | 30 | 2 | 5,8 | 0,5 | „ | 1,02 | 7,9 | 10,4° | 5,6° | 76 | 20 | „ | 5,9 | 6,3 |
| Ля Аранскага маста . . | 35° | 60° | „ | 308 | 128 | 20 | 5 | 6,8 | 0,17 | 0,2 | няма | 13,7 | 10,86° | 7,28° | 80 | 20,6 | няма | 11,9 | 11,1 |

Табліца № 7

| АДКУЛЬ УЗЯТА | Колер | Празрыстасьць | Пах | Сухая астача: Пры 110° | Сухая астача: Пасьля прак. | Узваж. матэр.: Пры 105° | Узваж. матэр.: Пасьля прак. | $NH_3$ | $N_2O_3$ | $N_2O_5$ | $SO_3$ | Ph | Жорстк.: Агульн. | Жорстк.: Зьнік. | CaO | MgO | $Fe_2O_3+Al_2O_3$ | Cl′ | Акісьляльнасьць у мг кіслар. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рака ля Эльводу . | 30° | 5 | Пабоч. паху няма | 200 | 104 | 190 | 130 | 0,7 | 0,1 | 1,4 | 6,8 | 6,3 | 7,68° | 4,2° | 60 | 12 | 3 | 5,9 | 9,3 | Доўгія дажджы |
| „ | 25° | 60 | „ | 260 | 152 | 15 | 10 | 0,13 | няма | 0,912 | — | 6,5 | 7,4° | 6,44° | 52 | 8,6 | 2 | 3,2 | 6,1 | Суха |

**М. Гельлер**

# Значэньне зьмены выпасаў у барацьбе з гельмінтозамі, у прыватнасьці з аскарыдозам

Гельмінтозы або глісныя хваробы прыносяць, як вядома, значную шкоду і страты нашай жывёлагадоўлі. Пагоршаньне якасьці мяса, бракоўка паасобных органаў, а часта цэлых туш, памяншэньне ўдою і павялічэньне ў значнай ступені адыходу сярод пагалоўя, у прыватнасьці маладняку, часта можа быць аднесена за кошт паражэньня жывёл тымі ці іншымі відамі глістоў.

Ясна, што барацьба з гельмінтозамі павінна быць пастаўлена ва ўсю шырыню. Да апошняга часу галоўны ўпор у барацьбе з гельмінтозамі, як і ў барацьбе з рознымі хваробамі наогул, рабіўся на індывідуальны мэтод лячэньня. Профіляктыцы адводзілася ў гэтых адносінах другараднае месца. Але калі гэтае становішча магчыма было пры дробнай гаспадарцы, дык яно недапушчальна пры буйной соцыялістычнай гаспадарцы з многімі сотнямі і нават тысячамі галоў жывёлы.

Не ігнаруючы і не памяншаючы значэньня індывідуальнага мэтоду лячэньня ў вэтэрынарыі, трэба, аднак-жа, адзначыць, што на першае месца трэба паставіць масавае лячэньне і зьвязаныя з гэтым масавыя профіляктычныя мерапрыемствы.

Профіляктычныя мерапрыемствы па барацьбе, гліснымі інвазіямі павінны пайсьці, з аднаго боку, па лініі ізоляцыі заражоных жывёл ад усяго статку і далейшай дэгельмінтызацыі іх, г. зн. вылячэньня ад глістоў і абясшкоджаньня стойла, у якім жывёла ўтрымлівалася. З другога боку, трэба папярэдзіць масавае заражэньне статку, абясшкоджваючы тыя месцы агульнага яго побыту, якія могуць служыць крыніцай пашырэньня і распаўсюджваньня гельмінтозаў. Гэтыя месцы вызначаюцца эпізоотолёгіяй і біолёгіяй адпаведных гельмінтаў. Вядома, што большасьць з гельмінтаў распаўсюджваецца яечкамі, якія адкладаюцца саміцамі ў прасьвет кішэчніку, адкуль яны выдзяляюцца разам з калам. Трапляючы потым з гноем у глебу, яечкі глістоў пры адпаведных умовах разьвіваюцца, дасягаючы так званай заразнай або інвазійнай стадыі.

Забруджаная вада і харч робяцца, такім чынам, сталай крыніцай інвазіі. У прыватнасьці, адбываецца заражэньне жывёл на мясцох агульнага вадапою і на выганах, асабліва гэта мае месца ў летнія часы выгану пагалоўя.

Калі з профіляктычным абясшкоджаньнем станкоў шляхам дэзынфэкцыі і мэханічнай ачысткі справа зрушылася з мёртвага пункту, дык з абясшкоджаньнем пасьбішчаў справа стаіць значна горш. Па гэтай лініі на сёнешні дзень можна было-б раіць толькі профіляктычную зьмену пасьбішчаў. Зьмена пасьбішчаў па ініцыятыве Маскоўскага Гельмінтолёгічнага інстытуту была з посьпехам праведзена ў жывёлагадоўчым савгасе „Гігант“, дзе пагалоўе буйной рагатай жывёлы падпала пад эпізоотыю лёгачнаглісднай інвазіі так званай дыктыокаўлёзу (Dictiocaulus filaria). Праведзеная ў савгасе профіляктычная зьмена пасьбішчаў дала савгасу магчымасьць з посьпехам ліквідаваць эпізоотыю.

Нядаўна ў Маскве камісіяй пры Ўсесаюзнай сельска-гаспарчай акадэміі імя Леніна распрацавана таксама пытаньне аб зьмене пасьбішчаў у сьвінагадоўчых савгасах і колгасах, па барацьбе з аскарыдозам сьвіней (Ascaris suilla), які прыносіць значныя страты для сьвінога пагалоўя.

Для БССР, дзе сьвінагадоўля займае першае месца ў агульнай жывёлагадоўлі, пытаньне аб зьмене пасьбішчаў набывае асаблівае значэньне.

Профіляктычная зьмена пасьбішчаў зводзіцца ў асноўным да таго, што стада не павінна на тым-жа месцы заставацца больш таго тэрміну, які патрэбен для разьвіцьця яечак адпаведных глістоў і дасягненьня імі інвазійнай стадыі. Зьвярнуцца на старое выкарыстанае месца статак можа толькі тады, калі зьявіцца ўпэўненасьць, што інвазійныя лічынкі ўжо загінулі. Тэрміны дасьпяваньня лічынак не зьяўляюцца для ўсіх гельмінтаў аднолькавымі. З гэтай прычыны трэба, організоўваючы зьмену пасьбішчаў, кожны раз конкрэтна сабе намеціць, супроць якіх гельмінтаў праводзіцца барацьба.

Гаворачы аб зьмене пасьбішчаў пры барацьбе з аскарыдозам трэба ўлічыць галоўнейшыя асаблівасьці біолёгіі аскарыды. Сьвіная аскарыда, як вядома, жыве ў тонкім аддзеле кішэчніку сьвіней, дзе родава-дасьпелыя формы адкладаюць свае яечкі. Разам з фэкаліямі яечкі выносяцца з організму і расьсейваюцца навакол.

Калі толькі што выдзеленае яйцо аскарыды будзе зноў праглынута жывёлай, дык, як паказвае досьлед, заражэньне не адбываецца. Іншы малюнак мы атрымліваем, калі ўвядзем жывёле яечкі аскарыд, якія паляжалі дзён 10—20 на паветры. Жывёлы пры гэтым заражаюцца аскарыдозам з усімі зьвязанымі з гэтым вынікамі. Аказваецца, што яечкі аскарыд падобна да іншых гельмінтаў павінны папярэдне дасягнуць інвазійнай стадыі, каб выклікаць заражэньне.

Тэрмін, патрэбны для дасьпяваньня яечак аскарыд, знаходзіцца ў цеснай сувязі з умовамі надвор‘я і зьвязаны з біолёгіяй разьвіцьця лічынак аскарыд у вольным асяродзьдзі. Справа ў тым, што адложаныя ў прасьвет кішэчніку яечкі аскарыд застаюцца там бяз зьмены і, толькі выходзячы з організму, пачынаюць драбіцца і ў іх разьвіваецца лічынка ў выглядзе маленькага скручанага рабачка. Магчымасьць яечак разьвівацца выключна на волі зьвязана з патрэбаю для гэтага працэсу ў вольным кіслародзе.

Гэта вельмі ясна было паказана на дасьледах проф. М. Завадоўскага над рознымі відамі аскарыд. Пры пазбаўленьні паразытаў кіслароду разьвіцьцё спыняецца. Гэтым тлумачыцца, што ў ніжэйшых пластох гнойных куч, дзе кіслароду, у выніку моцнага брузьненьня, амаль што няма, разьвіцьцё яечак значна памяншаецца і нават зусім спыняецца. Гэты момант заслугоўвае асаблівай увагі, калі мы ўспомнім, што яечкі аскарыд надзвычай рэзыстэнтны на розныя хэмічныя фактары. Яны разьвіваюцца нават у растворы сулемы і формаліны. Устойлівасьць яечак на розныя атруты тлумачачыцца асабліва разьвітай сыстэмай абалонак, якімі яйцо акружана і адсорбцыйнай уласьцівасьцю іх.

Рэзыстэнтнасьцю аскарыдозных яечак тлумачыцца вялікая распаўсюджваньне аскарыдозу сярод сьвіней. Ясна таксама, што пры рэзкай устойлівасьці іх мала дзейнічаючымі аказваюцца розныя дэзынфэкуючыя сродкі, якімі карыстаюцца для абясшкоджваньня сьвінарнікаў. Адзіна сапраўды дзейнічаючым сродкам зьяўляецца высокая тэмпэратура. Ужо пры 60°С яйкі гінуць на працягу кароткага часу, а пры 70°С нават за некалькі сэкунд.

Тэмпэратура наогул мае вялікае значэньне для разьвіцьця лічынак асакрыд. Тэмпэратурныя межы развіцьця іх цягнуцца ад 7° да 38°С.

При ніжэйпамянёнай тэмпэратуры разьвіцьцё лічынак спыняецца і аднаўляецца толькі пры павышэньні тэмпэратуры. Вышэй 38—42° разьвіцьцё адбываецца патолёгічна, а далей яечкі гінуць у выніку скручваньня бялкоў. У межах 7—38° разьвіцьцё ідзе тым інтэнсыўней, чым вышэй тэмпэратура. У сярэднім разьвіцьцё паскараецца ў 1-1½ разы пры падвышэньні тэмпэратуры на 10°. Меншы ўплыў на яечкі аскарыд мае вільгаць. Разьвіцьцё ідзе хутчэй у вільготным асяродзьдзі, але-ж яно ня спыняецца таксама пры падсыханьні яечак; для разьвіцьця лічынкі зьяўляецца дастатковай вільготнасьць паветра.

Пры самых спрыяючых умовах (пры 36°С) разьвіцьцё яечак аскарыд цягнецца ў сярэднім 10 дзён, у той час як пры пагоршаньні ўмоў разьвіцьцё значна зацягваецца. Асноўным кліматычным фактарам, які адбіваецца ў натуральных умовах на тэрміне разьвіцьця яечак, зьяўляецца, галоўным чынам, тэмпэратура. Калі ўзяць тэрміны разьвіцьця яечак у залежнасьці ад гэтага фактару, дык можна скласьці наступную таблічку інвазійных пэрыодаў:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пры | тэмпэратуры | 25°С | праз | 10-12 | дзён |
| „ | „ | 20 „ | „ | 15-16 | „ |
| „ | „ | 15 „ | „ | 25-26 | „ |
| „ | „ | 10 „ | „ | 39-42 | „ |

Такім чынам, прымаючы пад увагу прыведзеныя асаблівасьці біолёгіі аскарыд, трэба арганізаваць і зьмену пасьбішчаў. Тэмпэратуру трэба ўлічваць па-сэзонна, па месяцах, улічваючы сярэднясутачную па кожнаму раёну. Тэрміны побыту статку на пасьбішчных участках раньняй вясною і позьняй восеньню могуць з гэтых меркаваньняў быць больш працяжнымі, чым у летнія месяцы. Гэтыя тэрміны могуць хістацца ў адпаведнасьці з тэрмінамі дасьпяваньня лічынак, ад 10 да 40 дзён і павінны ахапіць

увесь пасьбішчны пэрыод. На выгулы, якімі статак карыстаецца для моцыёну ў зімовыя месяцы, зьмена пасьбішчаў не пашыраецца. Да выгулаў павінны быць прыстасаваны іншыя профіляктычныя мерапрыемствы, аб якіх гутарка будзе яшчэ далей.

У аснову зьмены пасьбішчаў павінны, такім чынам, легчы кліматычныя ўмовы данай мясцовасьці. Гаворачы аб конкрэтных кліматычных умовах БССР, трэба, як вядома, улічыць чатыры зоны: паўночную, пераходную, цэнтральную і паўднёвую.

Па даным Цэнтральнага Беларускага гідро-мэтэоролёгічнага інстытуту сярэдня-месячная тэмпэратура па розным зонам значна хістаецца. Узяўшы ў аснову сярэдня-месячную па кожнай зоне за апошнія 7 год, мы атрымліваем наступны малюнак.

Табліца № 1

| Месяцы / Зоны | Студзень | Л ю т ы | Сакавік | Красавік | М а й | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Сьнежань |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паўночная . | —8,5 | —10,4 | —4,5 | 2,7 | 12,6 | 14,4 | 17,8 | 16,2 | 10,2 | 5 | 0,8 | —7 |
| Пераходная . | —7,7 | —10,8 | —3,5 | 3,6 | 13,6 | 15,1 | 1,8 | 16,7 | 10,9 | 6 | 1,7 | —5,4 |
| Цэнтральная . | —7,5 | —9,9 | —3,4 | 4,5 | 13,8 | 15,9 | 18,7 | 17,3 | 11,4 | 6,4 | 2 | —5,4 |
| Паўднёвая . | —5,3 | —8,0 | —2,0 | 5,2 | 16,2 | 16,7 | 18,9 | 18 | 11,8 | 7,6 | 2,5 | —2,7 |

З гэтай табліцы відаць, што зьмена пасьбішчаў павінна ахапіць, галоўным чынам, пэрыод май—верасень. Толькі для паўднёвай і пераходнай зон павінны быць уключаны ў зьмену пасьбішчаў другая палова красавіка і амаль што ўвесь кастрычнік, паколькі сярэдна-месячная перавышае 7°C.

Выходзячы з гэтых меркаваньняў, можна па БССР намеціць, у залежнасьці ад зоны, ад 6 да 9 пасьбішчных участкаў. Тэрміны выпасу павінны хістацца ад 40 да 15 дзён. У агульных рысах можна прапанаваць наступную табліцу тэрмінаў зьмены пасьбішчаў па розным зонам Беларусі:

Табліца № 2

| № участкаў / Зоны | I | II | III | IV | V | VI | VII | VII | IX |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Паўночная | 40 д. 1/V-10/VI | 25 д. 11/VI-5/VII | 15 д. 6/VII-20/VII | 20 д. 21/VII-10/VIII | 25 д. 11/VIII-5/IX | 40 д. 6/IX-15/X | — — | — — | — — |
| Пераходная | 40 д. 20/IV-31/V | 25 д. 1/VI-25/VI | 15 д. 26/VI-10/VII | 15 д. 11/VII-25/VII | 20 д. 26/VII-15/VIII | 25 д. 16/VIII 10/IX | 40 д. 11/IX-20/X | — — | — — |
| Цэнтральная | 40 д. 15/IV-25/V | 25 д. 26/V-20/VI | 15 д. 21/VI-5/VII | 15 д. 6/VII-20/VII | 15 д. 21/VII-5/VIII | 20 д. 6/VIII 25/VIII | 25 д. 26/VIII 20/IX | 40 д. 21/IX-30/X | — — |
| Паўднёвая | 30 д. 15/IV-15/V | 15 д. 16/V 31/V | 15 д. 1/VI-15/VI | 15 д. 16/VI-30/VI | 15 д. 1/VII 15/VII | 15 д. 16VII-31/VII | 15 д. 1/VIII-15/VIII | 25 л. 16/VII-10/IX | 40 д. 11/IX 30/X- |

З гэтай табліцы відаць, што ў паўночнай зоне, дзе сярэднямесячная за красавік раўняецца 2,7°, можна зьмену пасьбішчаў пачаць з першага мая і паводле гэтых-жа меркаваньняў закончыць у сярэдзіне кастрычніка. Першая палова кастрычніка яшчэ ўключаецца ў зьмену пасьбішчаў, паколькі сярэдня-месячная раўняецца 5°, якія ідуць, галоўным чынам, за кошт зьніжэньня тэмпэратуры ў другой палове кастрычніка. Інакш стаіць справа з рэштаю зон, дзе тэрміны прыходзіцца пашырыць таксама на красавік і на ўвесь кастрычнік. Адначасна прыходзіцца ад поўначы на поўдзень скарачаць тэрміны летняга побыту жывёлы на кожным участку і адпаведным чынам павялічваць колькасьць участкаў. У прыватнасьці выяўляецца гэты момант у паўднёвай зоне, дзе колькасьць участкаў прыходзіцца даводзіць да 9. Організацыйна зьмену пасьбішчаў трэба праводзіць наступным чынам. Пасьля зімовага стойлавага ўтрыманьня жывёла выганяецца на першы пасьбішчны ўчастак, на якім яна ўтрымліваецца пэўны тэрмін, скажам, для паўночнай зоны—40 дзён, г. зн. ад 1 мая да 10 чэрвеня. Тэрыторыя данага ўчастку павінна быць так разьлічана, каб статку хапіла травы на ўвесь адрэзак часу і каб у асноўным увесь корм быў спашаны жывёлай. Пасьля выкарыстаньня першага ўчастку статак пераганяецца на наступны ўчастак, на якім ён утрымліваецца ўжо толькі 25 дзён: ад 11 чэрвеня па 5 ліпня. Ясна, што выпасны ўчастак павінен быць адпаведным чынам меншы, але-ж дастатковы для пракормкі пагалоўя на адзначаны пэрыод часу. На падставе гэтага-ж меркаваньня павінен быць яшчэ меншай тэрыторыі трэці выпасны ўчастак, дзе пагалоўе пакідаецца толькі на 15 дзён. Што датычыцца пятага і шостага ўчастку, дык яны павінны адпаведным чынам зноў павялічвацца ў сваёй плошчы. На выкарыстаны ўчастак статак паўторна пускаецца толькі праз каляндарны год пасьля побыту яго на гэтым месцы. Пускаць іх на выкарыстаныя ўчасткі на працягу таго-ж лета нельга, паколькі лічынкі паразытаў доўга захоўваюць сваю жыцьцяздольнасьць.

Уся пасьбішчная тэрыторыя павінна на зіму ўзворвацца і пайсьці пад зернавыя культуры і толькі, як ужо адзначалася, праз каляндарны год можа паўторна быць выкарыстана пад пашу. Справа ў тым, што нізкая тэмпэратура ня так энэргічна дзейнічае на лічынак аскарыд, убіваючы іх. Толькі паўторнае чаргаваньне зімы і лета, значныя тэмпэратурныя хістаньні дня і ночы на працягу 1-2 год могуць у пэўнай меры гарантаваць стэрылізацыю глебы.

Пасьбішчныя ўчасткі павінны па-магчымасьці быць разьмешчаны па радыусам ад месца выгану статку, сьвінарніка або стойбішча. Гэтыя мерапрыемствы канечна патрэбны для таго, каб даць статку магчымасьць трапляць на новы выпасны ўчастак, мінуючы стары. Бо праходзячы праз заражоныя ўчасткі сьвіньні маюць магчымасьць рыючыся па дарозе заразіцца адпаведнай інвазіяй і ўся сутнасьць зьмены пасьбішчаў траціць сваю вартасьць З гэтай-жа прычыны выганка пагалоўя на пасьбішча павінна адбывацца компактным стадам і праводзіцца хуткім тэмпам, каб ня даць магчымасьці сьвіньням рыць зямлю па дарозе.

Зразумела таксама, што зьмена пасьбішчаў ня дасьць патрэбнага эфэкту, калі яна ня будзе зьвязана з патрэбнай профіляктыкай адносна вадапою, стойбішчаў і сьвінарнікаў. З вадапоем справа проста вырашаецца пры наяўнасьці добра абсталяваных калодзежаў, або наладжанага падвозу вады на конях. У тых-жа гаспадарках, дзе карыстаюцца натуральнымі вадапоямі, трэба мець на ўвазе, што толькі камяністы або пяшчаны бераг можа даць гарантыю некаторай чыстаты подступу. Калі бераг балоцісты, дык вадапой жывёл трэба організоўваць выключна з карыт або, у найгоршым выпадку, наладзіць драўляны дашчаты подступ да вады, які трэба заўсёды трымаць у чыстаце.

Што датычыцца стойбішчаў, або як іначай іх завуць „лягераў", куды сьвіньні выганяюцца пры аддаленасьці пасьбішчаў на летні час, дык тут трэба прыводзіць наступныя профіляктычныя мерапрыемствы. Каб папярэдзіць забалочваньне тэрыторыі стойбішчаў, трэба іх разьбіваць на высокай мясцовасьці. Тэрыторыя павінна быць абворана плугам. Пры наяўнасьці ў здавальняючай колькасьці пасьбішчных участкаў трэба дабівацца пераносных стойбішчаў, якія павінны перакідацца ў адпаведнасьці са зьменай пасьбішчаў. Пры нястачы пасьбішчных участкаў, якая мае месца ў большасьці гаспадарак БССР, прыходзіцца задаволіцца іншымі мерапрыемствамі. Тут прыходзіцца задаволіцца пэрыодычнай дэзынфэкцыяй хлёрнай вапнай усіх загонаў. Тэрміны дэзынфэкцыі павінны супадаць у асноўным з тэрмінамі зьмены пасьбішчаў. Трэба мець на ўвазе, што гной з загонаў павінен штодзенна вычышчацца і звозіцца ў агульную кучу на спэцыяльна адгароджаныя ад жывёл пляцоўкі, адтуль гной павінен звозіцца на поле. Зусім недапушчальным трэба лічыць мэтод некаторых савгасаў, як, напрыклад, савгасу „Бацэвічы" Клічаўскага раёну, дзе гной са стойбішчаў ня звозіцца на працягу ўсяго лета. Побач з дэзынфэкцыяй стойбішчаў трэба ўлічваць наяўнасьць небясьпекі заражэньня жывёл гельмінтозамі ад людзей. Трэба каля стойбішчаў пабудаваць часовыя прыбіральні для абслугоўваючага пэрсоналу, інакш вынікае небясьпека забруджваньня пасьбішчаў людзкімі фэкаліямі, як гэта мае месца ў тым-жа савгасе „Бацэвічы" і ставіць статак у небясьпеку заражэньня радам гельмінтозаў, у прыватнасьці фінозам.

Са зьменай пасьбішчаў зьвязана пытаньне профіляктыкі саміх сьвінарнікаў і выгулаў. На выгулы можна пашырыць тыя-ж мерапрыемствы, што і на стойбішчы. Розьніца тут толькі тая, што пэрыодычную дэзынфэкцыю, хаця-б той-жа хлёрнай вапнай, трэба працягнуць таксама і на зімовы час. Што датычыцца сьвінарнікаў, дык тут трэба штодзенна рабіць старанную ачыстку станкоў ад гною і не радзей як адзін раз у дзьве дэкады старанную мэханічную ачыстку падлогі і ніжніх частак сьцен станкоў, а па магчымасьці і дэзынфэкцыю. У цёплы час году мэтазгодней карыстацца гарачай вадою, для чаго падлога і ніжнія часткі сьцен абдаюцца варам з лейкі на блізкай адлегласьці. У халодныя часы гэтым мэтодам карыстацца нельга, паколькі ён выклікае занадта вялікую вільготнасьць сьвінарніку. Гной, сабраны з станкоў, нельга выкідваць на адкрытыя кучы ля

сьвінарнікаў, куды жывёлы маюць вольны доступ. Лепш за ўсё ля кожнага сьвінарніку адгарадзіць спэцыяльны дворык, куды непасрэдна зьбіраць гной са станкоў. Адтуль не радзей 1 разу ў 2-3 дні звозіць яго на гнояхавальнікі, калі такія маюцца ў гаспадарцы. Пры адсутнасьці гэткіх гной трэба непасрэдна звозіць на поле. Звазіць гной ад сьвінарнікаў нельга на тыя палі, якія вясною прызначаны пад пасьбішчы, каб не заразіць гэтыя плошчы яечкамі глістоў. Лепш за ўсё пакідаць гной на палёх, якія ідуць пад збожжавыя культуры.

Вялікай перашкодай для правядзеньня правільнай профіляктыкі зьяўляюцца так званыя выгульныя дворыкі ля сьвінарнікаў, паколькі іх цяжка тэхнічна дэзынфэкаваць. Гэтыя дворыкі, між іншым, зьяўляюцца таксама перашкодай да ацяпленьня сьвінарнікаў у зьвязку з наяўнасьцю вялікай колькасьці дзьверак у капітальных сьценах. Сапраўды мэтазгодней ад гэтых дворыкаў наогул адмовіцца; для патрэбнага моцыёну можна сьвіней выпускаць на так званыя агульныя выгулы.

Правядзеньне зьмены пасьбішчаў спатыкае на практыцы рад цяжкасьцяў. Галоўнай перашкодай тут зьяўляецца, па словах гаспадарнікаў, павялічэньне пасьбішчнай плошчы і нерэнтабельнага выкарыстоўваньня яе. Гэты мотыў здаецца важным толькі з першага погляду, у сапраўднасьці-ж ён значна павялічаны. Справа ў тым, што, пушчаючы статак на большую пасьбішчную плошчу бяз пэўнага пляну, фактычна робяць гэтую плошчу няпрыгоднай да пакосу, паколькі сьвіньні значна раскопваюць яе. Такія выпасы не даюць таксама магчымасьці поўна выкарыстоўваць атаву на гэтай плошчы. Інакш стаіць справа пры зьмене пасьбішчаў. Трымаючы жывёлу на параўнаўча невялікім пасьбішчным участку, гаспадарка мае магчымасьць рэшту ўчасткаў скашваць і скарыстоўваць скошаную траву для падкормкі жывёлы. Выкарыстаны таксама могуць быць пасьбішчныя ўчасткі пасьля таго, як на іх пабыло стада. Такія ўчасткі могуць быць тут-жа ўзараны і засеяны або позьнімі кармовымі культурамі або-ж культурамі пад сілос. У суме сваёй пасьбішчная плошча павінна ў асноўным раўняцца плошчы, якая адводзіцца пад пашу пры нормальных умовах. Другі мотыў, які высоўваецца гаспадарнікамі супроць зьмены пасьбішчаў,—гэта цяжкасьць выкарыстоўваньня мэханізаванай сілы пры драбленьні плошчы. І гэты мотыў не асабліва абгрунтаваны. Справа ў тым, што асеньняе і раньня-вясновае ўзворваньне і засеў утвараецца на ўсім пасьбішчным масыве, што датычыцца паўторнага засеву ўжо выкарыстаных участкаў, дык гэта ўжо зло меншае і на агульным правядзеньні мэханізацыі гаспадаркі не адаб'ецца.

Мотывам супроць зьмены пасьбішчаў высоўваецца таксама момант немагчымасьці пры гэтай сыстэме карыстацца многалетнімі травамі. Гэты мотыў для сьвінаводных гаспадарак мала істотны, паколькі многалетнія травы (канюшына) пры выпасе на іх сьвіней трацяць сваю вартасьць з прычыны моцнага раскопваньня сьвіньнямі глебы.

Такім чынам, мотывы, якія высоўваюцца супроць зьмены пасьбішчаў, значна пераўвялічаны. Прапрацоўваючы ў часе III Усебе-

ларускай Гельмінтолёгічнай экспэдыцыі, у савгасе „Бацэвічы“ пытаньне аб магчымасьці правядзеньня зьмены пасьбішчаў на памянёным масыве, мы пераканаліся, што пры некаторым напружаньні сіл зьмена пасьбішчаў поўнасьцю магчыма.

Але правядзеньне патрэбных мерапрыемстваў вымагае звычайна поўнай узгодненасьці ў рабоце ўсяго тэхнічнага пэрсоналу гаспадаркі як вэтэрынарнага (доктара, заатэхніка), так і аграньома.

На жаль, мы гэтай узгодненасьці ў большасьці гаспадарак на сёнешні дзень ня маем. Кожны з памянёных спэцыялістаў працуе часта выходзячы са сваіх вузкіх цэхавых інтарэсаў, ня ўлічваючы інтарэсаў усёй гаспадаркі ўцэлым. Барацьба з гельмінтозамі ў сьвінаводных гаспадарках павінна прыцягнуць асаблівую ўвагу ўсіх работнікаў. Шкода, якая наносіцца аскарыдозам пагалоўю, занадта вялікая, каб абыйсьці яе. Яна закранае пытаньне як вэтэрынарыі, так і жывёлагадоўлі. На сёнешні дзень барацьба з гельмінтозамі амаль што поўнасьцю ляжыць на плячох вэтэрынарнага доктара і зводзіцца ў лепшым выпадку выключна да лячэбных мерапрыемстваў, ня ўлічваючы профіляктыкі. Радзей да гэтай барацьбы з гельмінтозамі прыцягваюцца таксама жывёлаводы. Пералом павінен быў атрымацца пасьля Ўсесаюзнай нарады жывёлаводаў пры Сельска-гаспадарчай акадэміі імя Леніна ў Маскве. Гэтая нарада, якая мела месца вясною гг., вылучыла пад старшынством профэсара М. Завадоўскага камісію па выпрацоўцы мер барацьбы з аскарыдозам. У выніку гэтай работы і была распрацавана адпаведная інктрукцыя, якая лягла ў аснову гэтага артыкулу.

Зьмена пасьбішчаў, як мы бачым, ставіць ва ўсю шырыню пытаньне аб удзеле ў гэтай справе таксама аграномаў. Толькі пры поўнай узгодненасьці паміж усімі пералічанымі трыма спэцыяльнасьцямі, зьмену пасьбішчаў можна будзе з посьпехам ажыцьцявіць і гэта дасьць гаспадарцы магчымасьць пазбавіцца ад аднаго з сур'ёзьнейшых зол—ад аскарыдозу. Гэта дасьць магчымасьць значна паменшыць адыход маладняку сьвінога пагалоўя і павялічыць магчымасьці адкорму яго.

---

Вуч. спэц. М. Ганчарык

# Агратэхнічныя правілы па культуры соі ў БССР

*(Узгоднена з зернавым сэктарам НКЗ БССР)*

Соя—зусім новая культура для БССР. У масавых пасевах савгасаў і колгасаў яна да апошніх гадоў не сустракалася. У 1931 годзе былі спробы гаспадарчых пасеваў соі ў прыгараднай гаспадарцы пад Менскам, а ў 1932 г. гаспадарчыя пасевы былі праведзены ў некаторых прыгарадных гаспадарках Менску, Полацку, Віцебску, Воршы, Магілеву, Бабруйску, і інш., але дзякуючы таму, што пасеў быў утвораны мала ўзыхожым насеньнем (50—60%) нормамі як і пры нормальнай узыхожасьці, на засьмечаных глебах суцэльным пасевам, без дастатковага догляду за пасевамі, вынікі ў большасьці атрыманы нездавальняючыя. Апрача таго, культура соі вывучаецца на працягу 3-х год дасьледчымі ўстановамі БССР. Даныя дасьледчых устаноў і гаспадарчых пасеваў паказалі, што соя ў БССР можа расьці і высьпяваць зусім здавальняюча, даючы ўраджай зялёнай масы і зерня ня меншы чым у асноўных раёнах соясеяньня.

Гэта ўсё гаворыць аб тым, што пасевы соі трэба безадкладна шырака ўкараняць у практыку нашай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі ў савгасы і колгасы, а таксама і ў бядняцка-серадняцкія гаспадаркі аднаасобнікаў.

Соя ў БССР павінна ў першую чаргу разводзіцца як кармовая культура для жывёлагадоўлі. Утрымліваючы ў сваім складзе высокі % бялку, пасевы соі на корм павінны значна папоўніць кармовую спажыўнасьць нашых кармоў, бо ў нашых кармох больш за ўсё адчуваецца недахоп бялкоў, без дастатковай колькасьці якіх нельга высака ўзьняць продукцыйнасьць жывёлагадоўлі.

На корм соя павінна высявацца як сілосная культура, на выпас (асабліва для сьвіней) і на зерне.

У бліжэйшыя гады трэба ў першую чаргу пашыраць пасевы соі на сілос, з пакіданьнем часткі пасеваў соі на насеньне, каб забясьпечыць пасевы на будучы год насеньнем у самой гаспадарцы.

Апрача кармовага значэньня, соя мае вялікае значэньне яшчэ як тэхнічная і спажывецкая культура. Зерне соі зьяўляецца сыравінай для пераапрацоўваючай прамысловасьці Наркамснабу. З яго здабываецца алей, які ідзе як непасрэдна ў харч, так і на выраб маргарыну, мыла, лякафарбаў, даючы пры гэтым вельмі каштоўную для корму жывёлы макуху. Апрача таго, соевыя бабы

і мука ідуць на прыгатаваньне малака, якое скарыстоўваецца ў кондытэрскай вытворчасьці (кава, цукеркі, шоколяды і інш.) і непасрэдна ў харч, для атрыманьня творагу кефіру, простаквашы, а таксама розных кондытэрскіх вырабаў, пячэньня, галетаў і інш. Таксама з соевых бабоў можна здабываць расьлінны казэін, які шырака ўжываецца ў прамысловасьці і яшчэ—леыцін.

З другога боку, соевыя бабы могуць скарыстоўвацца, як харч непасрэдна самім несельніцтвам. Мука соі можа ісьці ў дамешку да іншай мукі, павышаючы яе спажыўнасьць. З соі можна рыхтаваць розныя стравы, часткова замяняючы імі нават мяса.

Дзеля таго ў БССР, дзе соя можа расьці зусім здавальняюча, трэба шырака разгарнуць культуру яе ў першую чаргу як кармовай культуры, а потым і як спажывецкай і сыравіны для перапрацоўваючай прамысловасьці.

Культура соі на сілос, выпас можа праводзіцца па ўсёй БССР. Атрыманьне насеньня кармовых сартоў соі павінна праводзіцца ў сярэдняй і паўднёвай зонах БССР.

Пасеў соі на зерне (спажывецкай) павінен утварацца толькі ў сярэдняй і паўнёвай зонах БССР.

## Сарты соі для БССР

Ня ўсякія сарты соі могуць разводзіцца ў БССР. Сартоў соі вельмі многа (да 2.000) і многія з іх ня могуць пасьпяваць у БССР. Мы павінны сеяць такія сарты, якія нормальна ў нас высьпяваюць і якія могуць забясьпечыць далейшыя пасевы яе насеньнем, атрыманым у самой гаспадарцы.

На аснове праведзенага вывучэньня соі Біолёгічным інстытутам АН лепшымі сартамі для БССР зьяўляюцца:

### I. Кармовыя

1. Чорная Амурская
2. Амурская 051
3. Бурая амурская

### II. Спажывецкія

1. Амурская 02
2. Крушуля 9/3
3. Амурская 01.

Кармовыя сорты, як Чорная амурская, Амурская 051, Бурая амурская, даюць добрую зялёную масу (якая на ўгноеных глебах і пры добрым доглядзе можа дасягнуць 20-25 т з га) і лісьце яе ня губляецца і пасьля высьпяваньня.

Такім чынам, пакінутыя на насеньне гэтыя сарты соі і пасьля абмалоту дадуць салому і ўмецьце высокай спажыўнай якасьці.

Спажывецкія сарты, як Амурскія 02, 01, Крушуля 9/3 к часу высьпяваньня губляюць усё сваё лісьце, дзеля таго іх салома хаця і зьяўляецца спажыўнай, але будзе ўступаць саломе кармовых сартоў. Рост гэтых сартоў меншы, чым кармовых і зялёнай масы яны даюць менш.

## II. Падрыхтоўка глебы

1. Пасеў соі можна рабіць на ўсякіх глебах БССР, за выключэньнем забалочаных і з блізкім стаяньнем грунтовых вод, а таксама моцна засораных пырнікам і іншым пустазельлем.

2. Адвод поля пад сою можна рэкомэндаваць пасьля прапашных (бульбы, караньплодаў і др.), а таксама пасьля азімых збожжавых, але чыстых ад пустазельля і з абавязковым ворывам на зяб.

3. Вясной, як толькі можна выехаць у поле, праводзіцца баранаваньне зябі, пасьля чаго праз некалькі дзён поле пераворваецца на глыбіню да 15 см і толькі на лёгкіх добра апрацаваных глебах дыскуецца, або пружынуецца ці апрацоўваецца лапчатымі культыватарамі. Праз 2-3 дні пасьля гэтага зноў барануецца і ўтвараецца пасеў.

## III. Угнаеньне пад сою

Соя зьяўляецца даволі адзыўчывай культурай на ўгнаеньні як і да догляду за пасевамі (полка, рыхленьне паміж радкоў, баранаваньне), пры належным правядзеньні якога ўраджай соі значна ўзрастае.

1. Добрым угнаеньнем пад сою, апрача гною, зьяўляюцца мінэральныя ўгнаеньні (фосфарна-кіслае і калійнае).

2. Пры ўжываньні мінэральных угнаеньняў ня трэба дапускаць на нашых кіслых падзолавых глебах моцна фізыолёгічна-кіслых угнаеньняў, як сернакіслы амоній пры ўнясеньні з супэрфосфатам і інш. Пры ўнясеньні аднаго кіслага ўгнаеньня трэба ўносіць іншыя абавязкова нэўтральныя або шчолачныя. Напр., пры ўгнаеньні серна-кіслым амоніем—супэрфосфат замяняць томасшлякам і г. д.

Лепшымі мінэральнымі ўгнаеньнямі пад сою трэба лічыць нэўтральныя або слаба-шчолачныя.

На цёмна-каляровых глебах (карбонатных), якія плямамі раскіданы па лёсавым плято, можна ўжываць і фізыолёгічна-кіслыя ўгнаеньні.

3. На пескавых глебах, дзе ёсьць недахоп калію, пры ўнясеньні азоцістых і фосфарна-кіслых угнаеньняў трэба ўжываць і калійнае ўгнаеньне, у праціўным выпадку з прычыны аднабаковага харчаваньня соя разьвіваецца ненормальна.

4. Вапнаваньне пад сою спрыяе падвышэньню ўраджайнасьці, але норма вапны павінна ўносіцца, выходзячы з разьліку ½ нормы па гідралітычнай кіслотнасьці.

Падвышэньне нормы вапны можа ўплываць адмоўна.

Вапнаваньне асабліва спрыяе разьвіцьцю соевых бактэрый.

5. Добрым угнаеньнем пад сою зьяўляецца добра перапрэўшы хлеўны гной. Пры ўгнаеньні гноем, як і дастатковай колькасьцю азоцістых угнаеньняў, соя дае больш кволую вэгетацыйную масу.

## IV. Падрыхтоўка насеньня і сяўба

1. Насеньне соі павінна быць абавязкова заражана соевымі бактэрыямі. Для заражэньня бярэцца тарфіт, які можна атрымаць ад Інстытуту мікробіолёгіі накладной платай (Москва, Конюшковская, 31). ½ кг тарфіту даволі для заражэньня насеньня на 1 га пасеву.

Перад сяўбой насеньня змочваюць у цэбры ці іншай пасудзіне вадой, каб зрабіць толькі вільготным насеньне зьверху, пасьля таго яго абсыпаюць крыху тарфітам і перамешваюць, каб частачкі тарфіту прысталі да вільготнага насеньня. Пасьля гэтага насеньне гатова для сяўбы.

Заражэньне тарфітам патрэбна праводзіць у ценю (не на сонцы) і заражонае насеньне трэба высяваць у той-жа дзень, у крайнім выпадку не пазьней наступнага дня.

2. Сяўбу соі трэба рабіць у тэрміны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| для паўднёвай зоны БССР не пазьней | | 25 красав. | 5 мая |
| для сярэдняй " " | " | 1 мая | 10 " |
| для паўночнай " " | " | 5 мая | 10 " |

3. Пасеў соі павінен быць абавязкова шырокарадны і толькі на бязумоўна чыстых ад пустазельля глебах, у выключных выпадках, пры пасеве на сілос альбо выпас, можна дапускаць пасеў суцэльны.

Шырыня міжрадзьдзяў пры шырокарадным пасеве ўстанаўляецца ў 50 см. Сяўба праводзіцца радковымі сявалкамі (бурачнымі, кукурузнымі, збожжавымі) з выключэньнем лішніх сашнікоў. Пры сяўбе збожжавымі сявалкамі ўстанаўляецца верхні высеў, каб унікнуць драбленьня зерня.

Пры суцэльным пасеве сяўба робіцца звычайнымі радковымі сявалкамі.

4. Засяваецца соя на глыбіню да 3 см на цяжкіх і западзістых глебах і да 5 см на лёгкіх пескавых і супескавых глебах.

Глыбокай „заделки“ насеньня дапускаць нельга.

5. Пры шыракарадным пасеве соі на 1 га высяецца 48—70 кг пры 100% гаспадарчай годнасьці і абсолютнай вазе (1.000 зернят) у 180 грам.

Пры суцэльным пасеве на 1 га высяецца 96—120 кг насеньня паказанай якасьці. Пры паніжэньні гаспадарчай годнасьці нормы высеву павінны быць адпаведна павялічаны, як і пры павышэньні абсолютнай вагі. Пры паніжэньні абсолютнай вагі нормы высеву адпаведна памяншаюцца.

6. Перад пасевам для ўстанаўленьня норм высеву абавязкова патрэбна праверыць узыхожасьць насеньня соі.

## V. Догляд за пасевамі

Пры суцэльным пасеве:

1. Калі да зьяўленьня руні на полі зьявілася скарынка, трэба абавязкова правесьці баранаваньне лёгкай бараной у адзін-два сьляды. У выпадку адсутнасьці скарынкі, першае баранаваньне праводзіцца зараз-жа пасьля зьяўленьня руні ў адзін або два сьляды.

2. Другое баранаваньне праводзіцца пры вышыні соі ў 8—10 см (не пазьней зьяўленьня трэцяга тройчатага ліста).

3. Для баранаваньня лепш за ўсё ўжываць тройчатыя бароны зіг-заг і баранаваньне праводзіць поперак радкоў.

4. Полку праводзіць трэба ў тым выпадку, калі гэта пагражае зарастаньнем пасеваў.

Пры шыракарадным пасеве:

1. Першае баранаваньне пасеваў, як і пры суцэльным пасеве, праводзіцца яшчэ да зьяўленьня руні, у выпадку ўтварэньня скарынкі. Калі скарынкі няма, першае баранаваньне праводзіцца ў стадыі ўтварэньня першага тройчатага ліста.

2. Пры зьяўленьні пустазельля і не пазьней зьяўленьня трэцяга праўдзівага ліста праводзіцца міжрадная культывацыя соі. Другая культывацыя праводзіцца ў залежнасьці ад засьмечанасьці пустазельлем, але не пазьней пачатку красаваньня соі.

3. У выпадку вялікай засьмечанасьці поля пасьля першай культывацыі праводзіцца паўторнае баранаваньне тройчатымі баронамі зіг-заг у адзін сьлед.

4. Пасьля першай культывацыі, калі маецца буйное пустазельле ў радкох, трэба правесьці матыжаньне або полку радкоў.

5. Баранаваньне ва ўсіх выпадках—пры коннай цязе ўтвараецца поперак радкоў, пры трактарнай—уздоўж радкоў.

## VI. Уборка соі на сілос і сена

1. Убіраць сою на сілос трэба ў стадыі поўнага наліву бабоў.

2. Сілосаваньне соі трэба праводзіць у сумесі з кукурузай, сланечнікам і іншымі збожжавымі або гароднымі культурамі. На адну частку соі трэба дадаць 3-4 часткі іншых расьлін. Ня можна праводзіць сілосаваньня аднэй соі, або ў сумясі з іншымі бабовымі, як канюшына, віка, гарох, сэрадэля, бабы, пялюшка і г. д.

3. Уборку на сілос можна рабіць сенакасілкамі і жаткамі (самаскідкамі і лобагрэйкамі).

## VII. Уборка соі на зерне

1. Час уборкі соі на зерне ў залежнасьці ад сорту вызначаецца ападаньнем лісьця, пабурэньнем струкоў і наяўнасьцю характэрнага пазваньваньня бабоў пры ўстрасаньні.

2. Пасьля скошваньня соі (касілкай, жаткай) яе пакідаюць нейкі час у пакосах, валкох або невялікіх кідках у полі для прасушкі.

У выпадку дрэннага надвор'я дасушку соі можна рабіць у азяродах.

3. Пасьля сушкі сою лепш за ўсё зараз-жа абмалаціць. У выпадку немагчымасьці правесьці абмалот зараз-жа пасьля ўборкі трэба складаць сою ў вузкія скірды і накрываць зьверху саломай, перакладаючы ў скірдзе сухой саломай праз кожны мэтравы пласт соі.

4. Малацьба соі можа ўтварацца ўсімі зярновымі малатарнямі як-та МК № 1100, МО 900, АДМ і іншымі, для чаго малатарня папярэдне павінна быць ўстаноўлена для абмалоту соі.

5. Устаноўка малатарні для абмалоту соі заключаецца ў наступным:

a) на барабане завадзкія бічы замяніць на драўляныя з цьвёрдай пароды дрэва таўшчынёю 40×50 мм;

b) пры штыфтаваным барабане ў дэцы штыфты павінны быць зьняты. Літую з штыфтамі дэку замяніць гладкай мэталёвай, або драўлянай, абавязкова з дрэва цьвёрдай пароды;

c) адлегласьць барабана ад дэкі ў падачы ўстанаўляецца ў 20—30 мм, у выхада 15—25 мм;

d) лік абаротаў барабану павінен быць: у малатарні МК № 1100—525, у МО № 900—525, тыпу „ЛАПЦ“—400, тыпу „Клейтон“—410, тыпу „Рустон“—450, тыпу „Гардэй“—435, тыпу „Маршаль“—470 абаротаў;

e) у малатарань з пальчатым саламатрасам зьнімаюць папярочныя плянкі разам з пальцамі і ўздоўж саламатрасу паверх рашоткі набіваюць з пропускамі ў 15 мм драўляныя плянкі таўшчынёю 15—20 мм.

У клявішных саламтрасах на канцох саламатрасных скрынак навешваюцца драўляныя плянкі таўшчынёю ў 20—30 мм;

f) падбіраюцца адпаведныя рашоты;

h) шасталка, як правіла, з работы выключаецца і ўключаецца ў работу толькі пры абмолаце сартоў соі з плоскімі і шчуплымі зернямі;

i) пры малацьбе соі коннымі малатарнямі трэба ўжыць усе прыстасаваньні адносна барабану, дэкі і ўстаноўкі апошняй.

## VIII. Сушка і хаваньне насеньня

Зерні соі характарызуюцца значнай гігроскопічнасьцю як і насеньне лубіну і некаторых іншых бабовых і пры павышанай вільготнасьці вельмі скора псуюцца, пакрываюцца плесьняю і хутка губляюць узыхожасьць.

Затым, пасьля абмалоту соі, зерне яе трэба абавязкова прасушыць, давёўшы сушкай % вільгаці ў зернях да 13 і ні ў якім разе ня вышэй 15. Для гэтага:

1. Пасьля малацьбы зерне соі трэба абавязкова прасушыць. Калі стаіць сухое і сонечнае надвор‘е, сою рассыпаюць пад адкрытым небам на брэзэнтах тонкім пластам (ля 10 см) для прасушкі на паветры, час ад часу перамешваюць, зьбіраючы нанач у кучы і пакрываюць іх брэзэнтам, каб захаваць ад начной расы і вільгаці.

2. Дасыханьню соі (памяншэньню колькасьці вады) значна дапамагае пералапачваньне соі ў зернасховах і арфаваньне яе ў халодныя і сухія дні.

3. Ссыпаць сою ў засекі трэба нятоўстым пластом, прычым у залежнасьці ад прызначэньня зерня (таварнае або на насеньне) і вільготнасьці насеньня таўшчыня пласту дапускаецца наступная:

| Пры вільготнасьці насеньня | Таварнае зерне | Насеннае зерне |
|---|---|---|
| ад 12 да 14% | да 1,5 мэтр. | да 1 м. |
| „ 14 да 16 | „ 1 „ | „ 70 см |
| звыш 16% | „ 40 см | „ 30 см |

4. У выпадку павышэньня вільготнасьці ў часе хаваньня і пагрозы заплясьненьня насеньня рэкомэндуецца ў халодныя і сухія дні рабіць пералапачваньне і арфаваньне зерня соі, пры якім % вільгаці зьніжаецца.

5. Памяшканьне, дзе хаваецца соя, павінна быць сухім і добра праветраным.

А. Сяргееў

# Вадзяны арэх (Trapa natans L.)

Trapa natans L. (рагульнік, вадзяны арэх, чортаў арэх, чулім) належыць да сям. анагрыкавых (Onagraceae).

Многа цікавага дае гэтая расьліна пры назіраньні за ёй у акварыуме і з гэтага пункту погляду яна зьяўляецца вельмі добрым матар'ялам як для школьнага, так і для аматарскага акварыуму. З кінутага ў акварыум арэха (калі, зразумела, ён сьпелы і сьвежы) пачынае прарастаць белы карэнчык, які і вядзе сябе нават ня зусім звычайна. Насуперакі дзейнічаньню сілы цяжару і насустрач сьвятлу, карэнчык расьце ня ўніз, як гэта звычайна бывае, а ўгару. Але ў хуткім часе рост гэтага кораня спыняецца і ён так і застаецца ў выглядзе даволі значнага хвосьціка, які тырчыць угару. Гэты недаразьвіты корань, як відаць, меў у продкаў вадзянага арэха значэньне „паветравага" кораню і даходзіў да паверхні вадазбораў. Ад гэтага кораню пачынаюць расьці бакавыя карані, якія спачатку таксама цягнуцца ўгару, але потым паступова прымаюць нормальнае становішча. Дадатковыя карані разьвіваюцца таксама з падводнага сьцябла. Самы арэх застаецца на дне вадазбору і адыгрывае ролю „якара" (рогі арэха—„якарныя лопасьці").

Наогул-жа вадзяны арэх носіць на сабе вельмі характэрныя рысы прыстасаваньня да вадзянога асяродзьдзя.

На паверхні вады раскідаецца розэтка лісьця, якое мае ромбічную форму і ўтаўшчэньне на ліставых хвасткох (плавальны апарат, пабудаваны з паветраноснай паранхімнай тканкі). Арэхі, дзякуючы паветраноснай паранхімы сьценак, таксама трымаюцца на паверху, што значна спрыяе распаўсюджаньню пладоў. Сьцяблы і зразкі афарбаваны ў малінавы колер. Сьцяблы часам вельмі доўгія. Перыстыя карашкі некаторыя лічаць за падводнае лісьце. Кветкі дробныя белыя, сядзяць у пазухах лісьцяў. Цьвіце ў другой палове лета. Увечары кветкі зьвёртваюцца і апускаюцца ў ваду.

Плод-арэх мае чатыры сымэтрычна разьмеркаваныя рагулькі і некалькі напамінае сабой тую фігуру, што лепяць з хлеба дзеці і якая не мяняе свае формы, калі яе кідаюць на падлогу. Арэх дае вельмі добры крухмал. Размолатыя на муку ядры скарыстоўваюцца на рознага віду пячэньні. Там, дзе вадзяны арэх распаўсюджаны, насельніцтва зьбірае яго плады і скарыстоўвае іх як харчовы продукт.

На Браншчыне ёсьць вазёры:—Арэхаўка, назва якога гаворыць за тое, што там расьце многа гэтай расьліны, Вечна, дзе ваколічнае насельніцтва штогодна зьбірае дзесяткі тысяч кілёграм арэха. Скарыстоўваецца гэта расьліна, як прысмакі і ў некаторых вёсках па рацэ Дзясьне, там, дзе ў затоках, старыцах і г. д. расьце вадзяны арэх. П. Маеўскі („Флора Средней России") указвае нават на тое, што гэты арэх зьяўляецца прадметам гандлю, як народныя прысмакі.

Расьліна гэта ў свой час вывучалася ў Швэйцарыі, дзе вывучэньне яе праводзілася ў сувязі з вывучэньнем рэштак свайных пабудоў, жыхары якіх па ўсім даным карысталіся пладамі арэха ў вельмі значных разьмерах. У Індыі і да гэтага часу мясцовыя жыхары разводзяць вадзяны арэх.

Некаторыя вучоныя (И. А. Клинген „Среди патриархов земледелия") высоўваюць гэтую расьліну, як адну з першых, якую наогул чалавек пачаў культываваць.

Пр. Хітраво („Природа Орловского края") піша: „Конь, які арэ, напэўна не дагадаўся аб тым, што бяз гэтай працы ня вырасьце авёс, які ён будзе есьці. Мусіць і дзікун доўга зьбіраў і малоў насеньне дзікарослых злакаў, не дагадваючыся іх сеяць. У вадзе справа больш простая: рыбак, свайны жыхар, назіраў як расьце вадзяны арэх, там, дзе ён абчышчаў ад іх свае снасьці, а калі пачаў кідаць іх у ваду, то ня трэба было ніякай апрацоўкі гэтай „глебы", як на зямлі.

Але самае цікавае, што, выцягваючы з вады расьліну вадзянога арэха, ён разам з пладамі, вырастаючымі на гэтай расьліне зьверху, назіраў сваімі вачыма карані і той прымацаваны ў аснаваньня расьліны высахшы арэх, з якога яна вырасла. Бадай не знайсьці ніводнай другой расьліны, якая-б у такой форме давала першы ўрок земляробства".

Расьце гэта расьліна і ў нас, у БССР. Так Н. Зьбіткоўскім вадзяны арэх знойдзены на Мазыршчыне ў Лельчыцкім раёне (р. Вубарць каля х. Вясьліннае) і на Гомельшчыне (р. Іпуць— у межах Шабрынскага лясьніцтва, каля в. Чонкі ў старыцах р. Сож). Адамаў В. В. (Адамов В. В. и Ярошевич Н. К. „Обзор растительности Белорусского Полесья") адзначае вадзяны арэх для возера Князь. Пачоскі І. К. („Флора Полесья") піша аб тым, што вадзяны арэх сустракаецца „ў многіх вазёрах Мазырскага павету". На паўночнай частцы БССР вадзяны арэх пакуль што ня знойдзены, але рабіць адсюль вывадаў аб тым, што яго там і сапраўды няма, на нашаму думку, зусім нельга, бо вадзяны арэх сустракаецца і далей на поўнач ад БССР, напрыклад, ва Ўсходняй Курляндыі, каля Якобштату (Kupffer K. R.—„Grundzüge der Pflanzengeographie des ostbaltischen Gebictes" Riga 1925 г.). У выглядзе выкапню вадзяны арэх знойдзены нават у тарфяных балотах каля Ленінграду, што сьведчыць аб тым, што распаўсюджанасьць вадзянога арэха ў нядаўнае геолёгічнае мінулае пашыралася далёка на поўнач.

Цяпер гэта расьліна вымірае. Прычыны, якія спрыяюць выміраньню, пакуль што ясна ня высьветлены. Аб выміраньні гэтай расьліны гаворыць і Е. В. Вульф у сваёй кнізе „Введение в исто

рическую гоеграфию растений". Вульф піша: „Так, у Ангельшчыне мы ня ведаем расьліны за выключэньнем вадзяной расьліны Trapa natans, якая дае добры харчовы продук і якая-б была зьнішчана дзейнасьцю чалавека".

Нам здаецца, што арэх належыць да той групы балотных расьлін, якую можна і трэба як-мага хутчэй выкарыстаць. Пра скарыстаньне іншых прадстаўнікоў балотнай флёры намі ўжо пісалася ў часопісе „Савецкая Краіна"—А. М. Сяргееў „Зоймемся вывучэньнем сурогатаў кармоў".

Трэба заняцца пытаньнем дэталёвага вывучэньня каштоўнасьці гэтай расьліны, магчымасьцямі штучнага абсемяненьня гэтай расьліны ў нашых вадазборах. А спробы ў гэтым кірунку як-быццам былі. Так, напрыклад, Н. Зьбітоўскі піша пра вадзяны арэх, разьведзены штучна ў сажалцы в. Каранёўкі б. Гомельскай акругі (чыгуначная пляцформа на поўдзень ад Гомелю).

Для краяведаў тут разгортваецца вялікае поле дзейнасьці.

Ня менш цікава гэта расьліна, як об'ект вывучэньня і дасьледаў з боку Інстытуту харчовай прамысловасьці.

Магчыма, што ў выніку ўсебаковага вывучэньня вадзянога арэха трэба будзе гаварыць аб гэтай расьліне, як аб новай с-г. культуры, для культываваньня якой будзе скарыстана многа тых вадазбораў, якія раскіданы ў нас на Палесьсі, а таксама на Полаччыне і Віцебшчыне.

Ядры вадзянога арэха маюць наступны склад: бялкоў—15%, крухмалу—52%, цукару 3% і тлустасьці 0,5%.

---

**Проф. П. Салаўёў**

# Птушкі—барацьбіты за ўраджай

У дырэктывах да складаньня другой пяцігодкі народнай гаспадаркі СССР (1933-1937 гг.) XVII конфэрэнцыя ЎсеКП(б) дала наступную дырэктыву па пытаньню завяршэньня соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі:

„Цэнтральнай задачай другой пяцігодкі павінна стаць рашучае падвышэньне ўраджайнасьці колгасных і савгасных палёў і бальшавіцкае вырашэньне пытаньня аб барацьбе з сухменямі“.

Выкананьне гэтай дырэктывы патрабуе ад краязнаўчых організацый, асобных краязнаўцаў усебаковага вывучэньня ўмоў, якія спрыяюць падвышэньню ўраджайнасьці колгасных і савгасных палёў.

Трэба пры гэтым зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на тыя абставіны, якія да гэтага часу недаацэньваюцца.

Трэба падкрэсьліць, што згодна ўчоту зямельна-колгасных органаў наша сельская гаспадарка траціць ад розных шкоднікаў, галоўным чынам, ад шасьціножак і грызуноў, да мільярда залатых рублёў. Трэба падкрэсьліць, што шкоднікі сельскай гаспадаркі штогод зьнішчаюць 30 мільёнаў тон збожжа, у той час як сялянскае насельніцтва зьядае каля 29 мільёнаў тон хлеба. Гэткае становішча нецярпімае і недапушчальнае ў СССР.

Дзяржава вядзе ўпартую барацьбу з шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Асоавіяхэм таксама вельмі значна дапамагае ёй у гэтай справе. Але гэтага мала. Трэба гэтую барацьбу ўзмацніць, мобілізаваўшы на гэта вялізарную дапамогу птушак. Адна з самых маленькіх нашых птушак—каралёк жоўтагаловы—зьядае на працягу году да 4 мільёнаў шасьціножак. Сініца-лазораўка зьнішчае да $6^1/_2$ мільёнаў яек шкодных шасьціножак на працягу году. Сям'я шпака за адзін дзень можа зьнішчыць на палёх больш чым 350 штук шкоднікаў. Зязуля на працягу аднае гадзіны зьнішчае да 100 штук чарвы. Як бачым на гэтых прыкладах, птушкам належыць вельмі значная роля ў абароне нашай гаспадаркі ад шкоднікаў. Але, на жаль, гэтая роля птушак недаацэньваецца. Наадварот, мы часамі сустрэкаемся з такімі выпадкамі, калі дзеці і нават вучні ўвесну лазяць па дрэвам і зьбіраюць яйкі птушак, разбураюць гнёзды апошніх. Сярод дарослага насельніцтва амаль што ня бачым асоб, якія-б спынялі гэтую шкодную работу моладзі. Часамі можна бачыць, як зусім дарослыя асобы са стрэльбай у руках забіваюць птушак, кажучы, што яны прапрацоўваюць

заданьні вайсковай вучобы. Гэткія адносіны да птушак—прыяцеляў нашай гаспадаркі—павінны быць зжыты. Пры дапамозе настаўніцтва, пры дапамозе піонэрскіх і комсамольскіх організацый, краязнаўчы актыў БССР павінен павесьці рашучую барацьбу з недаацэнкай птушак у справе падвышэньня ўраджайнасьці нашых палёў. Замест варожых драпежніцкіх адносін да птушак мы павінны выхоўваць абаронцаў птушак шляхам растлумачальнай работы аднасна значэньня апошніх. Цяпер Усесаюзны інстытут аховы расьлін пры Акадэміі сельска-гаспадарчых навук імя Леніна ў пляне сваёй работы па сэктару хрыбетных жывёл сярод іншых задач ставіць задачу вывучэньня птушак з пункту погляду іх сельска-гаспадарчага значэньня. У толькі што зьявіўшымся зборніку Усесаюзнага Інстытуту аховы расьлін надрукаваны артыкул Вэбэра і Кісьцякоўскага „Дзікія птушкі ў сельскай гаспадарцы". У пляне работы Усесаюзнага зьезду па ахове расьлін у Ленінградзе (15—23/XI-1932 г.) маюцца даклады цэлага раду вучоных птушкаведаў (Зьверава, Кісьцякоўскага, Памяранцава, Самародава і інш.), зьвязаныя з высьвятленьнем ролі птушак у сельскай гаспадарцы і ў падвышэньні ўраджайнасьці. Птушкаведы ставяць пытаньне ў наступным выглядзе.

„У сувязі з пяцігадовым плянам падвышэньня ўраджайнасьці справа аховы і прыцягненьня птушак павінна быць пастаўлена на належную вышыню. Нам час ужо прызнаць, што прыцягваць птушак да аховы нашага ўраджаю таксама важна, як угнойваць зямлю" (Дармідонтаў).

Трэба адзначыць, што за межамі справа па ахове птушак існуе ўжо больш як поўстагодзьдзя і дае добрыя вынікі. Калі мы ўжо дагналі і нават перагналі капіталістычныя краіны ў тэхніка-эканомічных адносінах па раду ўчасткаў, мы павінны зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на ахову птушак. У нашай краіне самага буйнога ў сьвеце земляробства гэтую справу ня цяжка прасунуць наперад, зьвярнуўшы на гэта ўвагу актыву нашых колгасаў і савгасаў. Роля ў гэтым краязнаўцаў вялізарная. У некаторых мясцох гурткі моладзі—юных натуралістаў—ужо зрабілі значную работу на гэтым фронце. За апошнія два гады юнакі ўцягнулі ў кампанію па правядзеньню „Дня птушак" звыш 105.000 вучняў і разьвесілі больш 32.000 шпаковень для прывабы птушак. У СССР маецца каля 50.000 піонэрскіх атрадаў і каля 70.000 школ, якія маглі-б праводзіць вялізарную работу на гэтым фронце.

Калі вызначыць, якіх каштоўных птушак бясспрэчна трэба ахоўваць, то аказваецца, што такія, напрыклад, птушкі, як каўкі (галкі), аб якой ніхто не клапоціцца, а часам нават лічаць яе шкоднай, заслугоўвае аховы. Справа ў тым, што каўкі выдзіраюць маладыя ўсходы кукурузы, сланечніку і інш. і, здаецца, што, нават не скарыстаўшы іх, кідаюць. Зразумела, што такія паводзіны каўкі выклікаюць абурэньне. Аднак, на справе аказваецца, што птушкі выдзіраюць толькі такія расьлінкі, на падземных частках якіх сядзіць чарва т. зв. драцянікаў (чарва шкодных жукоў). Каўкі цікавяцца не самою расьлінаю, але тымі шкоднікамі, якія жывяцца апошнімі. Такім чынам, абурэньне зьяўляецца беспадстаўным,

тым больш, што тыя расьліны, якія выдраны галкай, усё роўна загінулі-б.

Сэнс гэтага артыкулу ў тым, каб загадзя мобілізаваць думку краязнаўчых організацый і актыўных краязнаўцаў на пытаньні, зьвязаным з падвышэньнем ураджайнасьці нашых палёў. Калі гэтая думка прасякне ў шырокія колы нашай грамадзкасьці, дык мы да наступнай вясны будзем падрыхтаваны і сустрэнем прылётных нашых птушак, як прыяцеляў, а не як ворагаў.

---

**В. Серафімаў**

# Програма па манографічнаму апісаньню колгасу

Пад кіраўніцтвам нашай партыі рабочая кляса і працоўныя масы дабіліся выключных посьпехаў у социялістычным будаўніцтве, завяршыўшы пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі і выканаўшы першую пяцігодку ў 4 гады. Рашэньні XVII партыйнай конфэрэнцыі падкрэсьліваюць, што „асноўнай політычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул" і што „асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца завяршэньне рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі". У галіне сельскай гаспадаркі пастановы XVII партыйнай конфэрэнцыі ставяць галоўнейшай задачай завяршэньне соцыялістычнай рэконструкцыі з тым, „каб машына-трактарныя станцыі ахапілі ўсе колгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю с-г. вытворчасьці.

Задачы організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і соцыялістычнага перавыхаваньня колгасных мас павінны стаць у цэнтры ўвагі і ў другой пяцігодцы" (з пастановы XVII партконфэрэнцыі). Падкрэсьліваючы адказьнейшую ролю савгасаў у організацыі соцыялістычнай вытворчасьці і ў дастасаваньні высокай машыннай тэхнікі, дасягненьняў сучаснай агрономіі і зоотэхнікі ў сельскай гаспадарцы, пастановы XVII партконфэрэнцыі ў галіне жывёлагадоўлі ў другую пяцігодку ставяць задачу барацьбы за павялічэньне стада і росту таварнай продукцыі і вырашэньне ў асноўным жывёлагадоўчай проблемы, як мы гэтага дабіліся ў першую пяцігодку ў адносінах збожжавай проблемы.

Па тэхнічным культурам (лён, бавоўна) мы павінны падвоіць нашу продукцыю ў другую пяцігодку.

Усе гэтыя мерапрыемствы патрабуюць далейшага і яшчэ шпарчэйшага ўздыму збожжавай гаспадаркі і таму цэнтральнай задачай у сельскай гаспадарцы ў „другой пяцігодцы павінны стаць *рашучае падвышэньне ўраджайнасьці* колгасных і савгасгасных палёў і бальшавіцкае вырашэньне пытаньня аб барацьбе з сухменямі" (з пастаноў XVII партконфэрэнцыі).

Пастановы XVII партконфэрэнцыі падкрэсьліваюць, што „аграмадныя прыродныя багацьці краіны, бальшавіцкія тэмпы

соцыялістычнага бутаўніцтва, растучая актыўнасьць шырокіх мас рабочых і колгасьнікаў і правільная лінія партыі поўнасьцю забясьпечваюць такое разгортваньне вытворчых сіл соцыялістычнай гаспадаркі ў другім пяцігодзьдзі, на аснове якога магчыма дабіцца поўнага зьнішчэньня прычын, якія параджаюць клясавыя адрозьненьні" і „ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва".

Героізм рабочае клясы ў выкананьні першай пяцігодкі ішоў ня толькі па лініі непасрэднага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве, але і барацьбы за падвышэньне дабрабыту шырокіх рабочых, колгасных і працоўных мас, барацьбы за рашучае ажыцьцяўленьне Сталінскага лёзунгу аўладаць навукай, аўладаць тэхнікай. Рабочая кляса высунала новых энтузыястаў навукі і тэхнікі, шырокія масы вынаходцаў, творцаў сваіх савецкіх блюмінгаў, сваіх дасьледчыкаў, актыўных удзельнікаў і організатараў навукова-дасьледчай работы. Пастановы XVII партыйнай конфэрэнцыі зьвяртаюць асаблівую ўвагу на далейшае разгортваньне шырокай навукова-тэхнічнай грамадзкасьці.

Зусім відавочна, што разгортваньне савецкага краязнаўства на нашых прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах зьяўляецца неадкладнай патрэбаю рашучага ажыцьцяўленьня дырэктыў XVII партыйнай конфэрэнцыі і выцякаючай з іх пастановы Савету Народных Камісараў БССР аб краязнаўчым руху. Згодна пастановы ўраду разгортваньне краязнаўчага руху павінна быць падпарадкавана конкрэтным плянам соцыялістычнага будаўніцтва раёну, прадпрыемства, колгасу, саўгасу, інтарэсам абароназдольнасьці краіны. Масавае вывучэньне колгасаў, колгаснай вытворчасьці з мэтай далейшага наступленьня ў справе організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў на аснове пастаноў партыі, на аснове ўказаньняў т. Сталіна, зьяўляецца аднэй з важнейшых работ кожнай краязнаўчай ячэйкі, кожнай нізавой навукова-дасьледчай організацыі. Паданая ніжэй кароткая схэма монографічнага апісаньня колгасаў дае орыентовачную намётку для гэтай работы. Зусім відавочна, якую вялікую ролю адыграе організацыя монографічных апісаньняў колгасаў для партыйных і савецкіх устаноў, для шырокага абмену практыкаю ў колгаснай вытворчасьці. Монографіі дапамогуць выявіць жывыя малюнкі клясавай барацьбы за колгас, за ўздым колгаснай вытворчасьці, што неабходна пры пляніваньні, пры правядзеньні гаспадарчых і політычных кампаній, пры спэцыялізацыі раёну, колгасу, пры організацыі сеткі культасьветных устаноў, пры вывучэньні вытворчых сіл раёну і г. д. Апісаньне колгасу таксама павінна быць пастаўлена на службу самога колгасу і на ўздым яго вытворчасьці. Вывучэньне і ўчот усіх асаблівасьцяў колгасу павінен забясьпечыць пасьпяховае выкананьне плянаў, пасьпяховае правядзеньне опэрацыйнага году, пасьпяховую барацьбу за падвышэньне ўраджайнасьці. Апошнія рашэньні партыі аб падняцьці ўраджаю з асаблівай катэгорычнасьцю патрабуюць ад кожнага колгасу правільна організаванай барацьбы за высокі ўраджай, за якасьць колгаснай вытворчасьці.

Разгортваньне работы па манаграфічнаму апісаньню колгасаў ня можа праводзіцца бяз удзелу шырохіх мас саміх колгасьнікаў: трэба прыцягнуць да работы колгасны актыў, кіруючых работнікаў колгасу. Манаграфічнае апісаньне колгасу павінна арганізаваць колгасныя масы на навукова-дасьледчую работу, стварыць сталы актыў Акадэміі Навук і яе ін-таў, стварыць сетку корэспондэнтаў, пакласьці пачатак навукова-дасьледчых выданьняў месц і г. д. Організацыя работы па манаграфічнаму апісаньню колгасу няўхільна зьвязана з організацыяй краязнаўчай ячэйкі, калі яе там няма, зьявіцца пачаткам організацыі работы краязнаўчых організацый па вывучэньню прыродна-вытворчых сіл раёну.

Да манаграфічнага апісаньня колгасу трэба прыцягнуць наша студэнцтва, якое адбывае практыку, бывае ў колгасах у адпачынку, спэцыялістаў, навуковых работнікаў, шырокія колы асьветнікаў і штодзенна зьвязаных з колгасам раённых работнікаў і асабліва раённыя газэты і рабселькораў. Трэба адзначыць зусім недапушчальныя адносіны да гэтай справы з боку раду раённых бюро краязнаўства (Мсьціслаўскае, Лепельскае і інш.), якім былі даны заданьні па манаграфічнаму апісаньню колгасаў і яны ня выканалі іх, ня гледзячы на тое, што было забясьпечана выданьне гэтых манографій па каштарысу Акадэміі.

З работай па манаграфічнаму апісаньню колгасаў трэба зьвязаць організацыю краязнаўчага кутка і падбор экспонатаў для яго і для раённага краязнаўчага музэю. Для гэтага трэба асабліва скарыстаць правядзеньне дня ўраджаю, удзел колгасу ў сельска-гаспадарчай выстаўцы. Школа павінна прыняць актыўны ўдзел у гэтай рабоце. Організацыя манаграфічнага апісаньня колгасу павінна быць мобілізуючым фактарам на ўдарнае выкананьне чарговых гаспадарча-палітычных кампаній, на ліквідацыю прарываў, адставаньня. Дасканалае вывучэньне колгасу дапаможа высьветліць прычыны адставаньня, слабыя бакі ў рабоце колгасу.

Манаграфічнае апісаньне колгасу павінна адначасна шырака популярызаваць у масах задачы савецкага краязнаўства, шырака азнаёміць колгасьнікаў з плянам другой пяцігодкі па БССР і раёну і тымі конкрэтнымі задачамі, якія выцякаюць з гэтых плянаў у галіне навукова-дасьледчай работы.

Лепшыя работы па манаграфічнаму апісаньню колгасаў будуць выдавацца асобнымі брошурамі, зборнікамі. Невялічкія работы будуць зьмяшчацца артыкуламі ў часопісе „Савецкая Краіна",—у цэнтральным і раённым друку. Кіруючую ролю ў гэтай справе павінна адыграць партыйная ячэйка, комсамол.

## Схэма апісаньня колгасу

### I. Агульныя весткі

Месцазнаходжаньне колгасу. Назва яго. Адлегласьць і шляхі зносін колгасу з раённым цэнтрам, з бліжэйшым горадам. Кароткая агульная характарыстыка спэцыялізацыі раёну, сельсавету, на тэрыторыі якога знаходзіцца колгас. Прыродна-географічныя асаблівасьці тэрыторыі колгасу, глеба.

### II. Гісторыя колгасу

Падрабязна характарызаваць мінулае вёскі, дзе арганізаваўся колгас. Асабліва патрэбна расказаць аб социяльным складзе вёскі, колькі было батракоў, беднякоў, сераднякоў, кулакоў. Кірунак гаспадаркі і чым ён выклікаўся. Падрабязна апісаць прыгон і эксплёатацыю абшарнікамі і кулакамі батракоў, беднаты, серадняка. Конкрэтна паказаць, як адбілася імпэрыялістычная вайна на вёсцы (гаспадарка розных социяльных груп, бытавое становішча і інш.), як рэагавалі на вайну розныя социяльныя праслойкі вёскі, служылы элемэнт, папы і г. д. Падрабязна апісаць расслаеньне вёскі ў розныя этапы і клясавую барацьбу, клясавую нянавісьць працоўных мас да эксплёататараў, да царскага ўраду і яго прыхвасьняў—паліцыі, жандармэрыі.

Вёска ў часы лютаўскай рэволюцыі і асабліва ў пэрыод Кастрычнікаўскай рэволюцыі і грамадзянскай вайны. Організацыя саветаў. Работа камітэтаў беднаты. Вёска пры новай экономічнай політыцы. Калі зорганізаваўся колгас і яго першыя організатары, форма колгасу. Клясавая барацьба ў пэрыод оргнаізацыі. Формы супраціўленьня і манэўры кулацтва і варожых элемэнтаў пры організацыі колгасу. Социяльны склад колгасу ў першыя часы. Мобілізацыя мас на адпор кулацтву, разгортваньне колгаснага будаўніцтва і ліквідацыя кулацтва. Перагібы і іх выпраўленьне. Рост колгасу, рост колгаснай гаспадаркі. Кіруючая роля партыйнай організацыі на розных этапах барацьбы за організацыю колгасу.

### III. Клясавая барацьба за колгас на даным этапе

„Новыя посьпехі социялізму рабочая кляса забясьпечыць толькі ў барацьбе з рэшткамі капіталізму, даючы бязьлітасны адпор супраціўленьню гінучых капіталістычных элемэнтаў, перамагаючы буржуазныя і дробна-буржуазныя забабоны сярод працоўных і вядучы настойлівую работу па социялістычнаму іх перавыхаваньню.

Гэта азначае, што і ў далейшым яшчэ нямінуча абвастрэньне клясавай барацьбы ў паасобныя моманты і асабліва ў паасобных раёнах і паасобных участках социялістычнага будаўніцтва, што разам з тым падкрэсьлівае нямінучасьць захаваньня, а ў некаторых выпадках і ўзмацненьня буржуазных уплываў на паасобныя пласты і групы працоўных, нямінучасьць яшчэ на працягу доўгага часу пранікненьня чужых пролетарыяту клясавых уплываў у асяродзьдзе рабочых і нават у партыю. З прычыны гэтага перад партыяй стаіць задача ўмацаваньня пролетарскай дыктатуры і далейшага разгортваньня барацьбы з опортунізмам, і асабліва з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе“ (з паст. XVII п. к.).

„Бядняк і серадняк-аднаасобнік, які дапамагае кулаку змагацца з колгасамі і падрывае колгаснае будаўніцтва, ня можа быць саюзьнікам, а тым больш апорай рабочай клясы,—ён на справе саюзьнік кулака.

Толькі той бядняк і серадняк-аднаасобнік застаецца саюзьнікам рабочай клясы, хто разам з рабочай клясай дапамагае будаваць колгасы, хто падтрымлівае колгасны рух, хто дапамагае весьці рашучую барацьбу з кулаком.

Для таго, каб зрабіцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, перад бедняком і серадняком-аднаасобнікам адзін шлях— шлях дапамогі колгасам, а пасьля і ўступленьня ў колгасы“ (з пастановы VI зьезду Саветаў БССР).

Соцыяльны склад колгасу (батракі, беднякі, серадн які). Партыйны і комсамольскі склад, былыя чырвонагвардзейцы і партызаны, дваццаціпяцітысячнікі. Сплачонасьць батрацтва і беднаты вакол рашэньняў партыі і іх вядучая роля ў адносінах да серадняка. Характарызаваць работу з беднатой на розных этапах барацьбы за колгас. Сплачонасьць серадняка вакол беднаты, кіруючая роля партыйнай ячэйкі, комсамолу ў барацьбе за ўмацаваньне колгасу— соцыялістычнай гаспадаркі. Клясавая пільнасьць у барацьбе за чыстату колгасу і ачыстка яго ад кулацкіх і варожых элемэнтаў; барацьба з варожымі настроямі асобных колгасьнікаў. Зьлітаванасьць і організаванасьць колгаснага актыву. Удзел колгасу ў рабоце сельсавету і сельсавецкіх грамадзкіх організацый. Колгас у барацьбе за мерапрыемствы раённых організацый і сельсавету.

Узаемаадносіны колгасу з аднаасобнікамі. Кіруючая роля колгасу ў аднаасобным сэктары ў барацьбе за ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў партыі і ўраду. Організацыя аднаасобніка на дапамогу колгасу. Дапамога колгасу аднаасобнаму сэктару. Папулярызацыя росту колгасу сярод аднаасобнікаў і разгортваньне масавай растлумачальнай работы за праліў у колгас. Падрабязна апісаць клясавую барацьбу ў правядзеньні важнейшых гаспадарча-палітычных кампаній, як нарыхтоўкі сельска-гаспадарчых продуктаў, веснавая сяўба і інш., характарызуючы асобныя факты, паказаць барацьбу колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас у выкрыцьці кулацкіх манэўраў, кулацкай агітацыі, паказаць кіруючую ролю партыйных і комсамольскіх організацый і сельсавету ў барацьбе з рэшткамі варожых клясаў. Паказаць непрымірымую барацьбу з правымі—кулацкай агентурай у партыі, выкрыць манэўры правых і прымірэнцаў да іх, паказаць непрымірымую барацьбу і выкрыць „лявацкую“ авантуру, „лявацкія“ загібы і прымірэнцтва да іх.

### IV. Організацыя працы ў колгасе

„Учот і контроль за колькасную працу і за разьмеркаваньне продуктаў—у гэтым *сутнасьць* соцыялістычнага ператварэньня, раз палітычная дзяржава створана і забясьпечана“ (Ленін). „ЦК прапануе парторганізацыям у цэнтры сваёй работы паставіць організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў у іх сучаснай арцельнай стадыі разьвіцьця: організацыя працы, пастаноўка справы ўчоту, правядзеньне зьдзельшчыны, барацьба за якасьць работы“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 2/VIII-1931 г.).

„Каб правільна організаваць працу ў колгасах, трэба, па-першае, увесьці брыгадны мэтод працы, організуючы брыгады па вытворчаму прынцыпу; па-другое, брыгадная праца павінна працякаць на аснове зьдзельшчыны, і па-трэцяе, зьдзельшчына павінна расцэньвацца не ў грашовай форме, а ў працаднёх“ (з дакладу т. Юркіна на VI Усесаюзным зьезьдзе Саветаў).

Праца колгасу ранейшых гадоў. Падрабязна апісаць, як на аснове рашэньняў партыі па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў мобілізаваны і арганізаваны колгасьнікі на іх ажыцьцяўленьне, адначасна характарызуючы клясавую барацьбу ў гэтай рабоце. Укараненьне зьдзельшчыны і барацьба з кулацкай ураўнілаўкай. Нормы выпрацоўкі. Працоўны дзень. Арганізацыя сталых брыгад для выкананьня асноўных сельска-гаспадарчых работ на працягу ўсяго году з прымацаваньнем да іх машын, інвэнтару, рабочай жывёлы, зямельных участкаў. Пастаноўка работы ў колгасе ў цэлым і брыгадах з адказнасьцю за колгасны інвэнтар, машыны рабочую жывёлу і г. д. (ліквідацыя абязьлічкі). Падбор брыгадзіраў. Ці зьнішчаны факты цякучасьці брыгадзіраў. Роля брыгадзіра ў арганізацыі колгаснай вытворчасьці.

Арганізацыя ўчоту працы ў колгасе і ў брыгадзе.

Плянаваньне працы ў колгасе. Учот і расстаноўка сіл на аснове зьдзельшчыны, патрэбнасьць і запас рабочай сілы. Арганізацыя адыходніцтва. Скарыстаньне кваліфікаванай рабочай сілы. Пры характарыстыцы вытворчага пляну трэба прадугледзець: вытворчае заданьне вышэйшых савецкіх і колгасных арганізацый і забесьпячэньне яго выкананьня ў тэрмін. Мерапрыемствы колгасу па сустрэчнаму пляну. Сваечасовае забясьпечанасьць выкананьня вытворчага пляну насеньнем, угнаеньнямі, матар'яламі. Агрономічныя мерапрыемствы па забесьпячэньню пляну. Сустрэчныя нормы выпрацоўкі. Арганізацыя працы і ўвядзеньне зьдзельшчыны на скотным двары колгасна-малочнай фэрмы, сьвінаводчай фэрмы. Практычнае ажыцьцяўленьне дырэктывы партыі аб спэцыялізацыі колгасу. Барацьба за працоўную дысцыпліну ў колгасе.

## Соцыялістычнае спаборніцтва ў колгасе

„Асноўнай мэтай ударнага руху зьяўляецца, побач з падвышэньнем інтэнсыўнасьці працы па выканьню плянавых заданьняў, усямернае паляпшэньне ўсяго процэсу вытворчасьці і лепшая арганізацыя працы, рацыяналізацыя вытворчасьці і кіраўніцтва, максымальнае разьвіцьцё вынаходніцтва, укараненьне культурных навыкаў у вытворчасьці (падняцьце тэхнічнай кваліфікацыі, дасканалы догляд за машынай, станком, інструмэнтам і г. д.) (з пастановы ЦК УсеКП(б).

Арганізацыя соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў колгасе; ахоп спаборніцтвам і ўдарніцтвам колгасьнікаў, грамадзкі буксір. Популярызацыя спаборніцтва і ўдарніцтва, арганізацыя ўчоту. Спаборніцтва і ўдарніцтва і сувязь з іншымі колгасамі. Чырвоная і чорная дошка. Арганізацыя вытворчага агляду. Насьценная газэта ў барацьбе за разгортваньне ўдарных тэмпаў у колгаснай вытворчасьці. Прэміяваньне ўдарнікаў-колгасьнікаў, брыгад. Арганізацыя і работа вытворчых нарад, рэалізацыя прапаноў колгасьнікаў. Насьценгазэта ў колгаснай вытворчасьці. Опэрацыйнасьць і конкрэтнасьць кіраўніцтва колгаснай вытворчасьцю з боку праўленьня колгасу. На конкрэтных фактах, прыкладах паказаць адсталасьць аднаасобнай гаспадаркі ў параўнаньні з колгасам.

## Матар'яльная база колгасу і сродкі вытворчасьці

Сродкі вытворчасьці колгасу (машыны, інвэнтар, цягавая сіла). Забясьпечанасьць машынамі ў адпаведнасьці з вытворчым плянам колгасу. Скарыстаньне і нагрузка наяўных машын. Конь і барацьба за якасны і колькасны склад конскага стада. Падсобныя майстэрні ў колгасе і арганізацыя рамонту машын і інвэнтару. Пабочныя прадпрыемствы колгасу, іх рост, даходнасьць, выкананьне плянавых заданьняў. Разгортваньне будаўніцтва ў колгасе (новая будоўля, рамонт, перабудоўля ў сувязі з спэцыялізацыяй і ростам колгаснага стада, жыльлёвае будаўніцтва, будаўніцтва пабочных прадпрыемстваў і г. д.).

Грашовыя сродкі колгасу. Плянавае іх выдаткоўваньне. Выкананьне грашовай дысцыпліны ў адпаведнасьці з фінансавай дысцыплінай. Выкананьне сваіх грашовых абавязацельстваў перад дысцыплінай і коопэрацыйнымі органамі.

Жывёлагадоўчая гаспадарка колгасу.

„Зьезд разглядае стварэньне колгаснай жывёлагадоўлі побач з арганізацыяй савгаснай жывёлагадоўлі, як асноўны шлях вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы ў найкарацейшы тэрмін“ (з пастановы VI зьезду саветаў).

Наяўнасьць продукцыйнай жывёлы ў колгасе; дынаміка яе росту, выкананьне пляну і пэрспэктывы далейшага росту. Унутраны распарадак на скотным двары. Выкарыстаньне машын і інвэнтару па абслугоўваньню жывёлы і скотнага двара. Рацыянальнае скарыстаньне вытворца. Гадоўля маладняку. Кармленьне па нормам і якія нормы ўжываюцца ў колгасе. Кармы і ўдой. Выкарыстаньне натуральнай і штучнай пашы. Захаваньне кармоў грубых, сакавітых, концэнтраваных і спосаб падрыхтоўкі іх да скармліваньня. Сілос. Скарыстаньне адкідаў на корм. Будынкі для жывёл (кароўнікі, цялятнікі, сьвінарнікі, ізолятары). Унутранае абсталяваньне і расстаноўка дарослай жывёлы і маладняку. Барацьба колгасу за пашырэньне кармовай базы.

*Ільнаводная гаспадарка колгасу.* Севазварот ільну ў пляне колгасу і выкананьне пляну. Асноўныя этапы пераходу да данай спэцыялізацыі. Мэханізацыя ўборкі ільну. Мэханізацыя поліва, выдзяленьне насеннага ільну, спосабы сушкі ўраджаю на полі, абмалот насеньня, вынаходніцтва, апрацоўка льнянога валакна. Нормы, тэрміны і формы ўгнаеньня. Патрэбнасьць глебы ў вапнаваньні. Торф, як угнаеньне і вынікі яго ўжываньня. Высьвятленьне найлепшых комбінацый сумеснага ўжываньня торфу і гною. Скарыстаньне зялёнага ўгнаеньня—лубіну, сэрадэлі і інш. Ахова ільну і канапель ад хвароб і шкоднікаў.

## Машынна-трактарная станцыя ў барацьбе за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў

„Пленум ЦК указвае ўсім арганізацыям на неабходнасьць рашучага паляпшэньня работы МТС і ўзмацненьня іх ролі, як важнейшага вагара ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, у далейшай соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі“ (з паст. ліпнёўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

ці абслугоўваецца колгас МТС. Падрабязна паказаць вядучую ролю МТС і політаддзелаў у барацьбе з рэшткамі варожых клясаў, у організацыі працы колгасу, у організацыі брыгад, організацыі колгаснай вытворчасьці. Паказаць рост колгасу ў сувязі з абслугоўваньнем МТС. Паказаць ролю МТС у падняцьці ўраджайнасьці і ўкараненьні машын і агрономічным абслугоўваньні. МТС і барацьба колгасу за аўладаньне тэхнікай. Паказаць соцыяльныя зрухі, якія адбываюцца ў колгасе ў сувязі з разгортваньнем работы МТС (адыходніцтва, выдзяленьня кадраў трактарыстаў, спэцыялізацыя колгасьнікаў, організацыя і ахоп соцыялістычнымі мэтодамі працы і г. д.). Характарызаваць выкананьне абавязацельстваў з боку колгасу да МТС. Паказаць моманты клясавай барацьбы і рост клясавай сьвядомасьці ў сувязі з укараненьнем МТС у колгасную вытворчасьць. Роля МТС у выкананьня абавязкаў перад дзяржавай. Паказаць культурны рост колгасаў ў сувязі з разгортваньнем работы МТС.

## VI. Барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці і правядзеньне важнейшых сельска-гаспадарчых кампаній

„Надышоў час, калі ад росту гаспадаркі ў шырыню, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна павярнуць да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця“ (з паст. ЦК УсеКП(б).

Роля савгасу ў барацьбе колгасу за падняцьце ўраджайнасьці. Пераключэньне партыйнай і комсамольскай організацыі, кіраўніцтва колгасу на рашучае ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі і ўраду аб падняцьці ўраджайнасьці. Падрыхтоўка да сяўбы ў вызначаныя тэрміны, забясьпечваючая выкананьне плянавых заданьняў па якасным і колькасным паказчыкам. Захаваньне насенных фондаў. Ачыстка і пратручваньне насеньня ва ўстаноўленыя тэрміны. Увядзеньне пасеваў гатунковым насеньнем. Збор попелу і яго выкарыстаньне. Вапнаваньне. Торф. Ужываньне мінэральных угнаеньняў. Пасеў лубіну. Скарыстаньне машын і барацьба з рэакцыйнымі элемэнтамі, якія супраціўляюцца ўвядзеньню машын. Організацыя работы па падрыхтоўцы кадраў і барацьба за аўладаньне машыннай тэхнікай. Севазварот—важнейшы фактар у падняцьці ўраджайнасьці. Землеўпарадкаваньне колгасу (выкананьне дырэктыў Саюзнага ўраду аб устойлівым землеўпарадкаваньні). Агравучоба і організацыя агрападрыхтоўкі брыгадзіраў. Выкананьне заданьняў па тэрмінам сяўбы, якія ўстанаўляюцца Наркамземам. Опэрацыйнае кіраўніцтва сяўбою і забясьпечанасьць барацьбы за якасьць ворыва, пасеву, догляду і ўборкі. Скарыстаньне спэцыялістаў у барацьбе за ўраджай (агрономы, зоотэхнікі і г. д.).

Пры характырыстыцы веснавой і азімай сяўбы трэба асабліва характарызаваць выкананьне плянаў сяўбы і выкрыць клясавых ворагаў, кулацкую агентуру, якая будзе імкнуцца скараціць пляны. Паказаць формы і мэтоды разгортваньня масавай работы за сваечасовую падрыхтоўку і пасьпяховае правядзеньне сяўбы.

Пры характарыстыцы правядзеньня ўборачнай кампаніі трэба паказаць мобілізацыю колгасных мас і практычныя мерапрыемствы ў барацьбе са стратамі пры ўборцы.

Скарачэньне тэрмінаў ўборкі. Організацыя ўборкі тэхнічных культур (лён, каноплі, бульба) і скарачэньне тэрмінаў. Выкананьне плянаў закладкі сілосу. Уборка сена. Захаваньне насеньнікаў траў.

Характарызаваць навукова-дасьледчую работу колгасу па падняцьцю ўраджайнасьці ў колгасе і сувязь яго з навукова-дасьледчымі ўстановамі, дапамога і практычныя мерапрыемствы з боку апошніх.

Паказаць клясавую барацьбу і выкрыць манэўры кулака і варожых элемэнтаў, якія, бязумоўна, будуць перашкаджаць ажыцьцяўленьню дырэктыў партыі ў падняцьці ўраджайнасьці, у барацьбе за бальшавіцкую сяўбу і ўборку.

Разгортваньне ўдарніцтва і соцспаборніцтва на асноўных этапах сяўбы і ўборкі.

Разьмеркаваньне ўраджаю у сувязі з выкананьнем абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай і засыпка насенных і страхавых фондаў.

„Разьмеркаваньне колгасных прыбыткаў па прынцыпу—хто больш і лепш працуе, той атрымлівае; хто не працуе, той нічога не атрымлівае—павінна зрабіцца правілам для ўсіх колгасаў і колгасьнікаў. Адпаведна гэтаму ў асноўных с.-г. работах,—варыве, сяўбе, поліве, уборцы, малацьбе—масавае пашырэньне павінна атрымаць зьдзельная работа, якая ацэньваецца ў працаднёх. Толькі на гэтай падставе можа быць умацавана працоўная дысцыпліна і добра організавана праца ў колгасах“ (з пастаноў VI зьезду Саветаў СССР).

„Разьмеркаваньне даходаў правесьці так, каб былі забясьпечаны наступныя асноўныя задачы і правільная ацэнка працадня па затрачанай працы і рашучая барацьба з кулацкай ураўнілаўкай, сваечасовая і правільная выдача колгасьнікам натуральнай і грашовай часткі, якая належыць на працадні; разьмеркаваць даходы выключна па якасьці і колькасьці затрачанай працы кожным колгасьнікам, з павышэньнем і паніжэньнем працадня брыгадам, у залежнасьці ад выкананьня імі вытворча-гадавых заданьняў, сваіх абавязацельстваў на сваечасовае і поўнае выкананьне колгасамі абавязковых плацяжоў; зварот пазык і выкананьне плянаў здачы таварнай продукцыі“ (з пастан. ліпнёўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Дасканала дасьледваць і апісаць разьмеркаваньне ўраджаю на аснове дырэктыў партыі, ураду і колгасных кіруючых органаў. Роля партыйнай ячэйкі, комсамолу ў разьмеркаваньні ўраджаю і сваечасовым выкананьні абавязкаў колгасу перад пролетарскай дзяржавай. Роля колгаснага актыву. Разгортваньне масавай работы і папулярызацыя рашэньняў партыі аб разьмеркаваньні ўраджаю. Рост продукцыі колгасу на розных этапах яго росту. Разьмеркаваньне ўраджаю папярэдніх гадоў і падрыхтоўка да разьмеркаваньня ўраджаю ў опэрацыйны год. Організацыя праверкі запісаў і ўчоту працадзён колгасьнікаў. Органі-

зацыя выдачы натуральных і грашовых авансаў. Складаньне папярэдняга і канчатковага пляну разьмеркаваньня ўраджаю. Організацыя разьмеркаваньня фуражу, улічваючы наяўнасьць жывёлы і замены другой продукцыяй згодна дырэктыў па гэтаму пытаньню. Разьмеркаваньне ўраджаю і барацьба за скарачэньне адміністрацыйных выдаткаў. Кіраўніцтва ў разьмеркаваньні ўраджаю з боку сельсавету, раёну. Разьмеркаваньне ўраджаю і забесьпячэньне якасьці працы брыгады і брыгадзіра (зьніжэньне ці падвышэньне на 10—20% у сувязі з якасьцю працы згодна дырэктывы партыі). Удзел МТС у разьмеркаваньні ўраджаю і разьгортваньне работы да наступнага опэрацыйнага году, мобілізацыя колгасьнікаў на выпраўленьне недахопаў мінулага году. Роля партыйнай ячэйкі ў барацьбе за правільнае разьмеркаваньне ўраджаю. Колгасны друк у барацьбе за правільнае разьмеркаваньне ўраджаю. Выпраўленьне памылак і рэагаваньне на няправільнае разьмеркаваньне.

Шырокая популярызацыя разьмеркаваньня ўраджаю сярод аднаасобнікаў. Паказаць даходнасьць колгасу і колгасьніка ў параўнаньні з аднаасобнікам. Разьмеркаваньне ўраджаю і клясавая барацьба (выкрыцьцё і адпор рвацкім настроям, выкрыцьцё кулацкай агітацыі і г. д.). Разгортваньне масавай работы ў сувязі з разьмеркаваньнем вакол важнейшых задач: выкананьне колгасам сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай (загатоўкі сельска-гаспадарчых продуктаў), барацьба з безгаспадарчасьцю, безадказнасьцю, абязьлічкай і г. д.

Разьмеркаваньне ўраджаю і разгортваньне ўдарніцтва на пасьпяховае і своечасовае выкананьне плянавых заданьняў—загатовак. Выкрыцьцё кулацтва, кулацкіх агентаў, рвачоў і ўсіх, перашкаджаючых выкананьню заданьняў. Паказаць формы і мэтоды масавай работы і мобілізацыю мас на барацьбу за хлеб. Выкрыць недахопы, перашкаджаючыя колгасу ў выкананьні важнейшай клясавай задачы—выкананьня абавязацельстваў перад дзяржавай. Вядучая роля колгасу ў аднаасобным сэктары, у выкананьні абавязацельстваў перад дзяржавай. Паказаць, як на рашэньнях партыі былі мобілізаваны масы колгасьнікаў і аднаасобнікаў на пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне пляну загатовак.

### VIII. Колгасны гандаль

„Практычная мэта пастаноў сягоньня ясна кожнаму—*падняць вытворчую актыўнасьць колгасьнікаў і расшырыць рынак сельска-гаспадарчых продуктаў, прыцягваючы на гэты рынак колгасьніка і працоўнага селяніна, які не знаходзіцца ў колгасе; лепш забясьпечыць рабочых, у асаблівасьці фабрычна-завадзкіх пасёлкаў, больш зьвязаных з рынкам*“ (т. Калінін аб савецкім гандлі).

Популярызацыя рашэньняў партыі сярод колгасных мас і мобілізацыі іх на выкананьне гэтых рашэньняў. Практычныя мерапрыемствы ў організацыі колгаснага гандлю. Колгасны гандаль і барацьба за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу; пашырэньне плошчы пасеву, барацьба за якасьць працы, барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці і г. д.

Арганізацыя колгасных мас на барацьбу са спэкуляцыяй перакупшчыкамі ў разгортваньні колгаснага гандлю (продаж ня прыватніку перакупшчыку-спэкулянту, а працоўным масам). Удзел колгасу ў рабоце мясцовай коопэрацыі. Дапамога з боку гандлёвых арганізацый у разгортваньні колгаснага гандлю. Выкананьне плянавых загатовак—першачарговая і неабходная ўмова ў разгортваньні колгаснага гандлю. Характарызаваць клясавую барацьбу ў разгортваньні колгаснага гандлю. Паказаць кіруючую ролю партыйнай ячэйкі ў барацьбе за колгасны гандаль.

Пабочная гаспадарка колгасу і разгортваньне колгаснага гандлю. Выкрыцьцё кулацкіх элемэнтаў, якія будуць імкнуцца скарыстаць колгасны гандаль у спэкуляцыйных мэтах. Выкрыцьцё правых опортуністаў, якія будуць імкнуцца зьвярнуць колгасны гандаль з рэек „савецкага гандлю на рэйкі спэкуляцыі" („Бальшавік" № 9, 1932, стар. 54).

Разгортваньне „левых" опортуністаў, якія будуць імкнуцца затрымаць разгортваньне колгаснага гандлю.

Удзел колгасу ў вырабе тавараў шырокага спажываньня: арганізацыя саматужных вырабаў, удзел у зборы і дастаўцы ўцілю і г. д.

### IX. Рэволюцыйная законнасьць і барацьба за ўмацаваньне арцельнае формы колгасу

„Задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў зьяўляецца ў даны момант перш за ўсё задачай разьвіцьця і *ўмацаваньня арцельнай формы колгасу*" (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4/II-1932 г.)

„Колгасны рух можа падымацца да вышэйшай формы—да комуны—у адпаведнасьці з падвышэньнем тэхнічнай базы, ростам колгасных кадраў і культурнага роўню колгасьнікаў, пры канечнай умове прызнаньня самімі сялянамі адпаведных зьмен у статуце і іх ажыцьцяўленьня зьнізу" (з пастаноў XVI зьезду УсеКП(б).

Азнаямленьне мас з прыкладным статутам колгасу. Якія зьмены ці дадаткі зроблены і наколькі яны адпавядаюць інтарэсам колгаснага будаўніцтва. Фактычнае ажыцьцяўленьне статуту і пастаноў партыі і ўраду ў жыцьці колгасу. Ці былі дапушчаны скрыўленьні і іх выпраўленьне. Азнаямленьне колгасьнікаў з рашэньнямі партыі па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасу і іх ажыцьцяўленьне ў жыцьці і рабоце колгасу. Ажыцьцяўленьне выбарнасьці праўленьня і старшыні колгасу—„людзі, гатовыя зьмяніць старшыню колгасу, як справавода ў РВК, забываюць, відавочна, аб тым, што ленінскае правіла „ня сьмець камандаваць у адносінах да серадняка" (Ленін, збор твораў, том XVI) цалкам і поўнасьцю захоўвае сваю моц і ў адносінах сельска-гаспадарчай арцелі" (т. Якаўлеў—„Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў і разгортваньні колгаснага гандлю"). Скарыстаньне і распараджэньне колгаснай маемасьцю і выхаваньне адказнасьці ў кожнага колгасьніка за грамадзкую ўласнасьць. Азнаямленьне колгаснай грамадзкасьці з пастановаю ўраду аб грамадзкай уласнасьці

і мобілізацыя на барацьбу з злачынствам, разбазарваньнем. Характарызаваць клясавую барацьбу ў ажыцьцяўленьні рэволюцыйнай законнасьці. Роля партыйнай і комсамольскай ячэйкі ў ажыцьцяўленьні рэволюцыйнай законнасьці.

### X. Культурнае будаўніцтва і быт

Масавая работа ў давядзеньні рашэньняў партыі аб нацыянальна-культурным будаўніцтве да колгасных мас. Кіруючая роля партыйнай і комсамольскай ячэйкі ў ажыцьцяўленьні дырэктыў партыі. Сетка культурных устаноў у колгасе (школа, хата-чытальня, дзіцячы сад, яслі і г. д.). Паказаць рост культасьветных устаноў, іх работу, уплыў на культурны і вытворчы рост колгасу. Удзел колгасу і колгасьнікаў у культурным будаўніцтве.

Рост пісьменнасьці; організацыя работы па політвыхаваньню колгасьнікаў. Колгас у сыстэме падрыхтоўкі кадраў. Рост колгасных кадраў і ўплыў яго на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу. Колгас у барацьбе за аўладаньне тэхнікай, організацыя тэхнічнай вучобы, сувязь з савгасам, літаратура і г. д. Ажыцьцяўленьне дырэктыў партыі аб нацыянальным пытаньні: беларусізацыя, абслугоўваньне колгасных мас на роднай мове, шырокае растлумачэньне нацыянальнай політыкі партыі, выкрыцьцё варожых вялікадзяржаўніцкіх шовіністычных, антысэміцкіх вылазак і выкрыцьцё кулацкай агітацыі. Разаблачэньне контррэволюцыйнага наццэмократызму і контррэволюцыйнай прышчэпаўшчыны і яго агентуры ў НКЗ.

Характарызаваць ролю жанчын у колгасным будаўніцтве. Удзел жанчын у організацыі колгасу, яе роля ў кіруючых органах колгасу. Жанчына ў колгаснай вытворчасьці, жанчына-брыгадзір, ударніца. Масавая работа сярод жанчын, жанчына ў культурным будаўніцтве.

Яслі дзіцячыя, пляцоўка, сад у колгасе і іх роля ў вызваленьні жанчыны.

Масавыя організацыі ў колгасе: ячэйка Асоавіяхэму, вайсковая падрыхтоўка колгасьнікаў, ячэйка Мопр'у і організацыя дапамогі рэволюцыянэрам капіталістычных краін; інтэрнацыянальнае выхаваньне; ячэйка „Бязбожнік“ і антырэлігійная работа сярод колгасьнікаў, іншыя організацыі і іх роля у перавыхаваньні колгасных мас.

Быт колгасьніка. Жыльлёвыя будынкі, зьмены ў хаце ў параўнаньні з пэрыодам да ўступленьня ў колгас. Вопратка, лазьня, організацыя грамадзкага харчаваньня. Укараненьне ў быт рэволюцыйных сьвят. Правядзеньне дня адпачынку. Рост культурных запатрабаваньняў: выпіска газэт, часопісаў, пакупка кніжок і г. д. Мэдычнае абслугоўваньне колгасу. Рэволюцыйныя сьвяты; масавыя вытворчыя сьвяты. Формы і мэтады масавай выхаваўчай работы ў сыстэматычнай барацьбе за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасу. Дапамога колгасу з боку раённых устаноў, сельсавету, настаўніцтва і інш. Уплыў колгасу на культурны рост аднаасобных працоўных мас сялянства.

---

# ЛІТАРАТУРА

Ленін—Як арганізаваць спаборніцтва (т. V. стар. 310).
" „О продовольственном налоге".
" Речь на Всероссийском с'езде земельных отделов, комитетов бедноты и коммун 11 декабря 1918 г. (том IV, стар. 431).
" Очередные задачи Советской власти (том IV, стар. 235—264).
1. Сталін— Адказы таварышом колгасьнікам.
2. " —Да аграрнай палітыкі ў СССР.
3. " —Галавакружэньне ад посьпехаў.
4. Молатаў і Кагановіч—речь на Украинской парт. конференции („Праўда" № 193 за 1932 г. 14/VII).
5. Якаўлеў—Даклад на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б).
6. Пастановы XVI зьезду аб колгасным будаўніцтве.
7. Новікаў—Бедната і батрацтва ў колгасным будаўніцтве.
8. Шэвякоў—Клясавая барацьба ў сучаснай вёсцы.
9. Асноўныя пытаньні суцэльнай колектывізацыі (дыскусія ў Комакадэміі).
10. Нікуліхін—Асноўныя пытаньні колгаснага руху („Бальшавік" за 1930 г. № 22 і 23).
11. Колгасцэнтр СССР—Новыя законы і пастановы аб колгасным будаўніцтве.
12. Пастановы 10 зьезду Саветаў БССР па дакладу аб колгасным будаўніцтве і даклады тт.: Галадзеда, Рачыцкага і Міцькова.
13. Пастановы VI Ўсесаюзнага зьезду саветаў аб колгасным будаўніцтве і даклады тт.: Якаўлева і Юркіна.
14. Пастанова Ўсесаюзнай нарады колгасьнікаў аб працы ў колгасах.
15. Прыкладны статут арцелі.
16. Пастановы ЦК УсеКП(б) аб барацьбе з скрыўленьнямі партлініі ў колгасным руху.
17. Якаўлеў—Аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў і разгортваньні колгаснага гандлю.
18. Пастановы XVII партконфэрэнцыі аб другой пяцігодцы.
19. Пастановы ЦК КП(б)Б аб другой пяцігодцы БССР.
20. Пастанова ЦК УсеКП(б) аб тэмпах колектывізацыі ад 2/VIII-1931 г.
21. Пастанова ЦК УсеКП(б) „аб чарговых мерапрыемствах па арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасаў" ад 4/II-32 г.
22. Пастановы ЦК УсеКП(б) „аб умацаваньні кіруючых кадраў колгасаў" ад 10/V-1932 г.
23. Пастановы ЦК УсеКП(б) „Аб захаваньні і разьвіцьці конскага пагалоўя" ад 27/V-1932 г.
24. Пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР „аб пляне хлебазагатовак з ураджаю 1932 году і аб разгортваньні колгаснага гандлю хлебам" ад 6/V-1932 г.
25. Аб пляне жывёлазагатовак і аб мясным гандлі колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян. Пастановы СНК СССР і ЦК УсеКП(б) ад 10/V-1932 г.
26. Аб парадку правядзеньня гандлю колгасаў, колгасьнікаў і працоўных аднаасобных сялян і зьмяншэньне налогу на гандаль сельска-гасп. продуктамі. Пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 20/V-1932 г.
27. Пастановы ліпнёўскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б (1932 г.).
28. Пастановы верасьнёўскага пленуму ЦК УсеКП(б) (1932).
29. " сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б (1932).
30. „Бальшавік" за 1932 г. артыкулы па арганізацыйнаму ўмацаваньню колгасаў і савгасаў і колгаснаму гандлю.
31. „Праўда" перадавыя па хлебазагатоўкам, савецкаму гандлю (1932 г.).

---

В. Самцэвіч

# Над чым трэба працаваць краязнаўчым організацыям у 1933 г.

Да гэтага часу навукова-дасьледчая работа краязнаўчых організацый знаходзілася далёка не на належнай вышыні, праводзілася выпадкова, бясплянава. У дасьледчую работу яшчэ вельмі слаба ўцягнуты былі працоўныя масы; ня было масавых дасьледчых паходаў, вылазак, экскурсій. Дасьледчая работа за рэдкімі выключэньнямі (Рэчыца, Асіпавічы) праводзілася паасобнымі краяведамі індывідуальна; колектыўныя формы работы (брыгады, групы, партыі) амаль адсутнічалі. Заданьні ЦБК паасобным раённым краязнаўчым організацыям у большасьці засталіся нявыканаными (Віцебск, Магілеў і інш.). Пляны дасьледчай работы, складзеныя самімі РБК і ячэйкамі, не рэалізаваны.

Вельмі часта прыходзіцца чуць, што дасьледчая работа на мясцох не разгортваецца з прычыны адсутнасьці сродкаў. Не адмаўляючы таго, што матар'яльная база адыгрывае вельмі значную ролю ў разгортваньні дасьледчай работы, усё-ж трэба адзначыць, што ня ў сродках галоўная прычына слабасьці дасьледчай работы на мясцох. У гэтым годзе атрымалася якраз наадварот: краязнаўчыя організацыі, якія мелі ў сваім распараджэньні даволі значныя сродкі (Віцебскае бюро краязнаўства—10 тысяч руб., Нараўлянскае—2 тыс. руб., Рагачэўскае—1 тыс. руб.) не правялі амаль ніякай навукова-дасьледчай работы (калі ня лічыць т. Шчуцкага, старшыні Віцебскага бюро кр-ва, які асабіста вёў навукова-дасьледчую работу) і ня выкарысталі сродкаў на разгортваньне краязнаўчага руху, а напр., краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім Пэдтэхнікуме правяла значную дасьледчую работу бяз усякіх сродкаў. Значыць, справа ня толькі ў сродках, а галоўным чынам, у адданасьці справе, у організацыі работы, у бальшавіцкай настойлівасьці, у выкананьні пастаўленых задач.

Каб атрымаць патрэбныя вынікі ў навукова-дасьледчай рабоце ў 1933 г., трэба абавязкова ўцягнуць у гэту работу праз краязнаўчыя ячэйкі шырокія працоўныя масы. Трэба, каб кожная краязнаўчая ячэйка і кожны краявед асабіста абавязкова і своечасова выконвалі пэўныя заданьні па навукова-дасьледчай рабоце, якія маюць актуальнае значэньне для социялістычнага будаўніцтва нашай краіны. Трэба, каб кожная краязнаўчая ячэйка, музэй, РБК абавязкова мелі ў 1933 г. пляны сваёй дасьледчай работы, зацьверджаныя адпаведнымі мясцовымі ўстановамі і ЦБК. Бясплянa-

васьць і стыхійнасьць у краязнаўчай рабоце павінны быць зжыты канчаткова.

Трэба дабіцца, каб за выкананьне кожнай тэмы і кожнага заданьня адказвалі перад партыйнымі, савецкімі і профсаюзнымі організацыямі і перад усёй савецкай грамадзкасьцю конкрэтна вызначаныя асобы. Само сабой разумеецца, што кожная краязнаўчая організацыя і кожны краявед маюць права разьлічваць на пэўную аплату належным чынам выкананага заданьня па дасьледчай рабоце. Але для гэтага трэба, каб работа праводзілася іменна ў плянавым парадку і каб кожная тэма была зараней узгоднена з адпаведнымі савецкімі, партыйнымі, гаспадарчымі, раённымі організацыямі і ЦБК, якое кіруе ўсёй краязнаўчай работай у БССР.

Партыя і савецкая ўлада надаюць такое вялікае значэньне навукова-дасьледчай рабоце, што кожная організацыя заўсёды можа на месцы дабіцца водпуску патрэбных для дасьледчай работы сродкаў. Але апрача таго, усім краязнаўчым організацыям трэба рашуча стаць на шлях заключэньня дагавароў з гаспадарчымі і навукова-дасьледчымі ўстановамі на выкананьне тых або іншых заданьняў. На заключэньне такіх дагавароў згаджаюцца некаторыя цэнтральныя і мясцовыя ўстановы і організацыі.[1] Адміністрацыя некаторых фабрык і заводаў, партыйныя і профсаюзныя організацыі таксама згаджаюцца адпусьціць неабходныя сродкі для організацыі вывучэньня гісторыі свайго прадпрыемства і яго дасягненьняў за 15 год дыктатуры пролетарыяту (ф-кі „Пролетарская перамога", „Кастрычнік" і інш.). Такім чынам, магчымасьці для разгортваньня дасьледчай работы ёсьць. Трэба толькі, каб усе краязнаўчыя організацыі і кожны савецкі краявед па-сапраўднаму, па-бальшавіцку ўзяліся за дасьледчую работу, якая мае надзвычайна вялікае значэньне ў вырашэньні задач другой пяцігодкі.

Прэзыдыум ЦБК, выходзячы з агульных конкрэтных задач соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР і заданьняў Акадэміі Навук БССР, вызначаў рад тэм для дасьледчай работы, на распрацоўцы якіх павінна быць сконцэнтравана ўся ўвага і ўся энэргія краязнаўчых організацый. Орган ЦБК—часопіс „Савецкая Краіна" ў першую чаргу будзе зьмяшчаць на сваіх старонках програмна-мэтодычныя артыкулы, інструкцыі і дасьледчыя матар'ялы як вынік распрацоўкі ніжэй паказаных плянавых заданьняў. Апрача таго, мяркуецца найбольш каштоўныя матар'ялы выдаваць асобнымі выданьнямі (зборнікі, монографіі).

Вось чаму вельмі важна і неабходна, каб ЦБК (яго навукова-мэтодычны сэктар) ведала, якая краязнаўчая організацыя (і асобныя краяведы), і над чым працуе, як пасьпяхова вядзецца работа, якія сустракаюцца перашкоды ў рабоце, якія ёсьць дасягненьні і калі работа будзе скончана. Толькі ў такім выпадку можна рэгуляваць работу, наладзіць абмен практыкай, даць належную і сваечасовую дапамогу, організаваць выданьне найбольш актуальных работ у першую чаргу і інш.



[1] У сучасны момант ЦБК вядзе падрыхтоўчую работу па заключэньню генэральных дагавароў з некаторымі цэнтральнымі дасьледчымі ўстановамі (Белгеоразьведка, Нав.-дасьл. рыбаводны інстытут і інш.).

**Асноўныя тэмы дасьледчай работы для краязнаўчых арганізацый на 1933 г.**

| №№ па парадку | Асноўныя тэмы дасьледчай работы | З кім увязваецца работа | | Хто прымае ўдзел | Арганізацыя і мэтод работы | Тэрмін |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У цэнтры праз ЦБК | У раёне | | | |
| 1 | Вывучэньне тарфяных масываў у БССР па кожнаму раёну асобна з характарыстыкай кожнага масыву (месцапалажэньне, плошча, глыбіня, характарыстыка торфу). | Белторфаб'яднаньне. | Райплян. | Краязнаўчыя арганізацыі (ячэйкі на прадпрыемствах) у саўгасах, калгасах, пры ВНУ, тэхнікумах, школах, настаўнікі. | Дасьледчыя экскурсіі, экспэдыцыі, брыгады, партыі, індывід. | Май — верасень. |
| 2 | Вывучэньне карысных выкапняў БССР у кожным раёне і па асобным маршрутам (праграма-інструкцыя друкуецца). | Белгеоразьведка, Геолёгічны інстытут АН | Базы і партыі Георазьведкі: Райплян. | Усе краязнаўчыя арганізацыі, школы, рабочыя, камсамольцы і г. д. | Дасьледчыя паходы, экскурсіі, анкеты, збор матар'ялаў, літаратурныя даныя, брыгады, групы, індывід. | Май — верасень |
| 3 | Лекавыя і дзікарослыя расьліны (ягады, грыбы і інш.) па асобным раёнам (паводле інструкцыі). | Інстытут харчовай прамысловасьці, Батанічны сад АН. | Райплян. | " | Дасьледчыя экскурсіі — асноўны мэтод. | Май — жнівень |
| 4 | Гарбоўныя расьліны БССР (згодна інструкцыі): збор і прысылка ўзораў для вывучэньня якасьці розных відаў гарб. расьл.; выяўленьне плошчы і запасаў. | Нав.-дасьл. інстытут прамысловасьці; Батанічны сад АН. | " | Асобныя брыгады краязн. арганізацый, калгасьнікі. | Экскурсіі. | " |

| №№ па парадку | Асноўныя тэмы дасьледчай работы | З кім увязваецца работа: У цэнтры праз ЦБК | З кім увязваецца работа: У раёне | Хто прымае ўдзел | Організацыя і мэтод работы | Тэрміи |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | Разьвядзеньне тутавіцы і шаўкоўніцтва ў БССР (па раёнам)—становішча і пашырэньне гэтае справы (досьледы). | Наркамлегпром; Батанічны сад АН. | Райколгассаюз, райплян. | Асобныя брыгады краязн. організацый, колгасьнікі | Станцыянарныя досьледы і экскурсіі, анкеты. | На працягу году. |
| 6 | Новыя с.-г. культуры ў БССР (соя, сарго, зямляная груша, вінаград і г. д.): пастаноўка спэцыяльных досьледаў на дасьледчых участках, вывучэньне папярэдняе практыкі. | Інстытут Біолёгіі АН, Колгасцэнтр. | " | Краязн. ячэйкі ў колгасах і савгасах, пры школах. | Стацыянарныя досьледы. | Красавік—верасень (асноўны пэрыод). |
| 7 | Вывучэньне глеб буйнейшых савгасаў і колгасаў (мэханічны і хэмічны склад, уплыў розных відаў угнаеньня і апрацоўкі на ўраджайнасьць розных с.-г. культур і г. д.). | Інстытут глебазнаўства. | Райколгассаюз, праўленьні адпаведных колгасаў. | Спэцыяльная краязнаўчая брыгада з удзелам агрономаў, школьныя краязн. ячэйкі. | " | Май—верасень. |
| 8 | Проблема падвышэньня ўраджайнасьці асноўных с.-г. культур у савгасах і колгасах (зернавых культур, лёну, бульбы). | Колгасцэнтр, Біолёгічны і глебазнаўчы ін-ты АН. | Райколгассаюз. | Краязн. ячэйкі ў колгасах, пры ШКМ, агрономы. | Стацыянарныя досьледы. | Сакавік—кастрычнік. |
| 9 | Краязнаўчае вывучэньне раёнаў (па програме; абавязкова для ўсіх краязнаўчых організацый). | Інстытут экономікі АН. | Раённыя організацыі. | Усе краязн. організацыі, савецкія, парт., гаспадарчыя, профсаюзныя і інш. організацыі. | Стацыянарныя і экспэдыц. досьледы, выкарыстаньне літар. даных і інш. | Студзень—жнівень. |

| №№ па парадку | Асноўныя тэмы дасьледчай работы | З кім увязваецца работа | | Хто прымае ўдзел | Арганізацыя і мэтод работы | Тэрмін |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У цэнтры праз ЦБК | У раёне | | | |
| 10 | Разьвіцьцё соц. жывёлагадоўлі ў раёнах: вывучэньне плянавых парод, іх мэтысаў і мясцовай жывёлы; выяўленьне кароў рэкордыстак; вывучэньне кармовай базы і г. д. | НКЗ, Колгасцэнтр. | Раённыя арганізацыі. | Усе краязн. арганізацыі, савецкія, парт., гаспадарчыя, профсаюзныя і інш. арганізацыі. | Стацыянарныя і экспэдыц. досьледы, выкарыстаньне літар. даных і інш. | На працягу году. |
| 11 | Вывучэньне эканомікі раёнаў і іх спэцыялізацыі (па праграме). | Дзяржплян, Ін-т эканомікі АН | Райплян. | Спэц. брыгады РБК. | Экспэдыцыі, літар. матар'ялы. | " |
| 12 | Монографічнае вывучэньне фабрык і заводаў, савгасаў, МТС, колгасаў (паводле праграм). | Наркамцяжпром і Наркамлёгпром, Колгасцэнтр, Інстытуты эканомікі і гісторыі АН. | Раённыя арганізацыі і адпаведныя прадпрыемствы, савгасы, колгасы. | Краязн. ячэйкі, спэц. брыгады, рабочыя, колгасьнікі, інжын.-тэхн. работнікі, агрономы. | Стацыянарныя досьледы, экскурсіі. Брыгады. | " |
| 13 | Організацыя працы ў колгасах. | Колгасцэнтр, Колгасны ін-т. | Райколгассаюз. | Колгасныя краязн. ячэйкі, спэц. брыгады РБК, агрономы. | " | " |

| №№ па парадку | Асноўныя тэмы дасьледчай работы | З кім увязваецца работа: У цэнтры праз ЦБК | З кім увязваецца работа: У раёне | Хто прымае ўдзел | Організацыя і мэтод работы | Тэрмін |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 14 | Клясавая барацьба на вёсцы ў новых ўмовах соц. будаўніцтва. | Інстытут гісторыі | РК КП(б)Б | Колгасныя краязн. ячэйкі, спэц. брыгады РБК, агрономы. | Непасрэдны ўдзел у соц. будаўніцтве, экспэдыцыі. | На працягу году |
| 15 | Культурна-бытавыя ўмовы ў колгасах. | Колгасцэнтр, Сэкцыя этнографіі АН. | РК КП(б)Б, Райколгассаюз, РАНА. | Колгасныя і школьна-краязн. ячэйкі, брыгады РБК. | " | " |
| 16 | Вывучэньне ўнутрыраённых шляхоў зносін у сувязі з стварэньнем новых індустрыяльных цэнтраў і соцыялістычнай перабудовай вёскі (рэчныя, шосэйныя і грунтовыя шляхі). | Дзяржплян, Белдотранс і інш. | Райплян. | " | Экскурсіі, стац. досьледы і інш. | " |
| 17 | Разьвіцьцё савецкага гандлю ў БССР і ў паасобных раёнах. | Інстытут экономікі АН. | " | " | " | " |
| 18 | Вывучэньне мовы рабочых, колгасьнікаў і раённага друку. | Інстытут мовы АН. | " | Настаўнікі-краяведы, школы, рабочыя, колгасьнікі, газэтныя работнікі. | " | " |

Тут паказаны толькі асноўныя проблемы і тэмы дасьледчай работы, вызначаныя плянам ЦБК. Зусім зразумела, што краязнаўчыя організацыі могуць узяць для распрацоўкі і іншыя тэмы, якія маюць актуальнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва, выходзячы з задач пяцігадовага плану свайго предпрыемства, савгасу, колгасу, раёну, рэспублікі. З усіх вызначаных тэм трэба ў першую чаргу ўзяцца за вывучэньне прыродных багацьцяў свайго раёну і пытаньня падвышэньня ўраджайнасьці, бо гэта задача зьяўляецца баявой, ударнай задачай для ўсіх краязнаўчых організацый у даны пэрыод.

Партыяй і ўрадам на краязнаўчыя організацыі ўскладзены вялікія і адказныя задачы—у хутчэйшы тэрмін разгаруць масавую дасьледчую работу, уцягнуўшы ў гэту работу шырокія працоўныя масы, вывучыць нашы прыродныя багацьці, энэргетычныя і сыравінныя рэсурсы кожнага раёну, дасягненьні на фронце гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, каб даныя навукова-дасьледчай работы шырокіх працоўных мас выкарыстаць у мэтах яшчэ большага паскарэньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Усе краязнаўчыя організацыі, усе краяведы павінны мобілізаваць свае сілы на організацыю плянавай і сыстэматычнай дасьледчай работы. Плян гэтай работы павінен быць узгоднены з адпаведнымі мясцовымі організацыямі і зацьверджаны ЦБК пры Акадэміі Навук БССР, якая плянуе і кіруе ўсёй навукова-дасьледчай работай у БССР.

Усе неабходныя інструкцыі, програмы, мэтодычныя ўказаньні і консультацыю па распрацоўцы тэм краязнаўчай работы можна атрымаць ад ЦБК непасрэдна або ад адпаведных навукова-дасьледчых інстытутаў (праз ЦБК).

Усе краязнаўчыя організацыі, асобныя краяведы, настаўнікі, рабочыя і колгасьнікі, музэйныя работнікі, агрономы і інш. павінны абавязкова ўстанавіць самую цесную сувязь з ЦБК па пытаньням організацыі дасьледчае работы (організацыі экспэдыцый, дасьледчых паходаў, дасьледчых станцый і г. д.) і распрацоўкі асобных тэм і заданьняў.

# РЭЦЭНЗІІ

У. Прыбыткоўскі

## Да пытаньня аб племянной справе

*(Заўвагі на арт. А. Сяргеева ў „Савецкай Краіне“ № 6)*

Па-першае, мы ня можам лічыць правільнай думку т. Сяргеева, па якой ва ўмовах БССР мы павінны займацца і разводзіць толькі тыя пароды, якія праверaны практыкай мінулага. Гэта можна ілюстраваць наступнымі вытрымкамі: „як ні багаты гэты зоопарк (пародны склад буйн. рагатай жывёлы БССР VII) быў на віды, але-ж як-быццам остфрызаў у нас пакуль амаль што ня было“ (стр. 49). А на стар. 52: „фактычна ніхто нічога пра остфрызаў у нас ва ўмовах БССР сказаць ня можа. Ня было практыкі ў гэтым кірунку, чаму і гаварыць што-небудзь аб гэтым можна апрыоры. Раючы ў якасьці паляпшаючай пароды для БССР остфрызаў, новы проект пароднага райёнаваньня і падыходзіць да разьвязваньня гэтага пытаньня, на нашу думку, тэорытычна“.

Больш нічога т. Сяргееў пра остфрызаў не сказаў, што мела-б значэньне, вартае ўвагі. Незразумела нам слова „тэорытычна“. Нібыта да пытаньне трэба падыходзіць ці можна падыходзіць без тэорыі. Калі-ж гэта слова мае на мэце атсутнасьць практыкі з остфрызамі ў мінулым, то і ў гэтым выпадку заўвагі т.Сяргеева пазбаўлены навукова-вытворчага сэнсу.

Амэрыканцы не разважалі падобна т. Сяргееву, а праз акіян везьлі да сябе остфрызаў, голяндзкую пароду, гэтыя славутыя на ўвесь сьвет расы, і дзякуючы такому мерапрыемству і далейшай сэлекцыі на базе рацыянальнага кармленьня і догляду у амэрыканцаў могуць цяпер павучыцца і голяндцы і немцы. Ці думае т. Сяргееў, што амэрыканцы падыходзілі „да разьвязваньня гэтага пытаньня... тэорытычна“. Мы думаем, што канечне трэба аб'яднаць: „а) русский революционный размах и б) американскую деловитость“. (И. Сталин. Об основах ленинизма). Мы павінны вырашыць гэту справу тэорытычна ў марксысцкім сэнсе, г. зн. мы павінны гэтыя думкі безадкладна практычна рэалізаваць. Мы павінны накіраваць сваю энэргію, арганізаваць справу так, каб максымальна скарыстаць завезеных у БССР остфрызаў (гэтых

акумулятараў векавой культуры) у справе соцрэконструкцыі жывёлагадоўлі, у справе стварэньня *высока продукцыйнай пароды* на базе рашучага змаганьня за добрае кармленьне, правільную мэтызацыю і сэлекцыю.

Вось у чым, на маю думку, *наша* тэорыя і практыка.

Перада мной нямецкі часопіс: „Deutsche Landwirtschaftliche Tierzucht“ ад 5 сакавіка 1932 г. Перада мною портрэт годнай і на малако і на мяса, *остфрыскай* прэм'яванай каровы „Гертруды“, якая за 365 дзён дала 13.819 кг малака з 4,44% тлушчу, а ўсяго за год 613 кг малочнага тлушчу.

Мы чытаем у гэтым часопісе: „шматлікія стады паказваюць сярэдняю гадавую вышэй 6.000 кг малака з сярэднім % тлушчу ад 3,5 і вышэй, а сярэдняя гадавая продукцыйнасьць вельмі многіх вялікіх жывёлаводчых аб'яднаньняў па буйной рагатай жывёле пры звычайным утрыманьні ляжыць вышэй 4.000 кг малака з 3,3% тлушчу“. Бясспрэчна, тут гаворыцца аб лепшай остфрыскай малочнай жывёле, але гэта паказвае, што можа даць остфрыская парода толькі ня пры ўмовах „мінулай практыкі“, а пры ўмовах, якія ствараюцца і павіны быць створаны для ўсякай высокапродукцыйнай пароды. Остфрыская высокапродукцыйная парода ня можа зьяўляцца выключэньнем.

Тав. Сяргееў піша: „многа прыходзіцца чуць і пра тое, што голяндзкая парода зьяўляецца пародай і найменш ўстойлівай супроць сухотаў“. Тав. Сяргееў нічога не гаворыць пра тое, дзе гэта было, калі, у якіх умовах?! А ў „азіяцкіх“ умовах „мінулага“ ангельцы ці былы ўстойлівы супроць сухоты?! Ці былі швіцы ўстойлівы супроць сухотаў?!

А вось перада мною, той самы нямецкі часопіс, у якім апісваюцца лепшыя сучасныя пароды Германіі, і мы чытаем: „выстаўкі нямецкіх с/г. таварыстваў за апошнія дзесяткі год, а таксама шматлікія сельскія і провінцыяльныя агляды далі выдатны малюнак высокай ступені разьвіцьця, на якой стаіць у Германіі расплод чорна-белай гольштынскай, або фрыскай раўніннай буйной рагатай жывёлы. Чорна-белае раўніннае быдла, дзякуючы яго высокай продукцыйнай здольнасьці, назвычайна пашырылася ў Германіі і выцясьніла іншыя пароды, так-што можна проста гаварыць аб перамозе чорна-рабой раўніннай буйной рагатай жывёлы. Колькасьць жывёлы, у сучасны момант занесенай у племкнігі раўніннай буйной рагатай жывёлы, дасягае 437.322 галоў; гэта складае 60,5% усей БРЖ, занесенай у племкнігі лепшымі (прызнанымі anerkannten) нямецкімі жывёлаводнымі аб'яднаньнямі“.

Гэта якраз тт. і гаворыцца пра остфрыскую пароду.

Бясспрэчна, у остфрыскай пароды сярэдні % тлушчу будзе ніжэйшы, чым у нашых прымітыўных парод, але гэта неабавязкова для кожнай каровы паасобку. Мы ўжо прыводзілі адну высокапродукцыйную карову „Гертруду“ з 4,44% тлушчу. На другой старонцы перад намі ўсходня-пруская (остфрыская) голяндэрка „Далія“. Яе продукцыя за год 11.691 кг малака з 4,36% тлушчу. Усяго за год малочнага тлушчу 510 кг.

Мы зьвяртаем увагу чытачоў на агульную колькасьць малочнага тлушчу за год памянёнай раней каровы 613 кг, а ў „Даліі“— 510 кг. Ці-ж ня ясна, што 2.000 кг 3% малака лепш чым 1.000 кг. 4%. А калі прыняць пад увагу бялкі, цукар, то перавага 3% 2.000 кг малака павялічваецца.

Таксама, хто і што нам можа перашкодзіць разгарнуць сыраварэньне і праславіцца сваім сырам, як некалі праславіліся тыя-ж самыя голяндцы. Куляшоў піша: „Сотні караблей прыяжджалі ў Голяндыю за маслам і сырам“.

Я таксама лічу, што наш „масьляны кірунак“ ані не супярэчыць магчымасьцям, якія павінны стаць реальнасьцю па сыраварэньню.

Няправільна думаць, што „трымаць карову з удоем у 2.400 літраў пры 5% тлушчу карысьней, чым карову з 4.000 літраў удою пры 3% тлушчу“. Якраз тая-ж калёрымэтрычная каштоўнасьць малака, аб якой ніжэй памінае т. Сяргееў, гаворыць супроць такой няправільнай думкі.

Гэту заўвагу мы закончым указаньнем на тое, што голяндкая парода выявіла сябе, як малочная парода лепш за ўсе існуючыя на зямлі пароды. А. М. Дзіомідаў піша: „Известность голландского скота, как наиболее молочнай породы, заставила широко вывозить его буквально во все уголки земного шара. Нет другой породы крупного рогатого скота, которая получила-бы такое распространение, как голландская. Жывотные этой породы приняли участие в образовании и ряда других пород, как напр., шортгорнская, айрширская, холмогорская, бестужевская, красная немецкая і т. д. В некаторых странах образовались огромые массивы животных этой породы, обладающие продуктивностью не только не меньшей, а даже большей, чем в самой Голландии. Такие массивы особенно значительны в САСШ и в Восточной Прусии“. (Плановые породы крупного рогатого скота СССР, стар. 28-29).

А ў Куляшова: „Замечательно то, что как голландский скот, разводимый в Америке, так и голландский скот, разводимый в Англии, дает молоко с большим содержанием жира, чем голландский скот на его родине“. А чаму ў нас ня можа быць так.. Сам-жа т. Сяргееў на стар. 51 піша, „што карэляцыі паміж удоем і колькасьцю тлушчу няма. Адгэтуль наша задача племсправы ясная: захаваць % тлушчу нашых прымітыўных парод і ўзьняць да остфрыскай малочную продукцыйнасьць. Такая задача павінна стаяць перад сэлекцыяй на бліжэйшыя гады. А там—пойдзем далей. І калі т. Сяргееў гаворыць, што: „мэтызуючы нашу мясцовую жывёлу, якая дае малако ў сярэднім з 4% тлушчу з голяндзкай пародай з невялікім % тлушчу, мы можам пры гэтым даволі хутка зьнізіць процант тлушчу“. У такім выпадку мы можам толькі запытацца: „для чаго існуе сэлекцыя і сэлекцыянэры“? Сам-жа т. Сяргееў піша: „за межамі з асаблівай упартасьцю змагаюцца за кожную дзесятую долю процанту тлушчу“. А што-ж у нас? Дзе створаны і ствараюцца сапраўдныя бязьмежныя ўмовы для сэлекцыі, дзе затрачваюцца вялікія сродкі на імпорт

племяннай буйной рагатай жывёлы—што-ж у нас павінны рабіць зоотэхнікі і сэлекцыянэры?.

Па-другое,—нічога не сказаўшы пра патрэбу скарыстаньня і характар скарыстаньня остфрызаў, т. Сяргееў перайшоў да вельмі старых разважаньняў аб двух „грунтоўных відах паляпшэньня мясцовай жывёлы". А ў нас ёсьць адзін шлях—шлях мэтызацыі на грунце магутнай кармовай базы, правільнага догляду і максымальнага ўліку, выяўленьня і скарыстаньня мясцовых рас, мясцовых фондаў буйной рагатай жывёлы. „Разглядаючы продукцыйнасьць нашай жывёлы не адарвана ад тых конкрэтных жыцьцёвых умоў, у якіх расла і разьвівалася гэтая мясцовая жывёла, мы павінны з усёй катэгорычнасьцю заявіць, што сапраўднай малочнай продукцыйнасьці нашай буйной рагат. жывёлы мы ня ведаем"—піша т. Сяргееў (стар. 53). далей: „як-бы ні быў высок генотып той ці іншай каровы, але пры дрэнных умовах кармленьня і ўтрыманьня жывёлы вымагаць ад яе вялікіх удояў ня прыходзіцца". Тав. Сяргееў і ня думае, што гэтыя, самі па сабе правільныя заўвагі, не вырашаюць пытаньня переваги пароды ў тым разрэзе, якімі мы цікавімся. Якраз тыя „конкрэтныя жыцьцёвыя ўмовы" і ёсьць гаспадарчыя і прыродна-гісторычныя фактары, да якіх прыстасавана гэтая мясцовая жывёла, як пэўная біолёгічная організацыя. Гэта пэўная біолёгічная організацыя, гэта мясцовая карова, лепшая, больш трывалая ў „азіяцкіх" „конкрэтных жыцьцёвых умовах" галоднага мінулага—ні ў якім разе не здавальняе высокакультурным, соцыялістычным, гаспадарчым умовам. І па лініі жывёлагадоўлі мы павінны ўвабраць усё лепшае ад „буржуазнай культуры", у даным выпадку, у вобразе высокапродукцыйнай малочнай жывёлы пароды ў соцыялістычную культуру, у соцыялістычную жывёлагадоўлю.

Генотып ізолявана ня існуе. Генотып—гэта норма рэакцыі жывога організму, спадчынная структура жывога організму, якая выяўляецца і пазнаецца па фэнотыпу самой жывёлы і фэнотыпам патомкаў, у даным выпадку па сукупнасьці ўсіх якасьцяў і асабліва па малочнай продукцыйнасьці. Крытэры сэлекцыянэра ня толькі малочная продукцыйнасьць продкаў, самой каровы і яе патомкаў, але і іншыя якасьці: здароўе, хуткасьпеласьць, мясныя якасьці. Так ці-ж ня ясна, што нормы рэакцыі на тыя-ж самыя ўмовы ў розных парод розныя. Так ці-ж ня ясна, што ў дрэнных умовах перавага за прымітыўнай пародай, а ў добрых умовах за культурнай, высокапродукцыйнай. Груба кажучы: нормы рэакцыі прымітыўнай пароды такія, што спрыяюць пераводу корму ў „скуру", каб змагацца зімой з марозам, а ў культурнай пароды біолёгічныя законамернасьці цела больш спрыяюць пераводу корму ў малако. І тое і другое ёсьць вынік пэўнага гістарычнага разьвіцьця пэўных конкрэтных умоў. Бясспрэчна, праведзены прыклад—вельмі адносны, але ім мы толькі хочам адзначыць спэцыфіку парод, паказаць, што добра і дэнна і тое і другое, але ў пэўных умовах.

Мы можам ілюстраваць гэта агульнае разважаньне конкрэтнымі прыкладамі.

Кендліш у кнізе „The feedingof dairycattle“ (кармленьне малочнага быдла) прыводзіць рэакцыю аднэй і тэй-жа прымітыўнай пароды на зьмененыя добрыя ўмовы кармленьня і ўтрыманьня ў розных узростах. Каровы, пастаўленыя ў добрыя ўмовы дарослымі, далі сярэднюю продукцыю — 3.168,7 анг. фунтаў малака і 153,04 анг. фунтаў тлушчу. Тыя-ж прымітыўныя каровы, пастаўленыя ў такія-ж добрыя ўмовы, калі ім было па 4 гады, далі сярэднюю продукцыю—3.507,7 анг. ф. малака і 166,36 анг. фун. тлушчу. Той-жа прымітыўнай пароды цяляты, якія расьлі ў гэтых добрых умовах, далі сярэднюю продукцыю—4.036 анг. фун. малака і 191,21 анг. ф. тлушчу. Бачым павялічэньне па малаку на 14 і 27% і адпаведна па тлушчу 8 і 24%.

У таго-ж Кендліша (Candlish) на стар. 5-6 прыведзены тры фотографіі. На першай паказана карова прымітыўнай пароды з сярэдняй гадавой продукцыяй у 3.313,2 анг. фун. малака і 178,47 фун. тлушчу. На другой фотографіі паказана дачка ад паманёнай прымітыўнай каровы і гольштынскага (остфрыскага) быка з сярэдняй гадавой продукцыяй у 6.306,2 анг. ф. малака і 287,74 анг. ф. тлушчу. На трэцяй фотографіі паказана дачка нашай палукроўкі (унучка той-жа прымітыўнай) і гольштынскага (остфрыскага) быка з сярэдняй гадавой продукцыяй у 10.428,3 анг. ф. малака і 460,73 анг. ф. тлушчу.

Цяпер, таварышы, параўнаем, што можа даць рацыянальны, правільны догляд і кармленьне—і што могуць даць правільныя догляды і кормленьне плюс мэтызацыю высокапродукцыйнымі быкамі гольштынскай (остфрыскай) пароды.

У выніку паляпшэньня ўмоў:

малака (анг. фун.) 3.168,7—3.507,7—4.036.
тлушчу (анг. ф.) 153,04—166,36—191,4,
У выніку добрых умоў плюс разумная мэтызацыя:
малака (анг. ф.) 3.313,2—6.306,2—10.428,3.
тлушчу (ан. ф.) 178,47—287,74—460,73.

Мне здаецца, што лічбы самі за сябе ўсё сказалі. Бясспрэчна, калі мэтызаваць абы чым, то ніхто не гарантуе, што атрымаюцца вынікі горшыя, чым толькі ад паляпшэньня ўмоў утрыманьня. Ніколі пароды *наогул* нельга фэтышызаваць. Добрая карова абыякой прымітыўнай пароды больш дасьць малака, чым горшая карова культурнай пароды.

Па-трэцяе, т. Сяргееў надзвычайна блытае такія практычныя і тэорытычныя разуменьні, як генотып і фэнотып і гэтым самым можа зьбіць з панталыку зоотэхніка-практыка. Тав. Сяргееў піша: „гаворачы на мове генэтыкаў, іх запатрабаваньні зводзіліся да таго, каб кожны добры фэнотып аднначасна пры гэтым быў і добрым генотыпам. Запатрабаваньне, бязумоўна, неабгрунтаванае“. Выходзіць на „мове генэтыкаў“ т. Сяргеева, што „дрэнны“ генотып можа быць „добрым“ фэнотыпам. Тав. Сяргееў зноў абсолютна супроцьстаўляе генотып—фэнотыпу. Т. Сяргееў не зразумеў, што гэта адзіны організм, тым больш калі ўлічыць спадчынныя асаблівасьці малочнасьці. Ня спыняючыся на тэрмінах „добры“, „дрэнны“ генотып—фэнотып, якія складаюць мову генэ-

тыкаў, т. Сяргееза,—заўважым толькі, што „добры“ фэнотып на 5.000—10.000 літраў малака абавязкова павінна лічыцца „добрым“ генотыпам. Іншая справа, што ён можа быць больш-менш гетэразіготны (гомазіготны па малочнасьці генотып практычна ніколі быць ня можа), але калі карова дае 5.000—10.000 літраў малака, то генотып абавязкова „добры“.

Такую вульгарызатарскую, мэтафізычную мову т. Сяргееў, як відаць, узяў у профэсара Лемуса, які на Всероссийской нарадзе па племянной справе задаў такое пытаньне: „хіба гены шматмалочнасьці прысутнічаюць толькі ў адных замежных пародах, толькі ў голяндзкіх каровах?“ і тут-жа дае адказ: „Не, ня можа быць, каб расійская карова ня мела генаў шматмалочнасьці, гэта парода ня можа зьявіцца выключэньнем“ (стар. 56).

Зноў старое пытаньне, на якое можна адказаць „генэтыку“ проф. Лемусу і т. Сяргеву, што паміж „генамі“ голяндзкай і расійскіх парод—такая-ж розьніца як паміж голяндзкай і расійскімі пародамі. Спрэчкі па гэтаму пытаньню нас завялі-б дужа далёка. Адзначым толькі, што, як і ўсё на сьвеце, гены маюць сваю гісторыю, у кожнай пароды і ў кожнага організму яны інакшыя і ні ў якім разе пароду нельга разглядаць асобна ад „генаў“. На вялікі жаль, проф. Лемус і т. Сяргееў не разумеюць прыроды гену з дыялект.-матар'яліст. позыцыі і ўяўляюць гены груба мэханістычна. Для іх парода, карова—футарал, шкатулка, у якой могуць быць незалежна ад пароды, каровы—любыя комбінацыі „генаў“.

Сам Сяргееў лемусаўскую „мову генэтыкаў“ пазбаўляе сэнсу наступнай даведкай: „аб гэтым гаворыць і гісторыя голяндзкай, дацкай і г. д. жывёлы, якія яшчэ ня больш, як 60 ці 70 год таму назад нічым нд адрозьніваліся ад нашай жывёлы“. Значыць, парода ўтвараецца на працягу дзесяткаў, соцен год шляхам адбору мутантаў і выяўленьня іх адпаведнымі ўмовамі. А нам трэба праз пяць год падвоіць, патроіць спажываньне працоўнымі масамі продукцыі, пабудаваць бясклясавае грамадзтва, так што 60 ці 70 год „замнога“. І хоць, праўда, „што ў асобе чырвона-беларускай жывёлы мы маем каштоўную мясцовую пароду... што пры ўмове належным чынам пастаўленай племработы гэтая жывёла сапраўды зможа аформіцца ў высокапродукцыйную пароду“; і хоць гэта так ня толькі для чырвона-беларускай пароды, а для любой на ўсёй зямлі пароды—усё-ж такі 60—70 год чакаць нельга і калі ёсьць магчымасьць мэтызацыі высокапродукцыйнымі быкамі—дык гэта трэба толькі вітаць і практычна ажыцьцяўляць. Тым больш, што па гэтаму пытаньню ёсьць дырэктывы ўраду і на імпорт племжывёлы трацiцца, так званая, валюта. І мы цалкам згодны з тав. Сяргеевым, што: „побач з замежнымі пародамі ў вырашэньні жывёлагадоўчых проблем павінны быць скарыстаны і нашы галоўныя лепшыя мясцовыя групы парод“. Іначай і ня можа быць.

Нарэшце, чацьвертае: а) мы ня згодны з т. Сяргеевым адносна мэтоду скарыстаньня каштоўных, калі яны сапраўды каштоўныя, ангельцаў і дацкіх быкоў. Дзякуючы таму, што іх мала, т. Сяргееў раіць мэтод прыліцьця крыві. Якраз наадварот. Калі мы ўпэў-

нены ў каштоўнасьці гэтых быкоў, то абавязкова трэба ўжываць мэтоды інбрыдынгу і грэдынгу; б) мы лічым пазбаўленай сэнсу фразу аб тым, што мэтысы паміж ангельцамі і чырвона-беларускай жывёлы дзякуючы іхняй розьніцы ў ступені культурнасьці „ня будуць гармонічны ў сваім складзе, бо расшчапленьне адзнак у патомстве будзе сказвацца даволі рэзка“. Якраз гэтая негармонічнасьць можа стаць гармонічнасьцю, можа даць новую пароду. І гэта пытаньне вырашаецца толькі экспэрымэнтам, толькі практыкай.

З свайго боку мы лічым патрэбным дадаць, што:

1) асабліва на даным этапе пачатку разгортваньня племсправы, сэлекцыі ў БССР трэба ўзьняць тэорытычны ровень зоотэхнікаў;

2) гэта можа быць пасьпяхова выканана пры ўмове арганізацыі пэрыодычнага органу друку „За соцыялістычную жывёлагадоўлю“, праз які можна было-б узьнімаць тэорытычны ровень зоотэхнікаў, вырашаць запатрабаваньні вытворчасьці, наладзіць абмен практыкаю савгасаў і колгасаў па лініі буйной рагатай жывёлы, сьвінагадоўлі, каняводзтва, аўчарства, птушніцтва, трусаводзтва і г. д., скарыстаць і згуртаваць навуковых работнікаў вакол задач партыі і ўраду, узьняць ініцыятыву і вучобу масавых нізавых кадраў;

3) мы перасьцерагаем ад фэтышызацыі пароды *наогул* бяз уліку, выяўленьня і праверкі *кожнага* быка і каровы;

5) мы лічым, што калі гавораць пра чырвона-беларускую карову, то забываюць чорную, рабую, белую, таксама беларускіх кароў, і часта лепшых ад чырвоных. Трэба разьбіць гэтыя забабоны;

5) мы лічым, што савецкая малочная парода павінна ўтварацца незалежна ад масьці, рагоў, насавога люстэрка ды інш. непатрэбшчыны, а толькі па малочнасьці, тлушчамалочнасьці, мяснасьці і здароўі;

6) усе мерапрыемствы племсправы можна выканаць толькі на аснове арганізацыі дзяржаўнай сэлекцыйнай сеткі, прыстасаванай да адміністрацыйна-гаспадарчага падзелу соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Усё павінна быць цэнтралізавана ў моцных навуковабальшавіцкіх руках НКЗему.

Мы спыніліся на артыкуле т. Сяргеева толькі як на адным з прыкладаў няправільных з нашага пункту погляду разуменьняў некаторых тэорытычна-практычных пытаньняў.

Гэта ні ў якім разе ня зьніжае важнасьці тых пытаньняў, якія т. Сяргееў першы ставіць на абгаварэньне ў друку БССР.

---

Акад. Н. М. Нікольскі, А. Н. Ляўданскі і М. Я. Грынблят

(Брыгада Інстытуту гісторыі АН)

# Супроць халтуры, упрашчэнства і вульгарызатарства ў складаньні падручнікаў

Г. Я. Каханоўскі, І. П. Лубоўскі, Е. І. Няразік і А. І. Сінявока. Падручнік гісторыі для 5-й клясы ФЗС і ШКМ, ч. І. Менск, ДВБ. Вучпэдсэктар, 1932 г., с. 83. Тыраж 50.000. Ц. 40 к., а ў продажы 70 к.

---

У гістарычнай пастанове ЦК УсеКП(б) аб пачатковай школе ад 5/IX 1931 г. быў падкрэсьлены карэнны недахоп школ, які заключаецца ў тым, што „навучаньне ў школе не дае выстарчальнага аб'ёму агульна-асьветных ведаў і нездавальняюча вырашае задачу падрыхтоўкі для тэхнікумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія добра ўладаюць асновамі навукі". Апошняя пастанова ЦК „Аб навучальных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе" за 25/VIII 1932 г., адзначаючы значныя дасягненьні школы за апошні год, указвае, аднак, што карэнны недахоп школы да канца яшчэ і да гэтага часу ня зьнішчаны. У прыватнасьці адным з асноўных недахопаў програм зьяўляецца „невыстарчальнасьць гістарычнага падыходу да програм па грамадзкім прадметам, якая выяўляецца ў тым, што ў іх надзвычайна слаба даецца ўяўленьне аб гістарычным мінулым народаў і краін, аб разьвіцьці чалавечага грамадзтва і г. д." У сувязі з гэтым у разьдзеле аб навучальных програмах ЦК прапануе „значна ўзмацніць элемэнты гістарызму ў програмах па грамадазнаўству, па мове і літаратуры, геаграфіі, ілюструючы асноўныя разьдзелы і тэмы гэтых дысцыплін неабходным фактычным матар'алам, гістарычнымі экскурсамі і параўнаньнямі".

Пастанова ЦК, такім чынам, абавязвае пашырыць элемэнты гістарызму ў выкладаньні грамадазнаўства. Вучань у школе павінен атрымаць асноўныя веды аб адзіным гістарычным працэсе, аб ходзе разьвіцьця чалавечага грамадзтва, аб зьмене соцыяльна-экономічных формацый. Зусім зразумела, што школа адчувае вострую патрэбу ў добраякасным падручніку гісторыі, укладзеным на аснове марксысцка-ленінскага разуменьня гістарычнага працэсу з выкарыстаньнем апошніх дасягненьняў нашай гістарычнай навукі. Разам з гэтым пастанова ЦК указвае на неабходнасьць „у вучэбных програмах па грамадазнаўству, літаратуры, мовах, геаграфіі і гісторыі ўвесьці важнейшыя веды, якія датычаць

нацыянальных культур народаў СССР, іх літаратуры, мастацтва, гістарычнага разьвіцьця, а таксама і элемэнты краязнаўства СССР". Пытаньням перабудовы масавай школы і ВНУ, якасьці програм і падручнікаў значнае месца адведзена і ў пастановах апошняга сьнежаньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

Кожны новы падручнік гісторыі павінен адпавядаць асноўным дырэктыўным запатрабаваньням ЦК нашай партыі. Ці здавальняе гэтыя запатрабаваньні разгляданы намі падручнік для школ? На жаль, трэба сказаць, што не. Пяройдзем да яго разгляду.

Падручнік мае пяць разьдзелаў, якія ахопліваюць першую стадыю разьвіцьця чалавечага грамадзтва—даклясавую грамаду ці першабытны комунізм і грамадзтва рабаўласьніцкае.

Адным з буйнейшых недахопаў падручніка трэба лічыць тое, што напісаны ён без прыцягненьня конкрэтных матар'ялаў і фактаў. Ня гледзячы на тое, што падручнік прызначаны для беларускіх школ, у ім зусім адсутнічае матар'ял, які датычыць Беларусі, даныя, якія характарызуюць першабытнае насельніцтва нашай тэрыторыі (дзе ўжо знойдзены і дасьледваны сотні стаянак і селішч даклясавага грамадзтва, пачынаючы з часоў эпохі маманта), зусім ня прыводзіцца багацейшы матар'ял, здабыты і сабраны нашымі навукова-дасьледчымі ўстановамі (Інстытутам гісторыі АН, дзяржаўнымі і краязнаўчымі музэямі, краязнаўчымі організацыямі і інш.) і ў значнай колькасьці апублікаваны. Нават ілюстрацыі, якія прыводзяцца ў падручніку, падабраны зусім выпадкова, у большасьці няўдала і ў значнай частцы незразумелы для вучняў (а можа і для аўтараў падручніка) і большасьць з іх фактычна нічога не дае, ня ўсюды даны нават тлумачэньні да малюнкаў. І тут таксама зусім ня прыводзіцца мясцовы матар'ял (розныя прылады вытворчасьці, пасуда, тканіна і інш., знойдзеныя пры раскопках на тэрыторыі БССР). Ва ўсім падручніку аб Беларусі памінаецца толькі адзін раз Менск, адкуль „сучасны чалавек" слухае „гутарку на радыё" (с. 9), што ў БССР „таксама знойдзены каменныя прылады" (с. 40) і што пераж‌ыткі мінулага ёсьць і ў беларускай вёсцы (с. 11). Вось і ўсё. Пісаць падручнік „наогул", без увядзеньня даных, „якія датычаць нацыянальных культур народаў СССР", а таксама элемэнтаў краязнаўства, значыць—ігнараваць важнейшую дырэктыву партыі.

Другім буйным недахопам падручніка зьяўляецца ўпрашчэнцкавульгарызатарскае выкладаньне фактаў, што ў пастанове ЦК было падкрэсьлена ў адносінах да програм. Ва ўсім падручніку выразна выступае поўнае невуцтва аўтараў, маецца цэлы рад політычнашкодных, прынцыповых і фактычных памылак, што тлумачыцца няведаньнем прадмету і матар'ялаў з боку аўтараў. Прывядзем прыклады. Аўтары, зусім правільна зазначаючы, што „клясавая барацьба—гэта і ёсьць зьмест гісторыі клясавага грамадзтва" (с. 4.), зусім абыходзяць пытаньне аб зьмесьце гісторыі даклясавага грамадзтва, калі ня было яшчэ клясаў, а, значыць, і клясавай барацьбы. Процістаўляючы капіталізму комунізм, аўтары зусім абыходзяць першую фазу комунізму—соцыялізм (с. 8-9). Не адзначаны важнейшы момант мажлівасьці пераходу да соцыялізму, мінуючы капіталістычную стадыю разьвіцьця, што мы ў сапраўднасьці маем у нас

у адносінах да адсталых народаў усходу і крайняй поўначы СССР.

Пры пералічэньні крыніц да пазнаньня жыцьця першабытнага чалавека ня ўказваюцца асноўныя месцазнаходжаньні помнікаў матар'яльнай культуры (гарадзішчы, селішчы, стаянкі і інш.).

Разьдзел „Як зьявіўся чалавек", які павінен быць адным з важнейшых разьдзелаў, фактычна нічога не гаворыць аб паходжаньні чалавека. Зусім не паданы асноўныя даныя па гэтаму пытаньню, якія маюцца ў распараджэньні сучаснай навукі. Аб фаўне таго часу прыводзяцца няправільныя даныя, як, напрыклад, „вялізарныя львы, тыгры, буйныя мядзьведзі і інш., у параўнаньні з якімі сучасныя драпежнікі паказаліся-б маленькімі шчанятамі" (с. 13-14).

Пры апісаньні прылад працы першабытнага чалавека зусім мала, і ў большасьці няправільна, падаюцца факты аб спосабах і тэхніцы вырабу гэтых прылад. Напрыклад, зусім няверна заначана, што крэмень пры дапамозе агню лягчэй паддаецца апрацоўцы (с. 21). Зусім памылкова таксама паказаны пераход ад каменных прылад да мэталёвых шляхам непасрэднага пераходу да топкі (плавкі), мінуючы халодную апрацоўку мэталяў-самародкаў. Наогул, у падручніку няма яснага і правільнага малюнку разьвіцьця тэхнікі на розных стадыях гістарычнага працэсу. Узьнікненьне прадзіва, ткацтва і ганчарства няверна аднесена да часу знаёмства часавека з мэталем. Гэта адбылося значна раней. Слаба акрэсьлена роля агню ў жыцьці першабытнага чалавека. Асабліва значэньне агню аўтары прыпісваюць у справе „пашырэньня рыбацтва, бо можна было з дапамогай агню зрабіць з рыбы смачную страву" (с. 23). Такое катэгорычнае сьцьверджаньне, як і цэлы рад іншых у кнізе, зьяўляецца зусім беспадстаўным. Вось яшчэ прыклад: „Мужчыны займаліся паляваньнем і рыбацтвам, чым дастаўлялі неабходнае для сям'і (?) харчаваньне, а жанчыны вялі хатнюю гаспадарку" (с. 23). І гэта гаворыцца аб тэй ступені разьвіцьця чалавечай грамады, калі аб сям'і гаварыць яшчэ нельга. Або чаго варты такія выразы: мяса зьядалася разам з попелам і зямлёй, „каб не памерці з голаду першабытныя людзі зьядалі нават сваіх старых, дзяцей і жанчын" (с. 24); скура ў якасьці адзежы прымацоўвалася да „караляў" на шыі, „слой тлушчу і гразі" абаранялі першабытнага чалавека ад холаду (с. 25). Можна прывесьці яшчэ вялікую колькасьць падобных бяссэнсіц пры асьвятленьні аўтарамі пытаньня аб прыручэньні жывёл, узьнікненьні земляробства, ремёстваў і інш., але і прыведзеных прыкладаў даволі, каб судзіць аб якасьці падручніка.

Не памінаючым аб іншых плямёнах і этнічных групах, якія засялялі ў старажытныя часы сучасную тэрыторыю СССР, аўтары адводзяць спэцыяльны падразьдзел толькі славянам — „нашым далёкім продкам". Яўна прыметна перавага, якую аўтары аддаюць славянам і поўнае ігнараваньне іншых насельнікаў тых часоў.

Яшчэ больш недарэчнасьцяў знаходзім мы ў разьдзелах аб паходжаньні рэлігіі і „Рабаўласьніцкая грамада".

Аддзел аб паходжаньні рэлігіі на гэтае пытаньне адказу не дае. Аўтары ня лічаць патрэбным растлумачыць вучням, што такое рэлігія, і гавораць аб рэлігійных вераньнях, абраднасьці, магіі,

мітолёгіі такім чынам, як быццам вучні ўсе гэтыя паняцьці разумеюць. У пытаньні аб паходжаньні рэлігіі аўтары трымаюцца няправільнай мэханістычнай концэпцыі тав. Скварцова-Сьцяпанава. Апрача таго, аўтары таксама „мэханістычна“ перапісваюць паасобныя цытаты з кніжкі тав. Скварцова-Сьцяпанава, бяз значных зьмен у стылі, у вельмі кароткім і цяжкім для вучняў выглядзе. Пры гэтым аўтары гавораць (стар. 55): „так паступова ўзьнікае і замацоўваецца вера ў душу (анімізм)“, але ні словам не агаварваюць тое, што з пункту погляду анімістычнай школы ўзьнікненьне веры ў душу і ёсьць узьнікненьне рэлігіі. У далейшым выкладаньні маюцца таксама буйныя памылкі. Перш за ўсё аўтары разглядаюць разьвіцьцё рэлігіі чыста мэханістычным мэтодам: новая грамадзкая форма—і зараз-жа новая форма рэлігіі. Яны ці ня ведаюць, ці забываюцца на кіруючую ўстаноўку Энгельса, што „рэлігія заўсёды захоўвае пэўны запас уяўленьняў, як спадчыну ад ранейшых часоў, бо ва ўсіх наогул галінах ідэолёгіі традыцыя зьяўляецца вялікай консэрвацыйнай сілай, але зьмены, якія адбываюцца ў гэтым запасе ўяўленьняў, азначаюцца клясавымі, г. зн. экономічнымі адносінамі людзей, робячых гэтыя зьмены“. Таму, як падкрэсьлівае Маркс, рэлігія ня мае сваёй уласнай гісторыі, але ў галіне рэлігіі, як і ў іншых галінах ідэолёгіі „толькі людзі, разьвіўшыя сваю матар'яльную вытворчасьць і свае матар'яльныя зносіны, зьмяняюць у гэтай сваёй дзейнасьці таксама сваё мышленьне і продукты свайго мышленьня“. Замест гэтай дыялектычнай устаноўкі, устаноўка аўтараў іншая, механістычная: „так, са зьменай гаспадаркі, са зьменай парадкаў у грамадзкім жыцьці, у грамадзкіх адносінах, зьмяняюцца і рэлігійныя погляды“ (стар. 59). Гэтая агульная памылка прыводзіць да паасобных конкрэтных памылак. Так, узьнікненьне монотэізму тлумачыцца тым, што калі на ўсходзе ствараюцца магутныя дзяржавы з царамі-дэспотамі на чале, „на такога цара пачынаюць глядзець, як на жывога бога, яму аднаму ўсё падпарадкавана; бог Бізантыі (?!?); бог Бабілёну зьяўляюцца ўладарамі, кіраўнікамі ўсяго сьвету“. Тут адразу некалькі буйных памылак. Перш за ўсё ня сказана, што політэізм пры гэтым не ліквідуецца, што ён па сутнасьці не ліквідаваны ні ў хрысьціянскай, ні ў яўрэйскай, ні ў мусульманскай рэлігіі. Далей, аўтары груба памыляюцца, калі думаюць, што культ цароў узьнікае сам сабою, мэханічна, зьнізу. Наадварот, гэты культ заўсёды ўводзіўся *зьверху*—пануючымі клясамі, самімі царамі, ці жрацамі па царскаму заказу і загаду. Урэшце, у аўтараў выходзіць, быццам існавалі „сусьветныя“ усходнія багі, якія ўтоесамліваліся з царамі. І тое і другое—грубая памылка. Нідзе на старажытным усходзе і тым менш у Бабілёніі ніводзін бог ня быў абвешчаны „сусьветным“ богам. Першыя „сусьветныя“ багі—гэта грэцкі, александрыйскі Зэўс-Сарапіс, потым юдайскі адзіны бог, таксама эліністычнай эпохі, а культы цароў існавалі побач з культамі гэтых багоў. Таксама паходжаньне культу продкаў у падручніку тлумачыцца вельмі проста: „Пасьля сьмерці кіраўніка-правадыра роду душа яго таксама кіруе праз новых старэйшых кіраўнікоў“. Культ прыроды тлумачыцца такім-жа чынам: „Дух першага продка цяпер кіруе сонцам, навальніцай“.

Атрымліваецца такое ўражаньне, нібы ня людзі ствараюць новыя вераньні, але рэлігійныя вераньні зьмяняюцца самі сабой, і пры гэтым „стыль“ аўтараў такі, што вучань можа падумаць, нібы духі сапраўды існуюць і кіруюць. Далей, магія паводле заявы аўтараў, зараджаецца і разьвіваецца ў сувязі з разьвіцьцём „веры ў душу“. Пытаньне спрэчнае, але аўтары маюць поўнае права такога пункту погляду трымацца. Аднак, зрабіўшы гэтую заяву, аўтары ніводным словам ня тлумачаць вучню, якім чынам з анімізму разьвіваецца магія. Наадварот, іх прыклады (стар. 56-57) паказваюць, што магічныя абрады мелі незалежнае ад анімізму паходжаньне; атрымліваецца, такім чынам, вельмі шкодная ў пэдагогічых адносінах непасьлядоўнасьць. Далей, забываючыся на ролю традыцыйных складаных элемэнтаў рэлігіі, аўтары ўпускаюць магчымасьць асьвятліць усе пытаньні першабытнай рэлігіі прыкладамі з сучасных рэштак апошняй, якія яшчэ бытуюць, на жаль, сярод менш сьвядомай і адсталай часткі нашага сялянства і з якімі патрэбна сталая барацьба. Адсюль зьяўляецца такая самая адарванасьць падручніка ад рэчаістасьці і ад спэцыяльных беларускіх умоў, на якую ўжо ўказана ў адносінах да першай часткі кніжкі. Урэшце, гаворачы аб шкоднасьці рэлігіі, аўтары падкрэсьліваюць толькі шкоднасьць хрысьціянства і маўчаць аб шкоднасьці юдайскай рэлігіі і ісляму, таксама бытуючых яшчэ на Беларусі. З гэтай прычыны ў вучняў можа скласьціся ўражаньне, што толькі хрысьціянская рэлігія шкодная, і што толькі з ёю патрэбна барацьба. Калі дадаць, што ўвесь аддзел напісаны вельмі цяжкім для вучняў стылем і падае вельмі мала конкрэтных прыкладаў, абмяжоўваючыся пераважна агульнымі формулёўкамі, дык мы вычарпаем усе галоўныя недахопы гэтага аддзелу. У выніку трэба прызнаць аддзел аб рэлігіі ня толькі нездавальняючым, але ў некаторых частках і проста шкодным.

Аддзел аб рабаўласьніцкай грамадзе зьяўляецца самай дрэннай часткай гэтай дрэннай кніжкі. Перш за ўсё на стар. 7 даецца няправільнае азначэньне рабаўласьніцкай формацыі. У пераліку асноўных рысаў гэтай формацыі ўпушчана тая роля гандлёвага і пазычковага капіталу, якая належыць апошняму ў стварэньні рабаўласьніцкай формацыі, і ў пералічэньні клясаў гандляры і квотнікі зусім адсутнічаюць. Клясавы склад формацыі наогул падаецца ў самым спрошчаным выглядзе: „уласьнікі зямлі, рабоў, з аднаго боку, і рабы—з другога“ (стар. 7). Адносна рабоў не падкрэсьлена, што для рабаўласьніцкай грамады характэрна пераважнае ўжываньне рабскай працы *на вытворчасьці,* чаму можа атрымацца ў вучняў уражаньне, што ўсякая грамада, дзе існуе рабства (хоць хатняе), належыць да рабаўласьніцкага спосабу вытворчасьці. Урэшце, даецца зусім няправільнае азначэньне месца, якое займае рабаўласьніцкая формацыя ў радзе іншых формацый. Аўтары даюць вельмі „сыстэматычны“ малюнак. „На месцы першабытнай грамады становіцца новая грамадзкая формацыя — рабаўласьніцтва... На руінах рабаўласьніцкай формацыі ўзьнікае новая формацыя, фэадалізм“ (чаму не фэўдалізм?). Тут аўтары ўступілі ў супярэчнасьць і з установкамі Маркса, і з гістарычнымі фактамі. Маркс ня раз падкрэсьліваў, што розныя

формы першабытнай абшчыннай уласнасьці маюць таксама і розныя формы свайго распаду (гл. „К критике политич. экономии“, стар. 55, ув. I, выд. 1932 г. і „Капитал“, т. I, стар. 36, прыл. 30), і што рабаўласьніцкі спосаб вытворчасьці мог узьнікнуць з прадуктаў распаду родавай абшчыны толькі там, дзе для яго былі адпаведныя спрыяючыя ўмовы, г. зн. у антычным сьвеце — нядарма Маркс нават лічыць за лепшае тэрмін „антычны спосаб вытворчасьці“. Маркс таксама падкрэсьлівае, што зьмена розных спосабаў вытворчасьці адбываецца ў сапраўдным дыялектычным гістарычным працэсе розным чынам, у розных комбінацыях (Введение к критике политической экономии, выд., 1932 г., стар. 29). Таму мы ў гістарычнай рэчаістасьці сустракаем рад прыкладаў пераходу ад родавай грамады проста да фэўдальнай з мінаваньнем рабаўласьніцкага этапу. Так было ў старажытных краінах усходу, у Кітаі, у германскіх і славянскіх народаў, у прыватнасьці і ў беларусаў. Забываючыся на вышэйпамянутае важнейшае ўказаньне Маркса, аўтары паўтараюць, мабыць, мімаволі і несьвядома памылку спаборнікаў азіяцкага спосабу вытворчасьці, якія скатваліся на няправільную позыцыю сусьветна-гістарычнага пункту погляду і прабуюць даць ёй „марксысцкае“ тлумачэньне (некаторыя з іх цяпер сумленна гэтую памылку прызнаюць і ад сваіх позыцый адмаўляюцца, — напр. *Ковалев*. „Учение Маркса і Энгельса об античном способе производства“. Изв. ГАИМК, 1932 г., стар. 74). Трэба адзначыць, да рэчы, што азначэньні фэўдалізму і капіталізму таксама недакладныя і недастатковыя, і настаўніку прыдзецца самому іх папаўняць і выпраўляць.

Даўшы памылковае азначэньне рабаўласьніцкай формацыі, аўтары даюць зусім нездавальняючае выкладаньне і робяць пры гэтым цэлы рад грубых тэорытычных і фактычных памылак, якія на кожнай старонцы падручніка сьведчаць аб іх поўным невуцтве ў гісторыі антычнага сьвету. Яны не адрозьніваюць ніякіх этапаў у працэсе складаньня рабаўласьніцкага грамадзтва. З іх выкладаньня выходзіць, быццам рабаўласьніцкі лад зьявіўся на сьвет адразу пасьля радавой эпохі, як Афродыта з галавы Зэўса. Між тым, Маркс зусім выразна і дакладна гаворыць, што паміж канчатковым складаньнем рабаўласьніцкага спосабу вытворчасьці і пэрыодам распаду першапачатковай абшчыны ляжыць пэрыод, калі падставу вытворчасьці клясычнага грамадзтва складалі, як і ў фэўдалізьме, дробная сялянская гаспадарка і вытворчасьць самастойных дробных рамесьнікаў (Капітал, т. 1, стар. 251, ув. 24, выд. 8, 1931 г.). У Грэцыі і ў Рыме гэты пэрыод цягнецца па 400-500 гадоў і характарызуецца жорсткай клясавай барацьбой з радам соцыяльных і палітычным правадыроў. Аўтары ня толькі нічога не гавораць аб гэтай эпосе, але нават ужываньне даўгавой кабалы, груба памыляючыся, адносяць да эпохі росквіту рабаўласьніцкага ладу і лічаць яе аднэй з крыніц пазьнейшага рабства (стар. 65), ня ведаючы, што даўгавое кабальнае права было спынена і ў Грэцыі, і ў Рыме яшчэ ў часы вышэйпамянутай пераходнай эпохі. Аўтары даюць ня *гісторыю* рабаўласьніцкага грамадзтва, як трэба было зрабіць гісторыкам-марксыстам *у падручніку па гісторыі*, але якісьці зусім абязьлічаны малюнак па-за часам

і прасторай. Што Грэцыя, што Рым, што V в., што I в.,—ім усё роўна. І факты таксама падганяюцца пад адзін шаблён: галоўная крыніца рабства і ў Грэцыі, і ў Рыме тая самая—права вайны,—хоць для Грэцыі на самай справе рабы здабываліся шляхам крадзяжу ці скупкі ў Малой Азіі, і толькі ў Рыме — шляхам вайны; для войнаў няма іншых прычын, як толькі патрэба ў рабох, усе пануючыя клясы наогул рабаўласьнікі, якія, відавочна, усюды і заўсёды толькі піруюць і гуляюць па цэлым начам і б'юць і забіваюць рабоў.

Адсюль выцякаюць і ўсе паасобныя грубыя памылкі. На што знаёміцца з фактамі антычнай гісторыі, калі ўся справа выражаецца адным словам „рабаўласьніцтва"? Любы факт „павінен" аб гэтым сьведчыць! І ў падручніку „сьведчыць". Войны грэкаў з пэрсамі (апошнія, аказваецца, жылі ў Малой Азіі! — стар. 63) у 500 г. былі пачаты... грэкамі і далі грэкам „аграмадную здабычу і вялізную колькасьць рабоў" (стар. 64). Ніводзін гісторык ва ўсім сьвеце дагэтуль аб такім сэнсе і выніках грэка-пэрсыцкіх войнаў нічога ня ведаў. З войнаў Рыму аўтары памінаюць толькі невядомую гісторыкам вайну з Эпірам (відавочна, аўтары нешта чулі аб паўстаньні супроць Рыму эпірскага гораду Молосса ў 157 г. і прынялі гэта за „вялізарную" вайну) і ні слова не гавораць аб тых войнах, у выніку якіх стварылася рымская рабаўласьніцкая дзяржава — аб т. зв. пунічных і македонскіх войнах, а потым аб азіяцкіх і гальскіх паходах. Гаворачы аб гаспадарцы, аўтары „адкрываюць" у Грэцыі „фабрыкі" (стар. 65), „адкрываюць", што грэцкія земляўласьнікі эксплёатавалі землі шляхам здачы іх у арэнду, нічога не гавораць аб эксплёатацыі руднікоў і залатых капальняў, дзе пераважна ўжывалася рабская праца, маўчаць аб гандлі, аб гандлёвых шляхох, аб войнах, як сродку зьнішчэньня гандлёвых конкурэнтаў, аб квотніцкіх опэрацыях грэцкіх храмаў і сьвецкіх грэцкіх і рымскіх квотнікаў. Соцыяльны лад рысуецца таксама нязгодна з фактамі, а згодна з невуцтвам аўтараў. Грэцкія сяляне, аказваецца, заўсёды былі „паднявольнымі", зваліся „ілотамі" (стар. 66). Але ілоты былі толькі ў Спарце; у рэшце Грэцыі ўжо з V веку прыгнечаных сялян ня было. Рамесьнікі і дробныя сяляне былі „амаль рабамі", „яны не дапускаліся на грамадзкія пасады і ня мелі, такім чынам, грамадзкіх правоў" (стар. 68)! Вось і антычны дэмократычны лад! Ён, да рэчы, аказваецца заключаўся ў тым, што „на многія вышэйшыя пасады людзей выбіралі, выбіраў натоўп"(!), а выбары адбываліся „падобна да таго, як адбываюцца і цяпер выбары ў буржазных краінах" (стар. 70). У Рыме спачатку і да канца існуюць патрыцыі і г. д. У Грэцыі існуюць мільёнэры, напр., Пасыён, які ў сапраўднасьці меў ня 900.000, а толькі каля 500.000 руб. на нашы грошы і жыў ня ў V, а ў IV в. А ў Рыме былі нібы багатыры, уладаўшыя капіталамі ад 6 да 30 млн. руб.! Аўтары ведаюць нават агульны лік рабоў—400.000 на 550.000 насельніцтва (стар. 68). Мы ня ведаем.... і да гэтага часу лічылі, што насельніцтва антычнага сьвету было ня менш за 20 млн. чалавек. Зразумела, што ніякай гісторыі палітычнага ладу Грэцыі і Рыму таксама ня было, ня было і... клясавай барацьбы вакол соцыяльна-палітычных пытаньняў. Аўтары нічога не гавораць аб абвостранай

клясавай барацьбе ў Грэцыі VII-VI в. і IV-III в., і ў Рыме ў пэрыод да пунічных войнаў і ў эпоху распаду сэнацкай рэспублікі. Яны абмяжоўваюцца толькі паўстаньнем Спартака, якое, як выключэньне, расказана з фактычнага боку больш-менш здавальняюча. Надзвычайна ўпрошчана гаворыцца таксама і аб антычнай культуры. Яна зводзіцца да апісаньня аднэй лаўрэнцкай віллы (пры гэтым Лаўрэнцыя аказваецца ў Грэцыі!—стар. 71), піроў і глядыятарскіх боек. Праўда, аўтары заўважаюць, што пры раскопках у Грэцыі (а ў Рыме?) было знойдзена многа твораў мастацтва, „у якіх паказваецца грамадзкае і прыватнае жыцьцё тагочаснай арыстократыі". Але для чаго нам арыстократыя? Бо гэта рабаўласьнікі. Аўтары забываюцца на высокую каштоўнасьць для сучаснай культуры антычнай культуры і плююць на тое, што яе высока ацэньвалі ня раз Маркс і Энгельс і што яны раілі яе вывучаць. Тут аўтары ў сваіх наплявацельскіх адносінах да ролі рабаўласьніцкай формацыі ў гістарычным працэсе ўпадабняюцца Дюрынгу, якога з такой энэргіяй і сілай выкрываў Энгельс (Анти-Дюринг, выд. III, стар. 167-169). Аўтарам трэба было-б успомніць пра грэцкі тэатр і грэцкую драму, ад якіх вядзе сваё існаваньне сучасны тэатр і сучасная драма, пра першых матар'ялістаў Леўкіппа і Дэмокрыта, пра першага вучонага-аналітыка Арыстотэля, якога Маркс ня раз цытуе ў сваіх працах, асабліва ў „Капітале", пра такіх александрыйцаў, як Эўклід, геомэтрыя якога вывучаецца і ў савецкіх школах, як Эратосфэн, які першы прызнаў, што зямля ёсьць куля, як Арыстарх і Птолёмэй, творцы першай сонечнай сыстэмы. Замест гэтага вучні нашых школ запомняць толькі, што антычная культура—гэта толькі п'янкі з прыёмамі рвотнага, каб зноў піць і есьці, ды крывавыя бойкі глядыятараў!

Наогул-жа ў падручніку вельмі многа няўдалых і малазразумелых для дзяцей формулёвак, аб адным і тым-ма паўтараецца ў некалькіх разьдзелах, прыводзяцца анэкдотычнага характару легенды, якія падаюцца ў відзе фактычнага матар'ялу (вайна за агонь і інш.).

На гэтым мы канчаем. Вывад ясны: падручнік зьяўляецца шкоднай халтурай, якую ДВС дапусьціў у школы толькі ў выніку якогась дзіўнага непаразуменьня.

Кніга відавочна была складзена насьпех, нядбайна, людзьмі зусім непадрыхтаванымі, выпадковымі. На справу ўкладаньня падручнікаў павінна быць зьвернута больш сур'ёзная ўвага. Пытаньне аб падручніках „важнейшае пытаньне ў справе выхаваньня мільёнаў нашага маладога пакаленьня. Наша пакаленьне павінна стаяць вышэй нас на цэлую галаву па ведам, а яно будзе стаяць вышэй нас толькі тады, калі мы будзем вучыць нашых дзяцей пісьменнасьці і ўсялякім навукам ды і па добрым падручнікам, калі ў нас ня будуць займацца ў справе выданьня падручнікаў сьвістапляскай. У нас не хапае паперы, ды і ня хопіць, калі мы кожны год практыкуемся на складаньні падручнікаў. Досыць гэтых практыкаваньняў над падручнікамі. Трэба даць падручнікі больш-менш сталыя". (З дакладу т. Галадзеда на сходзе Менскага partактыву 13-XII-32 г.). Школьная сэкцыя ДВС павінна з боль-

шай адказнасьцю адносіцца да дапушчэньня падобных кніг у якасьці падручнікаў для школ.

Падручнік гэты трэба безадкладна ізьяць, каб абараніць галовы нашых школьнікаў ад засьмечаньня тым мутам невуцтва і блытаніны, ідэолёгічнай і фактычнай, якая ў ім зьмяшчаецца. Такое заключэньне вынесла і нарада супрацоўнікаў сэкцыі археолёгіі і этнографіі Ін-ту гісторыі Акадэміі Навук і БДМузэю з удзелам настаўнікаў грамадазнаўцаў.

---

# ХРОНІКА

## Лясная дасьледчая справа на Беларусі
### (1922—1932 гг.).

У той час, як на Захадзе, у капіталістычных краінах, мы наглядаем поўны экономічны і культурны крызіс, у СССР і яго паасобных частках наглядаецца шпаркі рост навукі і тэхнікі. Дзякуючы правядзеньню ленінскай нацыянальнай політыкі, мы маем у БССР рад навуковых установ, якія працуюць на карысьць соцбудаўніцтва. Аднэй з такіх установ зьяўляецца Беларускі навукова-дасьледчы лесапрамысловы інстытут (Гомель, Коопэратыўная, 8), які налічвае ў складзе сваіх працаўнікоў 1 акадэміка, 3 профэсароў, 7 старэйшых навуковых супрацоўнікаў або доцэнтаў і каля 20 малодшых навуковых супрацоўнікаў і асыстэнтаў. БНДЛІ мае сваю лябораторыю па лесахэміі, па апрабаваньню лясного насеньня і некалькі габінэтаў: па лесаэкономіцы, лесаэксплёатацыі, лесагадоўлі, мэханічнай апрацоўцы дрэва. БНДЛІ рыхтуе новых лясных дасьледчыкаў: усяго цяпер маецца 10 асьпірантаў, якія працуюць у паасобных галінах лясной навукі. У якасьці апорных пунктаў на мясцох БНДЛІ мае тры раённыя лясныя дасьледчыя станцыі: 1) Жорнаўскую, 2) Валяціцкую і 3) Горацкую, якія ахопліваюць лістаўвыя, хваёвыя і яловыя дрэвастаны БССР, вывучаючы лесааднаўленьне, плоданашэньне парод і інш. пытаньні лясной гаспадаркі БССР. Раённыя лясныя дасьледчыя станцыі працуюць ужо ня першы год: яны заснаваны раней, калі толькі было ўзьнята пытаньне аб лясной дасьледчай справе на Беларусі.

Яшчэ ў 1922 годзе аўтар гэтых радкоў ставіў пытаньне аб організацыі лясной дасьледчай справы ў БССР на лясной нарадзе пры НКЗ; у выніку гэтага была створана камісія па лясной дасьледчай справе, якая вызначыла месца для пастаноўкі досьледаў. У часопісе „Народная гаспадарка Беларусі“ (№ 10—1922 г.) мной быў зьмешчаны артыкул: *„Жорнаўская лясная дача, як об'ект для вывучэньня лясоў БССР і гаспадаркі ў іх“*. У гэтай дачы цяпер існуе лясная станцыя.

Першая справаздача Беларускай лясной дасьледчай станцыі (фактычна Жорнаўскай) была надрукавана ў 1925 г. асобнай кніжкай, у якой зьмешчана апісаньне тыпаў лясоў проф. Г. М. Высоцкага, вядомага дасьледчыка і вучонага (цяпер працуе на Украіне).

У 1926 г. была створана пры Беларускай акадэміі с/г у Горках—Цэнтральная лясная дасьледчая станцыя (дырэктарам якой быў проф. Мельнік). Гэтая ЦЛДС выпусьціла 6 тамоў прац (звыш 85 друкаваных аркушоў) пад агульнай назвай: „Матар'ялы па лясной дасьледчай справе БССР“, апошні (шосты) выпуск вышаў ужо ад імя Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту лясной прамысловасьці і лясной гаспадаркі (дырэктар П. В. Карч).

Цяпер БНДЛІ будуе ў Гомелі 3-павярховы будынак для габінэтаў і лябораторый. Такім чынам, былая „вотчына“ Паскевіча зьяўляецца цяпер пролетарскім цэнтрам прамысловасьці і цэнтрам лясной навукі.

Рост лясной дасьледчай справы ў БССР можа быць адлюстраваны наступнымі лічбамі выдаткаў (па гадох) у тысячах рублёў: 1924 г.—3,0; 1925—9,6; 1926—27,0; 1927—37,0; 1928—32,0; 1929—37,0; 1930—102,0; 1931—231,0; 1932—330,0.

Калі параўнаць гэтыя лічбы з тымі, якія мы маем, напр., у Польшчы, дык будзем мець наступнае:

На навукова-дасьледчыя інстытуты Польшчы па ўсім галінам культуры і навукі было выдаткавана:

| | |
|---|---|
| У 1929 годзе. . . . . | 4,8 млн. злотых |
| „ 31/32. . . . . . . | 3,2 „ „ |
| „ 32/33. . . . . . . | 1,0 „ „ |

Лічачы злоты за 22 кап., будзем мець выдаткі на ўсю навукова-дасьледчую работу Польшчы ў суме 220 тысяч руб., што менш за выдаткі толькі на адну на-

вукова-дасьледчую работу ў галіне лясной прамысловасьці БССР на 33%.

Такім чынам, лясная дасьледчая справа на Беларусі стаіць вышэй за ўсю навукова-дасьледчую справу ў Польшчы, па свайму размаху, ахопу навуковай думкай паасобных пытаньняў, шырыні досьледаў і г. д.

Мы маем у БССР, як і ў СССР, росквіт навукі і тэхнікі, яе „залаты век".

Навука БССР за 15 год мае многа дасягненьняў, яе кадры бязупынна павялічваюцца, колькасьць навуковай продукцыі расьце і шырыцца.

Толькі адзін БНДЛІ выконвае ў 1932 г. 30 навуковых тэм, якія дадуць каля 10 навуковых зборнікаў. Невялічкі зборнік пад назвай: „Уплыў спосабаў і тэхнікі падсочкі на колькасьць і якасьць жывіцы" выпушчаны БНДЛІ ў 1932 годзе; за ім павінны выйсьці з друку: „Лясная гаспадарка БССР за 15 год", потым: „Асінавая сырцовая база запалкавай прамысловасьці БССР", лесахэмічны зборнік (другі), „Сасновыя дрэвастаны БССР" і г. д. і г. д.

За дзесяць год свайго існаваньня (калі лічыць пачатак з 1922) лясная дасьледчая справа вырасла ў значную адзінку навуковай думкі, якая ўваходзіць у рад навукова-дасьледчых установ, аб'ядненых у галіне плянаваньня і мэтодыкі Акадэміяй Навук БССР.

Проф. В. І. П е р а х о д.

## Архівы—на службу соцыялістычнага будаўніцтва

Тысячы навукова-дасьледчых установ Савецкага саюзу бязупынна працуюць над выяўленьнем і скарыстаньнем усіх багацьцяў Савецкай Краіны, дапамагаючы не на словах, а на справе пасьпяховаму разгортваньню соцыялістычнага будаўніцтва.

У ліку навукова-дасьледчых установ, уключыўшыхся цалкам на правядзеньне ў жыцьцё задач 1-ае пяцігодкі, вельмі скромнае месца займаюць савецкія архіўныя ўстановы. Нават самая назва „архіў" мала зразумела нашай пролетарскай грамадзкасьці, бо ў назьве „архіву", архіўны работнік зьвязана цяжкая спадчына нейкай закасьцянеласьці, абывацельскі пагляд. Шмат хто яшчэ да гэтага часу думае, што архіў—гэта месца, дзе нібы-та хаваецца нікому непатрэбны папяровы хлам, варты толькі пераапрацоўкі на папяровых фабрыках. Адзін мільён спраў і кніг. Сотні мільёнаў асобных докумэнтаў, згрупаваных у справы,—вось што захоўвае ў сваіх мурох аддзяленьне Цэнтральнага архіўнага кіраўніцтва БССР у г. Віцебску.

Кожны докумэнт мае тое ці іншае палітычнае, гаспадарчае, культурнае, навукова-гістарычнае і інш. значэньне. Кожны докумэнт адбівае рысы мінулага жыцьця, якія ў сучасны момант могуць быць выкарыстаны для справы соцыялістычнага будаўніцтва.

Карысныя выкапні, энэргетычныя багацьці і багацьці апалу, не скарыстаныя капіталістамі, вынаходзтвы, навуковыя і гаспадарчыя досьледы, тэхнічныя пляны, чарцяжы, вось кароткі пералік таго, што можна знайсьці ў архіўных докумэнтах. Выкарыстаньне гэтых докумэнтаў для патрэб соцыялістычнага будаўніцтва дае вельмі значную экономію сродкаў, бо тыя ці іншыя галіны гаспадаркі вывучаліся і распрацоўваліся раней прадстаўнікамі навукі і тэхнікі і цяпер у мэтах экономіі сродкаў варта выкарыстаць работу і практыку мінулага. Сотні заявак розных цэнтральных і мясцовых установ СССР задаволены Беларускім архівам на падставе архіўных докумэнтаў.

Напярэдадні 2-ой пяцігодкі савецкі архіў ужо афіцыяльна ператварыўся ў навукова-дасьледчую ўстанову з яснымі конкрэтнымі абавязкамі ў галіне навукова-дасьледчай работы, па распрацоўцы архіўных докумэнтаў, якія хаваюць у сабе карысныя для соцбудаўніцтва весткі.

Але, разам з досьледамі гаспадарча-экономічнага парадку, архіўныя докумэнты павінны быць выкарыстаны ў палітвыхаваўчых мэтах, шляхам паказу і належнага аналізу розных гістарычных докумэнтаў.

У гэтых іменна мэтах 25 лістапада 1932 г. пры ўдзеле шырокай грамадзкасьці і прадстаўнікоў *Цэнтраархіву БССР* у Віцебску пры аддзяленьні Цэнтраархіву адчынен першы на Беларусі „Габінэт архівазнаўства і агітамасавае работы", які ставіць мэту, шляхам выкарыстаньня архіўных докумэнтаў, праводзіць сярод шырокай пролетарскай грамадзкасьці і, галоўным чынам, сярод нашай моладзі, работу па вывучэньню клясавага змаганьня працоўных, рэвруху на Беларусі, шляхоў разьвіцьця капіталістычнай і соцыялістычнай гаспадаркі і інш.

Адчыненьне пры Габінэце выстаўкі архіўных докумэнтаў на розныя тэмы, як, напрыклад, „1917 год на Віцебшчыне", ды інш, павінна зьявіцца адным з найлепшых мэтодаў работы гэтага Габінэту.

Фота-монтажы: „Соцыялістычнае і калгаснае будаўніцтва на Віцебшчыне за 1-ую пяцігодку". „Героі 1-ае пяцігодкі", „Сьвяткаваньне 15-ці годзьдзя Кастрычніка ў Віцебску", выстаўка рэволюцыйных плякатаў—таксама павінны заняць належнае месца ў рабоце Габінэту архівазнаўства і агітмасавае работы.

Практыка Віцебскіх навуковых працаўнікоў Беларускага архіву мае на мэце наблізіць архіўныя документы да працоўных і паказаць усю карысьць ад азнаямленьня з імі працоўнага насельніцтва і комуністычнай моладзі.

У другую пяцігодку абавязкова трэба канчаткова зьнішчыць непарушныя муры „архіўнай ведамасьцьвенасьці“ і гэтым самым уцягнуць шырокія пролетарскія масы ў непасрэдны, актыўны ўдзел па выяўленьню, распрацоўцы і вывучэньню архіўных документаў і па выкарыстаньню іх для справы соцбудаўніцтва.

Архівы чакаюць у свае дасьледчыя залі, шырокія рабочыя масы навуковых работнікаў, настаўніцтва, партыйных і комсамольскіх работнікаў, бо гэта залог таго, што аріўныя документы змогуць быць выкарыстаны ў справе соцбудаўніцтва.

Брыгада: Дзьмітрыеў, Рабцаў, Васілевіч, Багародзкі.

## Шаўкоўніцтва ў Тураўскім раёне

Досьледы па разьвіцьцю шаўкоўніцтва ў раёне распачаты ў 1930 г. Сыравіннай базай для выкармкі шаўкавічных чарвей паслужыла наяўнасьць у раёне 242 дрэў морвы (шаўкавіцы Магізаева) у ўзросце ад 30 да 40 гадоў, якія знаходзяцца ў 4-х насельных пунктах, на адлегласьці адзін ад аднаго да 5 клм (Азяраны 219 дрэў, Пагост 12 дрэў, Старажаўцы 10, Перароў 1 дрэва). Да 1930 г. гэтыя дрэвы нікім не скарыстоўваліся і аб шаўкоўніцтве ніхто ня меў паняцьця. У 1930 г. пасьля праведзенага абсьледваньня з боку Мозырскага краязнаўчага т-ва ў Азяранах па ініцыятыве лесавода Ліцьвіна ўпяршыню была організавана арцель па выкармліваньню шаўкавічных чарвей у колькасьці 12 чал. Гэтай арцельлю і былі распачаты досьледы разьвіцьця шаўкоўніцтва. На працягу летняга пэрыоду ў 1930 г. была зроблена адна выкармка вусеню-папрадухі шаўкоўнай (шелкопряда), у выніку якой атрымана 40,4 кг коканаў. Апрача гэтага, у тым-жа годзе пад кіраўніцтвам кіраўніка шоўкаводнай экспэдыцыі Інстытуту прамысловасьці БССР тав. Камаровай была зроблена яшчэ адна выкармка і здабыта 60 кг коканаў. Такім чынам, за сэзон было зроблена 2 выкармкі і здабыта 100,4 кг коканаў. Пры аналізе коканаў у Інстытуце прамысловасьці БССР яны аказаліся даволі высокай якасьці і фігуравалі на Ўсебеларускай выстаўцы прамысловасьці і сельскай гаспадаркі ў 1930 г. як каштоўны экспонат. Частка-ж іх пераслана на шоўкаводную фабрыку для перапрацоўкі. Па наяўным даным пры перапрацоўцы коканаў на шоўкаводнай фабрыцы атрыманы такія вынікі: з здабытага шоўку даволі высокай якасьці зроблены портрэт Уладзімера Ільліча Леніна, адзін чырвоны сьцяг разьмерам $1^1/_2$ мэтра на $1^1/_2$ мэтра і 12 тузін шоўкавых панчох. Высокая якасьць коканаў і шоўку пры правядзеньні першых досьледаў разьвіцьця шаўкоўніцтва атрымана дзякуючы штодзеннаму ўжываньню наступных мерапрыемстваў:

а) Пры выкармцы вусеня папрадухі шаўкоўнай ужывалася толькі цэлілярная грэна (здаровая).

б) Кармленьне чарвей праводзілася ў памяшканьні з вольным паветрам і пры тэмпэратуры ня ніжэй 18° Ц.

в) Ужывалася паўторная выкармка з штучна ажыўленай грэны (яечак).

г) Кожны дзень чэрві чысьціліся ад падсьцілкі, кармленьне чарвей праводзілась добрым, нестарым, чыстым, правяленым у прахладным пакоі лістам, пачынаючы з 4-х гадзін раніцы і канчаючы 10 гадзінамі вечара, усяго 8 раз у суткі.

е) Ліст загатаўляўся на цэлыя суткі і трымаўся у прахладным пакоі. Усе пералічаныя моманты спрыялі падвышэньню ўраджайнасьці коканаў і скарачэньню тэрміну выкармкі.

У зьвязку з тым, што досьледы праводзіліся толькі першы год, сыравінная база наяўных тутавых дрэў поўнасьцю ня была скарыстана. Пры правільным-жа выкарыстаньні гэтай базы і пры наяўнасьці 2-х выкармак шаўкавічных чарвей можна было-б атрымаць пры добрым ураджаі 500 кг сырых коканаў, або 75 кг шоўку. Калі-ж гэтыя коканы разматаць на матальных варштатах і выткаць на шоўкавай фабрыцы, то атрымаецца 320 мэтраў шоўкавай тканіны і пабочных матар'ялаў: 11 кг шоўкавай ваты і 78,4 кг штучных угнаеньняў. Зразумела, што на гэтых першых посьпехах нельга было спыніцца, а паколькі шаўкоўніцтва зьяўляецца рэнтабельным і выгодным, то было конкрэтна намечана і на далейшы час праводзіць досьледы, поўнасьцю выкарыстаць наяўную сыравінную базу і яшчэ больш пашырыць сыравінную базу шляхам закладкі куставых плянтацый морвы і пасадкі сеянцаў. У 1931 г. па раённаму пляну было намечана ў Азяранскім колгасе правесьці 2 выкармкі шаўкавічных чарвей з здабычай 300 кг сырых коканаў і закласьці гадавальнік з пасевам морвы на плошчы 1000 кв. мэтраў, а таксама утварыць пасадку чаранкоў вясной на плошчы 3 га з старых морваў. Гэты плян поўнасьцю не ажыцьцёўлены, бо Азяранская арцель у зьвязку з пераходам кіраўніка Ліцьвіна на іншую работу распалася, і справа разьвіцьця шаўкоў-

ніцтва была перадана Азяранскаму колгасу, які спэцыялістаў ня меў і гэтаму пытаньню не аддаваў сур'ёзнай увагі, не даацэньваў важнасьці гэтай справы, а аднёсься опортуністычна; у выніку ўсяго гэтага замест 1000 кв. мэтраў, гадавальнік быў закладзены толькі на 100 кв. мэтрах і то з прычыны безгаспадарчага дагляду і адсутнасьці праполкі гэты гадавальнік на 70% загінуў. Замест намечаных 2-х выкармак шаўкавічных чарвей праведзена была толькі адна выкармка, якая дзякуючы няўмеламу дагляду дала толькі 8 кілёграм коканаў. Пасадка-ж чаранкоў праведзена на плошчы 7 га. З пачатку засеву рост чаранкоў ішоў здавальняюча, але-ж дзякуючы таму, што ўчастак, дзе пасеены чаранкі, не агароджаны і служыць пасьбішчам для жывёлы, то і выгляд іх цяпер дрэнны.

У 1932 г. выкармка шаўкавічных чарвей у Азяранскім колгасе і па раёну зусім не праводзілася і кармовы фонд застаўся не скарыстаным.

Па контрольным-жа лічбам было намечана засеяць сеянцаў морвы на плошчы 100 га, з якіх вясною 50 га і восеньню 50 га, для гэтага патрэбна было 2 мільёны сеянцаў. На правядзеньне гэтай работы было адпушчана 10.000руб. крэдыту, але-ж паколькі пасадачнага матар'ялу ў раён ня было завезена, то і пасадка не праведзена і крэдыты ня выкарыстаны.

Такім чынам, пасьпяхова распачатыя досьледы разьвіцьця шаўкоўніцтва ў раёне ў 1930 г., ня гледзячы на наяўнасьць кармовага фонду і пэрспэктыў разьвіцьця дзякуючы няўважлівым адносінам з боку раённых колгасна-коопэрацыйных організацый і Азяранскага колгасу—за апошнія 2 гады знаходзяцца ў заняпалым стане і справа гэта ў далейшым не пасоўваецца наперад, бо шаўкоўніцтва ў вытворчыя пляны колгасаў ня ўключалася.

Улічваючы, што разьвіцьцё шаўкоўніцтва дае вялікую карысьць і зьяўляецца рэнтабельнай і экономічна-выгоднай дапаможнай галіной соцыялістычнай сельскай гаспадаркі,—у другой пяцігодцы раёну намячаецца гэтую справу ў значнай ступені пашырыць і праводзіць досьледы з пасадкай морвы пры буйных колгасах, саўгасах, школах, лесаўчастках і на бросавых землях, а ў першую чаргу поўна выкарыстаць наяўную сыравінную базу і куставыя морвы ў Азяранах.

Для пашырэньня кармовага фонду намечана набыць пасадачны матар'ял праз закладку гадавальніку з пасевам морвы да 0,5 га, з якой плошчы можна атрымаць да 250.000 сеянцаў.

Г. Кернажыцкі.

## Краязнаўчая справа ў Магілеўскім раёне

Пасьля ліквідацыі акруговага таварыства краязнаўства ў Магілеўскім раёне пачалася паласа заняпаду краязнаўчае справы. Раённае бюро краязнаўства, пасьля выезду з Магілева некаторых краязнаўцаў, распалася, справа дасьледваньня раёну перайшла ў рукі раённага бюро сэкцыі навуковых працаўнікоў. Сэкцыя вылучыла брыгаду ў 20 чалавек па апісаньню Магілеўскага раёну. У аснову сваёй работы брыгада паклала „Програму географа-экономічнага апісаньня раёну", якая складзена Інстытутам экономікі АН БССР.

У процэсе работы брыгады выявілася крайняя неабходнасьць аперціся на сетку краязнаўчых ячэек на фабрыках і заводах. Цяпер створана пры раённым аддзеле асьветы часовае організацыйнае краязнаўчае *бюро з 5 чалавек пад кіраўніцтвам* старшыні Магілеўскага райпляну т. Катковіча.

Першай задачай бюро зьяўляецца сабраць раённыя краязнаўчыя сілы, організаваць на прадпрыемствах г. Магілева краязнаўчыя ячэйкі, пашырыць іх сетку ў саўгасах і колгасах, ВНУ і школах. Краязнаўчыя ячэйкі будуць мобілізаваны на вывучэньне і апісаньне свайго раёну.

Базай далейшага разгортваньня работы робіцца Магілеўскі Пэдагогічны Ін-тут; краязнаўчая ячэйка яго налічвае 50 організаваных членаў. Другая краязнаўчая ячэйка існуе пры Магілеўскай навукова-дасьледчай станцыі лекавых расьлін. Ячэйка налічвае 27 чалавек і прарабіла вялікую дасьледчую работу па вывучэньню глебы, расьлін, клімату Магілеўскага раёну. На станцыі сыстэматычна вядуцца мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні.

Былых краязнаўцаў многа на Магілеўшчыне, але назіраецца вялікая недаацэнка краязнаўчае справы. Нават у рэдакцыі мясцовай газэты месяцамі ляжаць артыкулы аб задачах краязнаўства таму, што працаўнікі рэдакцыі лічаць краязнаўчую справу ня пільнай. Краязнаўства ўведзена як прадмет выкладаньня ў мясцовых ВНУ, але гэта не зрабіла ніякага ўплыву на зрух краязнаўчае справы ў раёне і адбіваецца толькі ў ведамасьцях на выплату зарплаты.

Апісаньне раёну павольна пасоўваецца: апісаны некаторыя фабрыкі і заводы Магілева, цяпер заканчваецца апісаньне шоўкавай фабрыкі. Мясцовы райплян, з дапамогай ЦБК, мяркуе надрукаваць апісаньне раёну паасобнымі монографіямі.

Д. Васілеўскі.

